## Прадмова

Мінск — сталіца і самы буйны горад Рэспублікі Беларусь, горад, які з'яўляецца афіцыйным месцам знаходжання міждзяржаўных органаў Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

Мінск — гэта горад з багатым гістарычным мінулым. Першае ўпамінанне аб ім у старажытнарускім летапісе «Аповесць мінулых гадоў» адносіцца да 3 сакавіка 1067 г.

Амаль кожны горад, побач з навуковай гісторыяй, мае паданне аб сваім паходжанні. У старажытнага Мінска таксама ёсць такое паданне. Згодна з ім, горад заснаваў славуты асілак-знахар па мянушцы Менеск, які ў спрадвечныя часы пасяліўся між Татарскім канцом і Пярэспінскім мастком каля самага Віленскага паштовага шляху (раён сённяшняй Старажоўкі). Ён пабудаваў на рацэ Свіслачы дзівосны каменны млын на сем колаў. Кажуць, што ў яго млыне мука малолася не з жыта, а з вялізных каменных валуноў. Грукат незвычайных жорнаў быў чуваць за многія вёрсты, і вельмі верагодна, што Менеск тым самым застрашваў нядобрых людзей, якіх хапала і ў тыя далёкія часы.

Яшчэ кажуць, што апоўначы Менеск раз'язджаў на сваім млыне па селішчах і збіраў дружыну з смелых і дужых людзей, з якіх пазней утварыўся цэлы народ і пасяліўся побач з млынам. Тут і быў заснаваны горад, названы імем волата — Менск.

## Предисловие

Минск—столица и самый крупный город Республики Беларусь, город, который является официальным местом пребывания межгосударственных органов Содружества Независимых Государств.

Минск—это город с богатым историческим прошлым. Первое упоминание о нем в древнерусской летописи «Повесть временных лет» относится к 3 марта 1067 г.

Почти каждый город, вместе с научной историей, имеет предание о своем происхождении. У древнего Минска также есть такое предание. Согласно с ним, город основал славный богатырь-знахарь по прозвищу Менеск, который в стародавние времена поселился между Татарским концом и Переспинским мостиком около самого Виленского тракта (район современной Сторожевки). Он построил на реке Свислочь удивительную каменную мельницу на семь колес. Говорят, что на его мельнице мука мololась не из зерна, а из огромных каменных валунов. Грохот необычных жерновов был слышен за многие версты, и, возможно, что Менеск тем самым устрашал недобрых людей, которых хватало и в те далекие времена.

Еще говорят, что в полночь Менеск разъезжал на своей мельнице по селениям и набирал дружину из смелых и сильных людей, из которых позднее сложился целый народ и поселился рядом с мельницей. Тут и был основан город, названный по имени богатыря—Менск.

Ёсць і іншыя легенды заснавання горада, але гэта лічыцца найбольш верагоднай.

Пачатак трэцяга тысячагоддзя Мінск сустрэў у ліку 273 буйнейшых гарадоў свету з насельніцтвам больш 1 млн. чалавек, займаючы сярод іх па колькасці гараджан 116-е месца. У сталіцы Беларусі пражывае каля 17 % насельніцтва краіны. Мінск адносіцца да ліку тых сталічных гарадоў Еўропы, якія ў другой палове 20 ст. мелі найбольш высокія тэмпы росту насельніцтва. У перыяд з 1959 да 2003 г. колькасць яго жыхароў вырасла амаль у 6 разоў, дасягнуўшы 2 млн. чалавек.

Мінск — горад, які знаходзіцца ў самым цэнтры Еўропы. Праз яго стагоддзямі ішлі вядомыя гандлёвыя шляхі. Адзін, паўночна-ўсходні, праз Лагойск, Барысаў, Оршу і Смаленск на Маскву. Другі, паўднёва-заходні, праз Слуцк і Валынь прыводзіў у Канстанцінопаль. Трэці, заходні, праз Брэст злучаў горад з краінамі Цэнтральнай і Заходняй Еўропы. Чацвёрты, паўночна-заходні, праз Вільню выводзіў да балтыйскіх партоў. Гарадскія ўлады імкнуцца, каб гэтыя гістарычныя шляхі дзейнічалі і ў нашы дні, прычым не толькі тэхнічна, але і як шляхі чалавечых камунікацый.

Для Мінска характэрна выгаднае не толькі геаграфічнае, але і геапалітычнае становішча. Гэта своеасаблівае «культурнае перакрыжаванне», горад, дзе сустракаюцца дзве цывілізацыі — заходняя і ўсходняя культуры. І, што асабліва важна, тут існуе ўстойлівая сацыякультурная і міжканфесіянальная сітуацыя. Мірнае і ўзаемапаважлівае суіснаванне прадстаўнікоў розных нацыянальнасцей і канфесій параджае ўласцівыя мінчанам і беларусам у цэлым талерантнасць, прыязныя і зацікаўленыя адносіны да розных культур, вераванняў і звычаяў. Тым самым ствараецца спрыяльны сацыяльна-псіхалагічны клімат для гасцінных, прыязных і клапатлівых адносін да людзей кожнай нацыі, кожнай рэлігіі, кожнай культуры, кожнай мовы. Усё гэта ўзмац-

Есть и другие легенды основания города. Но эта считается наиболее вероятной.

Начало третьего тысячелетия Минск встретил в числе 273 крупнейших городов мира с населением более 1 млн. человек, занимая среди них по численности горожан 116-е место. В столице Беларуси проживает около 17 % населения страны. Минск относится к числу тех столичных городов Европы, которые во второй половине 20 в. имели наиболее высокие темпы роста населения. В период с 1959 по 2003 г. численность его жителей выросла почти в 6 раз, достигнув 2 млн. человек.

Минск — город, расположенный в самом центре Европы. Через него веками шли известные торговые пути. Один, северо-восточный, через Логойск, Борисов, Оршу и Смоленск на Москву. Другой, юго-восточный, через Слуцк, Волынь приводил в Константинополь. Третий, западный, через Брест соединял город со странами Центральной и Западной Европы. Четвертый, северо-западный, через Вильно выводил к балтийским портам. Городские власти стремятся, чтобы эти исторические пути действовали и в наши дни, причем не только технически, но и как пути человеческих коммуникаций.

Для Минска характерно выгодное не только географическое, но и геополитическое положение. Это своеобразный «культурный перекресток», город, где встречаются две цивилизации — западная и восточная культуры. И, что особенно важно, здесь существует устойчивая социокультурная и межконфессиональная ситуация. Мирное и взаимоуважительное сосуществование представителей разных национальностей и конфессий порождает свойственные минчанам и белорусам в целом толерантность, дружественное и заинтересованное отношение к различным культурам, верованиям и обычаям. Тем самым создается благоприятный социально-психологический климат для гостеприимного, дружественного и заботливого отношения к людям любой нации, любой религии, любой культуры, любого языка. Все это уси-

няе магчымасці абмену найноўшымі навуковымі ідэямі, тэхналогіямі і адукацыйнымі поспехамі.

Гарадскія ўлады беражліва ставяцца да культурных традыцый, гісторыі Мінска, якая налічвае ўжо 938 гадоў. Вядзецца актыўная рэканструкцыя галоўнага гістарычнага цэнтра Мінска — Верхняга горада і Траецкага прадмесця. На сваім ранейшым месцы можна ўбачыць шмат гадоў назад разбураную, а цяпер адбудаваную Мінскую ратушу. Ратуша — прамы напамін пра тое, што ўжо ў 1499 г. наш горад меў магдэбургскае права. Большая частка ратушы аддадзена музею гісторыі Мінска.

Гарадскія ўлады ставяць сваёй галоўнай мэтай павышэнне якасці жыцця мінчан. Пры гэтым яны не хаваюць сваіх амбіцый зрабіць Мінск горадам, зручным для жыхароў і прывабным для яго гасцей. Таму ўжо сёння звяртаецца асаблівая ўвага на тое, каб развіццё горада насіла ўстойлівы і дынамічны характар, гарманічна вырашаліся пытанні развіцця самога горада і эканомікі, мадэрнізацыі камунальнай гаспадаркі, фарміравання здаровага экалагічнага асяроддзя, стварэння эфектыўнай арганізацыйнай структуры кіравання.

Як кажуць многія турысты, Мінск паўстае перад імі наступным чынам:

па-першае, як горад-сталіца, які геаграфічна размешчаны ў самым цэнтры Еўропы і таму ўплывае на дынаміку жыццядзейнасці іншых еўрапейскіх народаў і адчувае іх уплыў на сваім развіцці;

па-другое, Мінск — важны гістарычны, навуковы, культурна-адукацыйны і адміністрацыйна-палітычны горад Еўропы. Таму яго паўнакроўнае функцыянаванне здольна не толькі ўзбагаціць еўрапейскае жыццё, але і зрабіць яго больш устойлівым;

па-трэцяе, Мінск — горад ціхай і строгай красы, талерантных і ветлівых людзей, якія пражываюць на тэрыторыі двухсот пяцідзесяці шасці квадратных кіламетраў. Гэта горад, скіраваны ў будучае.

ливает возможности обмена новейшими научными идеями, технологиями и образовательными успехами.

Городские власти бережно относятся к культурным традициям, истории Минска, которая насчитывает уже 938 лет. Ведется активная реконструкция главного исторического центра Минска — Верхнего города и Троицкого предместья. На своем прежнем месте можно увидеть много лет назад разрушенную, а теперь воссозданную Минскую ратушу. Ратуша — прямое напоминание о том, что уже в 1499 г. наш город имел магдебургское право. Большая часть ратуши отдана музею истории Минска.

Городские власти ставят своей главной целью повышение качества жизни минчан. При этом они не скрывают своих амбиций сделать Минск городом, удобным для жителей и привлекательным для его гостей. Поэтому уже сегодня обращается особое внимание на то, чтобы развитие города носило устойчивый и динамичный характер, гармонично решались вопросы развития самого города и экономики, модернизации коммунального хозяйства, формирования здоровой экологической среды, создания эффективной организационной структуры управления.

Как говорят многие туристы, Минск предстает перед ними следующим образом:

во-первых, как город-столица, расположенный географически в самом центре Европы и потому влияющий на динамику жизнедеятельности других европейских городов и испытывающий их влияние на своем развитии;

во-вторых, Минск — важный исторический, научный, культурно-образовательный и административно-политический центр Европы. И потому его полнокровное функционирование способно не только обогатить европейскую жизнь, но и сделать ее более устойчивой;

в-третьих, Минск — город тихой и строгой красоты толерантных, приветливых людей, проживающих на территории двухсот пятидесяти шести квадратных километров. Это город, устремленный в будущее.

Мінчане ў асноўным згодныя з такімі меркаваннямі. Але кожны з нашых чытачоў можа сфарміраваць і свае ўражанні аб Мінску. Гэта можна зрабіць у працоўныя будні горада, а можна і ў святы. Адным з самых папулярных свят становіцца ў нас Дзень Мінска, які штогод праводзіцца ў другую суботу верасня.

Прыязджайце, прыходзьце, знаёмцеся з горадам, з яго людзьмі, помнікамі і яго сённяшнім днём.

А пакуль пра гісторыю горада вы можаце даведацца з гэтай кнігі.

Минчане в основном согласны с такими мнениями. Но каждый из наших читателей может сформировать и свои впечатления о Минске. Это можно сделать в трудовые будни города, а можно и в праздники. Одним из самых популярных праздников становится у нас День Минска, который ежегодно проводится во вторую субботу сентября.

Приезжайте, приходите, знакомьтесь с городом, его людьми, памятниками и его сегодняшним днем.

А пока историю города вы можете узнать из этой книги.



Раздзел I

## Мінск — сталіца ўдзельнага княства Полацкай зямлі

*Звыш 1100 гадоў назад ва Усходняй Еўропе ўтварылася дзяржава Русь. Гісторыкі называюць яе Кіеўскай Руссю. Старажытная Русь складалася з розных тэрытарыяльных адзінак. У сярэдневяковых крыніцах гэтыя ўтварэнні вядомы пад назвамі «зямля», «воласць». Даследчыкі называюць іх княствамі, таму што на чале знаходзіліся князі. Полацкая зямля (цяпер паўночная частка Беларусі) адна з першых вылучылася са складу Кіеўскай Русі як незалежнае дзяржаўнае ўтварэнне — зямля-княства. Значным горадам Полацкай зямлі з'яўляўся Менск (так называўся ў старажытнасці Мінск).**

**Заўвага. Да ўтварэння ў 1569 г. Рэчы Паспалітай (федэрацыя Вялікага княства Літоўскага і Польскага каралеўства) назва горада пісалася толькі Менск. Пазней яна змянілася на сучасную Мінск. Таму ў гэтай кнізе пры выкладанні падзей сярэдневяковага перыяду назва горада выкарыстоўваецца як у адным, так і ў другім варыянце. Адпаведна жыхары горада называюцца «меняне», «менчукі», «мінчане».*

Раздел I

## Минск — столица удельного княжества Полоцкой земли

*Свыше 1100 лет назад в Восточной Европе образовалось государство Русь. Историки называют его Киевской Русью. Древняя Русь состояла из разных территориальных единиц. В средневековых источниках эти образования известны под названиями «земля», «волость». Исследователи именуют их княжествами, потому что во главе находились князья. Полоцкая земля (теперь северная часть Беларуси) одна из первых выделилась из состава Киевской Руси как независимое государственное образование — земля-княжество. Значительным городом Полоцкой земли являлся Менск (так назывался в средневековье Минск).**

** Примечание. До создания в 1569 г. Речи Посполитой (федерации Великого княжества Литовского и Польского королевства) название города писалось только Менск. Позднее оно изменилось на современное Минск. Поэтому в данной книге при изложении событий средневекового периода название города используется как в одном, так и в другом варианте. Соответственно, жители города называются «меняне», «менчуки», «минчане».*

## 1. МІНСК У СІСТЭМЕ ГАРАДОЎ І КНЯСТВАЎ ПОЛАЦКАЙ ЗЯМЛІ

***Аб чым сведчаць геаграфічныя назвы.*** Гісторыя раннесярэдневяковага Менска цесна взязана з гісторыяй старажытнейшых усходнеславянскіх гарадоў і ў першую чаргу з Полацкам. Агульнасць гістарычнага лёсу гарадоў прасочваецца ў паходжанні іх назваў. Свае анйменні яны атрымалі ад рэк, на якіх былі заснаваны. «Полтеск» заснаваны на рацэ Палата, правым прытоку Заходняй Дзвіны ў Паўночнай Беларусі. Агульнапрызнана, што назва гораду даддзена па назве ракі.

Старажытнаму звычаю прысваення назвы па рацэ, на якой ён быў размешчаны, падпарадкаваны таксама гарады Полацкай зямлі Віцебск (Видьбеск), Друцк (Друческ). Мінск (летапісны Меньск) па форме назвы таксама адносіцца да гэтай групы гарадоў. Менск — гэта «Менскі горад», «горад на рацэ Мень (Мена)».

Людзі здаўна называлі рэкі і азёры на сваёй мове, выразна і коратка адзначалі іх характэрную, асноўную прыкмету.



*Малое гарадзішча на р. Менка.*
*Малое городище на р. Менка.*
*A small hill-fort of the ancient settlement on the riverside of Menka.*



*Рака Менка (Мена).*
*Река Менка (Мена).*
*The river Menka (Mena).*

## 1. МИНСК В СИСТЕМЕ ГОРОДОВ И КНЯЖЕСТВ ПОЛОЦКОЙ ЗЕМЛИ

***О чем свидетельствуют географические названия.*** История раннесредневекового Менска тесно связана с историей древнейших восточнославянских городов и в первую очередь с Полоцком. Общность исторических судеб городов прослеживается в происхождении их названий. Свои наименования они получили от рек, на которых были основаны. «Полтеск» основан на реке Полота, правом притоке Западной Двины в Северной Беларуси. Общепризнано, что название городу дано по имени реки.

Древнему обычаю присвоения названия городу по реке, на которой он был расположен, подчинены также города Полоцкой земли Витебск (Видьбеск), Друцк (Друческ). Минск (летописный Меньск) по форме названия тоже относится к данной группе городов. Менск — это «Менский город», «город на реке Мень (Мена)».

Люди издавна называли реки и озера на своем языке, выразительно и кратко отмечали их характериый, основной при-

Найменне ракі Няміга — правага прытока Свіслачы ў гістарычным раёне Мінска — блізкае па значэнні да балцкага слова nemiga — бяссонніца, нядрэмнасць, магчыма, у мінулым — вартавы пост, ахоўваемая лінія.

Выклікае цікавасць паходжанне назвы ракі Мень (Мена). Ад яе паходзіць найменне горада Менск. Геаграфічных назваў з коранем «Мен» (Мень) вядома шмат. Гэта і вёска Вярхмень у Смалявіцкім раёне і возера Мена ва Ушацкім раёне. Ёсць рака Мена і райцэнтр Мена ў Чарнігаўскай вобласці ва Украіне. Дакладна вядома, што Мінск Мазавецкі ў Польшчы атрымаў сваю назву ад наймення ракі Мені.

Існуе меркаванне аб сувязі наймення Менск (Менеск) з дзеясловам мяняць. Адиак, як сцвярджаюць спецыялісты, аддзеяслоўныя назоўнікі з асновай «мяняць» у тапаніміцы наогул не вядомы. Некаторыя даследчыкі дапускаюць, што ў аснове назвы ракі Мень (Мена) ляжыць назва рыбы меня (ментуза). Іншыя гавораць аб балцкім паходжанні наймення ў значэнні малая, невялікая рака.

***Папярэднік горада на Менцы***. Аб першапачатковым шляху развіцця Менска, як аказваецца, вельмі доўгага, думкі вучоных разыходзяцца. Адна з прычын — сэнс першай згадкі аб Менс-



*Знаходкі з раскопак гарадзішча на р. Менка.*

*Находки из раскопок городища на р. Менка.*

*A rampart of the large ancient settlement on the Menka riverside and a settlement nearby (in the foreground).*



*Пацерка з егіпецкага фаянсу першых стагоддзяў нашай эры.*

*Бусина из египетского фаянса первых веков нашей эры.*

*A bead from the Egyptian delftware of the first centuries A.D.*

знак. Наименование реки Немига — правого притока Свислочи в историческом районе Минска — близко по значению к балтскому слову nemiga — бессонница, бодрствование, возможно, в прошлом — сторожевой пост, охраняемая линия.

Вызывает интерес происхождение названия реки Мень (Мена). От него происходит наименование города Менск. Географических названий с корнем «Мен» (Мень) известно много. Это и деревня Верхмень в Смолевичском районе и озеро Мена в Ушачском районе. Есть река Мена и райцентр Мена в Черниговской области в Украине. Достоверно известно, что Минск Мазовецкий в Польше получил свое название по наименованию реки Мени.

Существует предположение о связи наименования Менск (Менеск) с глаголом «менять». Однако, как утверждают специалисты, отглагольные существительные с основой «менять» в топонимике неизвестны. Некоторые исследователи допускают, что в основе наименования реки Мень (Мена) лежит название рыбы меня (бел. названия налима). Другие говорят о балтском происхождении наименования в значении малая, небольшая река.

***Предшественник города на Менке.*** О первоначальном пути развития Менска, как оказывается, весьма длительного,

ку ў летапісе «Аповесць мінулых гадоў», дзе пад 1067 г. апавядаецца пра канфлікт паўднёварускіх князёў Яраславічаў, сыноў Яраслава Мудрага з ваяўнічым полацкім князем Усяславам Брачыславічам, яркім прадстаўніком полацкай княжацкай дынастыі. Летапісец, сучаснік смутнай падзеі, паведамляе, што Яраславічы, узяўшы штурмам Менск, пайшлі да Нямігі. Летапісная фраза «на Немиге» гаворыць пра тое, што бітва адбылася на рацэ. Аб бітве на Нямізе апавядаецца ў «Слове пра паход Ігаравы» («Немизе кровави брезе»). Мусіць, гэта тая самая рака, над былым рэчышчам якой цяпер у Мінску праходзіць вуліца Няміга. Калі б у 1067 г. Мінск стаяў там, дзе ён размешчаны цяпер, то князям Яраславічам не было сэнсу ісці з горада да Нямігі, каб сустрэцца з войскам полацкага князя Усяслава, бо яны і так знаходзіліся б на Няміэе. Значыць Мінск, відаць, раэмяшчаўся ў іншым месцы.



*Знак — кляймо ў выглядзе трохзубца.*
*Знак — клеймо в виде трезубца.*
*A brand in the form of trident.*

У межах сучаснага Мінска няма ракі з коранем «мень». Іншая справа Менка (Мена) — прыток верхняга цячэння Пцічы за 16,7 км на паўднёвы захад ад вусця Нямігі. На Менцы знаходзіцца выдатны комплекс археалагічных помнікаў.

Невялікія раскопкі на Менцы зрабілі ў 1935 г. беларускія археолагі А.М.Ляўдански і А.Дз.Каваленя. Кароткі вынік даследаванняў быў выкладзены ў нататцы, надрукаванай у газеце «Звязда».

мнения ученых расходятся. Одна из причин — смысл первого упоминания о Менске в летописи «Повесть временных лет», где под 1067 г. рассказывается о конфликте южнорусских князей Ярославичей, сыновей Ярослава Мудрого с воинственным полоцким князем Всеславом Брячиславичем, ярким представителем полоцкой княжеской династии. Летописец, современник печального события, сообщает, что Ярославичи, взяв штурмом Менск, пошли к Немиге. Летописная фраза «на Немиге» говорит о том, что битва произошла на реке. О битве на Немиге повествуется в «Слове о полку Игореве» («Немизе кровави брезе»). Вероятно, это та самая река, над бывшим руслом которой сейчас в Минске проходит улица Немига. Если бы в 1067 г. Минск стоял там, где он расположен ныне, то князьям Ярославичам не было смысла идти из города к Немиге, чтобы встретиться с войском полоцкого князя Всеслава, ибо они и так находились бы на Немиге. Значит Минск, по-видимому, располагался в другом месте.

В пределах современного Минска нет названия реки с корнем «мень». Иное дело Менка (Мена) — приток верхнего течения Птичи в 16,7 км на юго-запад от устья Немиги. На Менке находится превосходный комплекс археологических памятников.

Небольшие раскопки на Менке произвели в 1935 г. белорусские археологи А.Н.Лявданский и А.Д.Коваленя. Краткий итог исследований был изложен в заметке, опубликованной в газете «Звязда». Исследователи писали, что первоначально Менск располагался на городище в верховье Птичи, а затем в 11 в. «был перенесен как феодальный центр в более удобное место, туда, где находится современный Минск».

В 1937 г. во втором издании «Малой Советской Энциклопедии» в статье о Мннске сказано: «Минск известен с 11 в. Вначале он находился на реке Менке, в 1066 г. (зима 1066—67 гг.) был разгромлен, сожжен киевским князем Изяславом и перенесен на реку Свислочь». С конца

Даследчыкі пісалі, што першапачаткова Менск размяшчаўся на гарадзішчы ў вярхоўі Пцічы, а затым у 11 ст. «быў перанесены як феадальны цэнтр у больш зручнае месца, туды, дзе знаходзіцца сучасны Мінск».

У 1937 г. ў другім выданні «Малой Савецкай Энцыклапедыі» ў артыкуле аб Мінску сказана: «Минск известен с 11 в. Вначале он находился на реке Менке, в 1066 г. (зима 1066—67 гг. ) был разгромлен, сожжен киевским князем Изяславом и перенесен на реку Свислочь». З канца 30-х г. 20 ст. не сціхае спрэчка аб першапачатковым месцы знаходжання Менска.

Найбольш важным аргументам для лакалізацыі першапачатковага Менска ў вярхоўі Пцічы служыць археалагічны комплекс — гарадзішча, селішча, пахавальныя курганы — на рацэ Менцы, цяпер моцна абмялелай. У 50-я — пач. 80-х г. 20 ст. на Менцы праводзіліся значныя (з перапынкамі) археалагічныя раскопкі (А.Р.Мітрафанаў, Э.М.Загарульскі, М.А.Ткачоў, Г.В.Штыхаў).

На правым беразе Менкі на 2 км вышэй яе ўпадзення ў Пціч знаходзяцца два сумежныя гарадзішчы — адно Малое, другое Вялікае. Агульная іх плошча больш за гектар. Гарадзішча абнесена валамі вышынёй звонку да 8 м, якія абкружаюць тры пляцоўкі. У Малое гарадзішча можна прайсці толькі з Вялікага гарадзішча.

Больш старажытнае Малое гарадзішча размешчана на мысе каля зліцця ручая Дунай з Менай (Менкай). Мыс займае пануючае становішча, з яго краю як на далоні бачна навакольная мясцовасць. Жыхары гарадзішча належалі да плямёнаў культуры штрыхаванай керамікі мяжы нашай эры. Выяўлена унікальная знаходка, адзіная ў Беларусі — амулет першых стагоддзяў нашай эры з так званага егіпецкага фаянсу колеру бірузы ў выглядзе плоскай пацеркі авальнай формы з рэльефнай выявай крылатага божаства. Такія знаходкі часта сустракаюцца сярод антыч-

30-х г. 20 в. не затихает спор о первоначальном месте расположения Менска.

Наиболее важным аргументом для локализации первоначального Минска в верховье Птичи служит археологический комплекс — городище, селище, погребальные курганы — на реке Менке, сейчас сильно обмелевшей. В 50-е — нач. 80-х г. 20 в. на Менке производились



*Археалагічныя даследаванні на селішчы. 1975 г.*
*Археологическое исследования на селище. 1975 г.*
*The archeological investigations on the settlement 1975.*

значительные (с перерывами) археологические раскопки (А.Г.Митрофанов, Э.М.Загорульский, М.А.Ткачев, Г.В. Штыхов).

На правом берегу Менки в 2 км выше ее впадения в Птичь находятся два смежных городища — одно Малое, второе Большое. Общая их площадь свыше гектара. Городища обнесены валами высотой снаружи до 8 м, которые окружают три площадки. В Малое городище можно пройти только из Большого городища.

Более древнее Малое городище расположено на мысу у самого слияния ручья Дунай с Меной (Менкой). Мыс занимает господствующее положение, с его оконечности, как на лодони, видна окружающая местность. Обитатели городища

ных пацерак Паўночнага Прычарнамор'я, адкуль яна трапіла ў вярхоўе Пцічы. На мяжы нашай эры на гарадзішчы знаходзіўся патрыярхальны род ці вялікая сям'я, якая налічвала некалькі дзесяткаў чалавек.

Пазней, у 5—7 ст., Малое гарадзішча на Менцы выкарыстоўвалася ў якасці сховішча прадстаўнікамі плямён банцараўскай археалагічнай культуры.

У канцы 9—11 ст. Малое гарадзішча на Менцы выконвала ролю дзядзінца ўсходнеславянскага горада. Разам з вялікай колькасцю тыповай раннекругавой керамікі знойдзены прадметы, звязаныя з ваенным побытам: два наканечнікі ножнаў мяча — вельмі дарагога для тых часоў узбраення, наканечнікі стрэл розных тыпаў, страмёны, цуглі, фрагмент наканечніка рэменя, з дапамогай якога калчан для стрэл замацоўваўся пры верхавой яздзе. Шмат падковападобных фібул — засцежак для плашча. Важныя знаходкі (4 экз.) донцаў пасудзін з княжацкім знакам Рурыкавічаў ранняга варыянта, блізкім да знака Уладзіміра Святаславіча (980—1015). Падобны знак быў таксама ў полацкага князя Ізяслава.

Малое гарадзішча на Менцы ўяўляла сабой адзіную сядзібу, незалежную ад умацаванняў Вялікага гарадзішча. Невялікая плошча Малога гарадзішча (0,12 га) сведчыць аб сядзібе — замку. Тут у 10—11 ст. магла быць рэзідэнцыя прадстаўніка (намесніка) княжацкай улады.

Плошча Вялікага гарадзішча складала каля аднаго гектара. Гэта быў вакольны горад на пакатым схіле правага берага Менкі, які цесна прымыкаў да Малога гарадзішча. Вакольны горад быў шчыльна заселены, пра што сведчыць наяўнасць культурнага напластавання і паўсюдных знаходак раннекругавой керамікі. Жалезныя шлакі і гатовыя жалезныя вырабы сведчаць аб занятку кавальскім рамяством.

Пра гандлёвыя сувязі нагадваюць знойдзеныя пры раскопках фрагменты таўстасценных амфар. Амфары служылі надзейнай тарнай керамікай і ў іх з Паў-

относились к племенам культуры штрихованной керамики рубежа нашей эры. Обнаружена уникальная находка, единственная в Беларуси — амулет первых веков нашей эры из так называемого египетского фаянса цвета бирюзы в виде плоской бусины овальной формы с рельефным изображением крылатого божества. Такие находки часто встречаются среди античных бус Северного Причерноморья, откуда она попала в верховье Птичи. На рубеже нашей эры в городище находился патриархальный род или большая семья, насчитывающая несколько десятков человек.

Позже, в 5—7 вв. Малое городище на Менке использовалось в качестве убежища представителями племен банцеровской археологической культуры.

В конце 9—11 вв. Малое городище на Менке выполняло роль детинца восточнославянского города. Вместе с большим количеством типичной раннекруговой керамики найдены предметы, связанные с военным бытом: два наконечника ножен мечей — очень дорогого по тем временам вооружения, наконечники стрел разных типов, стремена, удила, фрагмент наконечника ремня, с помощью которого колчан для стрел закреплялся при верховой езде. Много подковообразных фибул — застежек для плаща. Важны находки (4 экз.) днищ сосудов с княжеским знаком Рюриковичей раннего варианта, близким к знаку Владимира Святославича (980 — 1015). Подобный знак был также у полоцкого князя Изяслава.

Малое городище на Менке представляло единую усадьбу, независимую от укреплений Большого городища. Небольшая площадь Малого городища (0,12 га) свидетельствует об усадьбе — замке. Здесь в 10—11 вв. могла быть резиденция представителя (наместника) княжеской власти.

Площадь Большого городища составляла около одного гектара. Это был окольный город на пологом склоне правого берега Менки, вплотную примыкавший к Малому городищу. Окольный город был плотно заселен, о чем свидетельствует наличие культурного слоя и

ночнага Прычарнамор'я прывозілі віно і аліўкавы алей.

На беразе Менкі, дзе было паселішча, знойдзены унікальныя свінцовыя пячаткі 11 ст. дыяметрам да 3 см. Пячаткі на шнурках падвешваліся да дакументаў. На Русі карыстацца такімі пячаткамі мелі права толькі прадстаўнікі вышэйшай дзяржаўнай улады ці буйныя царкоўныя іерархі. На адной пячатцы захавалася паясная выява двух святых, на другой — архангела Гаўрыіла ці Міхаіла ў поўны рост.

Для вырашэння пытанняў пра паходжанне горада істотнае значэнне маюць рэзультаты вывучэння яго валоў і іншых абарончых збудаванняў. У 1983 г. археолагі ў ніжняй частцы насыпу вала выявілі зрубы — «гародні» даўжынёй 3,5—4 м, пабудаваныя з дубовых бярвён. Зрубы ставіліся ў два-тры рады адзін да аднаго ўздоўж трасы вала. Яны былі шчыльна забітыя суглінкам і супескам. Узвышаючыся на 4 м, зрубы ўтваралі моцную аснову абарончага збудавання. Шырыня першапачатковага вала — 14 м. На сценцы са зрубаў знаходзіўся верхні ярус наземных драўляных умацаванняў. Ад яго да нас дайшоў магутны пласт пажарышча з шматлікіх праслоек вугалю і попелу, знойдзены археолагамі. Знешнія ўмацаванні загінулі ў моцным пажары неўзабаве пасля іх узвядзення.

Вал Вялікага гарадзішча на вывучаным участку перабудоўваўся і павышаўся не менш як два разы ў першай палове 11 ст. з-за пажараў, якія знішчалі знешнія абарончыя збудаванні на яго грабяні. Агульная вышыня вала звыш 8 м. Вялікае гарадзішча, як і Малое, мела па ўсім перыметры драўляна-земляныя ўмацаванні.

Узнікае пытанне, што ўяўлялі сабой селішчы, якія акружалі ўмацаваны цэнтр літаральна з усіх бакоў, і ці можна лічыць іх пасадам нараджаючагася горада. Прыроднымі ўмовамі мясцовасці селішча падзяляецца на тры часткі. Агульная плошча старажытнага паселішча навакол гарадзішча — не менш як 30 га. Другога такога вялікага раннесяповсеместных находок раннекруговой керамики. Железные шлаки и готовые железные изделия свидетельствуют о занятии кузнечным ремеслом.

О торговых связях напоминают обнаруженные при раскопках фрагменты толстостенных амфор. Амфоры служили надежной тарной керамикой и в них с Северного Причерноморья привозили вино и оливковое масло.

На берегу Менки, где было селище, найдены уникальные свинцовые печати 11 в. диаметром до 3 см. Печати на шнурках подвешивались к документам. На Руси пользоваться такими печатями имели право только представители высшей государственной власти или крупные церковные иерархи. На одной печати сохранилось поясное изображение двух святых, на другой — архангела Гавриила или Михаила в полный рост.

Для решения вопросов о происхождении города существенное значение имеют результаты изучения его валов и других оборонительных сооружений. В 1983 г. археологи в нижней части насыпи вала обнаружили срубы — «городни» длинной 3,5—4 м, построенные из дубовых бревен. Срубы ставились в два-три ряда друг возле друга вдоль трассы вала. Они были плотно забиты суглинком и супесью. Возвышаясь на 4 м, срубы образовывали прочную основу оборонительного сооружения. Ширина первоначального вала — 14 м. На стене из срубов находился верхний ярус наземных деревянных сооружений. От него до нас дошел мощный слой пожарища из многочисленных прослоек угля и золы, обнаруженный археологами. Внешние укрепления погибли в сильном пожаре вскоре после их возведения.

Вал Большого городища на изученном участке перестраивался и повышался не менее двух раз в первой половине 11 в. из-за пожаров, уничтожавших внешние оборонительные сооружения на его гребне. Общая высота вала свыше 8 м. Большое городище, как и Малое, имело по всему периметру дерево-земляные укрепления.

рэдневяковага паселішча ў Беларусі не захавалася.

У 1975 г. Полацка-Мінскі атрад экспедыцыі Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі правёў раскопкі (30 х 30 м) на поўдзень ад гарадзішча на раллі каля ручая Дунай. Магутнасць культурнага пласта тут ад 0,4 да 1,2 м, улічваючы ямы ў мацерыку, якіх расчышчана звыш 90. Гэта — ямы гаспадарчага прызначэння. Большасць іх датуецца канцом 10—11 ст., некаторыя больш раннія. Ямы прамавугольныя (плошча 8—9 кв. м), падобныя на паглыбленыя ў цвёрды грунт жытлы (паўзямлянкі). Але ў іх няма прыкмет печаў. Магчыма некаторыя ямы служылі гаспадарчымі падклетамі, вышэй якіх знаходзіліся драўляныя пабудовы.

Адна прамавугольная яма мае памеры 2,5 х 3,5 м. Яна запоўнена культурным пластом цёмнай афарбоўкі, насычаным кавалкамі абпаленай гліны. Тут былі кераміка 11 ст., жалезныя вырабы (дужка ад вядра, два нажы, частка цугляў), а таксама касцяная шахматная фігура каня. Апошні прадмет уяўляе асаблівую цікавасць. Гэта адна з самых ранніх шахматных фігур, знойдзеных на тэрыторыі Кіеўскай Русі. Фігура вышынёй 3 см, мае адзін выступ ад верхняй часткі (галава каня). Выраблена з рога лася, знаходзілася ў доўгім выкарыстанні, ад чаго моцна адпаліравалася.

Выяўлены сляды майстэрні, дзе быў наладжаны выраб праселкаў для верацён з оўруцкага шыфернага сланцу — мяккага каменю ружовага колеру. Тут упершыню на тэрыторыі Беларусі знойдзены адходы вытворчасці праселкаў, сапсаваныя вырабы, нарыхтоўкі шыфернага сланцу. Раней падобныя знаходкі былі вядомы з раёна Оўруча на Валыні, у Кіеве і Суздалі.

У археалагічнай навуцы вядома пра вялікую колькасць курганоў у вярхоўі Пцічы. Шмат курганоў зафіксавана ўсцяж старой «Койданаўскай дарогі», якая праходзіла недалёка ад гарадзішча на Менцы ў напрамку да Нямігі. Курганныя могільнікі адзначаны каля рэчышча

Возникает вопрос, что представляли собой селища, окружавшие укрепленный центр буквально со всех сторон, и можно ли считать их посадом зарождавшегося города. Естественными условиями местности селище разделяется на три части. Общая площадь древнего поселения вокруг городища — не менее 30 га. Другого такого большого раннесредневекового селища в Беларуси не сохранилось.

В 1975 г. Полоцко-Минский отряд экспедиции Института истории Академии наук Беларуси произвел раскопки (30 х 30 м) южнее городища на пашне возле ручья Дунай. Мощность культурного слоя здесь от 0,4 до 1,2 м, учитывая ямы в материке, которых расчищено свыше 90. Это — ямы хозяйственного назначения. Большинство их датируется концом 10—11 вв., иные более ранние. Ямы прямоугольные (площадь 8—9 кв.м), похожие на углубленные в твердый грунт жилища (полуземлянки). Но в них нет признаков печей. Возможно, некоторые ямы служили хозяйственными подклетами, выше которых находились деревянные строения.

Одна прямоугольная яма имеет размеры 2,5 х 3,5 м. Она заполнена культурным слоем темной окраски, насыщенным кусками обожженной глины. Здесь были керамика 11 в., железные изделия (дужка от ведра, два ножа, часть удил), а также костяная шахматная фигура коня. Последний предмет представляет особый интерес. Это одна из самых ранних шахматных фигур, найденных на территории Киевской Руси. Фигура высотой 3 см, имеет один выступ (голова коня) в верхней части. Изготовлена из рога лося, находилась в длительном употреблении, отчего сильно отполировалась.

Выявлены следы мастерской, где было налажено изготовление пряслиц для веретен из овручского шиферного сланца — мягкого камня розового цвета. Здесь впервые на территории Беларуси обнаружены отходы от изготовления пряслиц, брак производства, заготовки шиферного сланца. Ранее подоб-

Лошыцы. На рацэ Лошыца археолагі выявілі 5 паселішчаў 10—13 ст. Шырока даследавалася паселішча каля вёскі Рылаўшчына (цяпер Дружба ў межах г. Мінска). Выяўлены рэшткі жытлаў, дзенцы пасудзін з кляймом у выглядзе княскіх знакаў — трызубцаў, сярэбраная манета, чаканеная ў 10 ст. ў Германіі. Шматлікія даныя даюць падставу меркаваць, што ў 10—11 ст. жыхары паселішча абслугоўвалі волак ад гарадзішча на Менцы, якое тады з'яўлялася цэнтрам усёй воласці, аж да Свіслачы.

У наваколлі вёскі Новы Двор на берагах Пцічы зафіксаваны куст паселішчаў (усяго чатыры) з керамікай 10—13 ст. Плошча аднаго селішча на левым беразе ракі складае 4 га. Тут знойдзены скарб сярэбраных арабскіх дырхемаў і заходнееўрапейскіх дэнарыяў, які трапіў у зямлю каля 1000 г. Другі манетны скарб з арабскіх дырхемаў, чаканеных у перыяд з 816 да 911 г., выяўлены каля вёскі Лецкаўшчына.

Такім чынам, у 10 ст. на Менцы ў шчыльна населенай мясцовасці існаваў ваенны, эканамічны, гандлёва-рамесны цэнтр значнай тэрыторыі (воласці), які дасягнуў росквіту ў першай палове 11 ст. Тут знаходзілася рэзідэнцыя прадстаўнікоў дзяржаўнай (княжацкай) улады, якія кіравалі воласцю і збіралі даніну з насельніцтва. Паселішча набыло функцыі і планіровачную структуру, блізкую да ўсходнеславянскага раннесярэдневяковага горада. Вельмі магчыма, што гэта быў вядомы па летапісе (1067 г.) Менск (Менеск), які ўзнік у зоне крывіцкадрыгавіцкага рассялення, а магчыма, як лічаць некаторыя, на нейтральнай паласе абедзвюх племянных груп. Пагранічча, кантактнасць садзейнічалі не толькі ўзнікненню, але ўсталяванню і ўзвышэнню гарадоў у працэсе іх развіцця, што бачна на прыкладзе Кіева, Смаленска, Масквы, Мінска.

Са з'яўленнем новага цэнтра воласці на р. Свіслач пасяленне на Менцы прыйшло ў заняпад (12—15 ст.), а яго назва Менск перайшла на новы горад. У 14—16 ст. на тэрыторыі паселішча размяные находки были известны из района Овруча на Волыни, в Киеве и Суздале.

В археологической науке известно о скоплении курганов в верховье Птичи. Большое количество курганов зафиксировано вдоль старой «Койдановской дороги», проходившей недалеко от городища на Менке в направлении к Немиге. Курганные могильники отмечены возле русла Лошицы. На реке Лошице археологи выявили 5 поселений 10—13 вв. Широко исследовалось поселение возле деревни Рыловщина (теперь Дружба в черте г. Минска). Выявлены остатки жилищ, днища сосудов с клеймами в виде княжеских знаков — трезубцев, серебряная монета, чеканенная в 10 в. в Германии. Многочисленные данные дают основание полагать, что в 10—11 вв. жители поселения обслуживали волок от городища на Менке, которое тогда являлось центром всей волости, вплоть до Свислочи.

В окрестностях деревни Новый Двор на берегах Птичи зафиксирован куст поселений (всего четыре) с керамикой 10—13 вв. Площадь одного селища на левом берегу реки составляет 4 га. Здесь был найден клад серебряных арабских дирхемов и западноевропейских денариев, который попал в землю около 1000 г. Второй монетный клад из арабских дирхемов, чеканенных в период с 816 по 911 г., обнаружен возле деревни Лецковщина.

Таким образом, в 10 в. на Менке в густонаселенной местности существовал военный, экономический, торговоремесленный центр большой территории (волости), достигший расцвета в первой половине 11 в. Здесь находилась резиденция представителей государственной (княжеской) власти, которые руководили волостью и собирали дань с населения. Поселение приобрело функции и планировочную структуру, близкую к восточнославянскому раннесредневековому городу. Очень вероятно, что это был известный по летописи (1067 г.) Менск (Менеск), возникший в зоне кривичско-дреговичского расселения, а возможно, как считают некоторые, на нейтральной полосе обеих племенных

шчалася невялікае мястэчка і ўмацаваная сядзіба.

***Першая згадка Мінска ў летапісе.*** У канцы 10 — пач. 11 ст. з увядзеннем хрысціянства кіеўскім князем Уладзімірам Святаславічам ва ўсходніх славян з'явілася кніжнасць, значыць, і магчымасць адлюстроўваць у пісьмовым выглядзе гістарычныя падзеі. Дайшоўшыя



*Усходнеславянскі летапісец.*
*Восточнославянский летописец.*
*An East Slavonic chronicler.*

да нас летапісныя спісы часта перадаюць тэкст летапісных твораў з пазнейшымі змяненнямі. Прынята лічыць, што першай працай па пачатковай гісторыі зямель, якія насілі ў той час агульную назву «Русь», з'яўляецца старажытнейшы летапісны звод. Апісанне падзей у ім даведзена да 1037 г. Гэты кіеўскі звод быў працягнуты да 1073 г. Ніканам, буйным царкоўным і палітычным дзеячам.

Нікан падрабязна асвятліў падзеі 60-х г. 11 ст. З таго часу ў летапісе ідуць даволі дакладныя звесткі аб часе апісваемых фактаў, прыводзяцца не толькі год, але і месяц, лічба, дзень тыдня. У летапісе ад-

групп. Пограничье, контактность способствовали не только возникновению, но утверждению и возвышению городов в процессе их развития, что видно на примере Киева, Смоленска, Москвы, Минска.

С появлением нового центра волости на р. Свислочь поселение на Менке пришло в упадок (12—15 вв.), а его название Менск перешло на новый город. В 14—16 вв. на территории поселения располагалось небольшое местечко и укрепленная усадьба.

***Первое упоминание Минска в летописи.*** В конце 10 — нач. 11 вв. с введением христианства киевским князем Владимиром Святославичем у восточных славян появилась книжность, следовательно, и возможность отражать в письменном виде исторические события. Дошедшие до нас летописные списки часто передают текст летописных произведений с позднейшими изменениями. Принято считать, что первым трудом по начальной истории земель, носивших в то время общее название «Русь», является древнейший летописный свод. Описание событий в нем доведено до 1037 г. Этот киевский свод был продолжен до 1073 г. Никоном, крупным церковным и политическим деятелем.

Никон подробно осветил события 60-х г. 11 вв. С этого времени в летописи следуют довольно точные указания о времени описываемых фактов, приводятся не только год, но и месяц, число, день недели. В летописи отражена междоусобная борьба между сыновьями Ярослава Мудрого, а также их столкновения с полоцким князем Всеславом. Именно Никон впервые сообщил о Менске под 1067 г. и описал битву на Немиге по рассказам ее непосредственных участников.

На основе летописного свода 1073 г. был составлен новый свод около 1093 г. В исторической литературе он получил название «Начального». Свод был дополнен другими более поздними сведениями, в результате чего возникла «Повесть временных лет», составленная

люстравана міжусобная барацьба паміж сынамі Яраслава Мудрага, а таксама іх сутыкненні з полацкім князем Усяславам. Менавіта Нікан упершыню паведаміў аб Менску пад 1067 г. і апісаў бітву на Нямізе са слоў яе непасрэдных удзельнікаў.

На аснове летапіснага звода 1073 г. быў складзены новы звод каля 1093 г. У гістарычнай літаратуры ён атрымаў назву «Пачатковага». Звод быў дапоўнены іншымі больш познімі сведчаннямі, у выніку чаго ўзнікла «Аповесць мінулых гадоў», складзеная Нестарам-летапісцам каля 1113 г. ў Кіева-Пячорскім манастыры.

Летапісец звяртаецца да падзей у Полацкай зямлі ў сувязі з княжаннем там Усяслава. Усяслаў быў сынам полацкага князя Брачыслава, аб якім у летапісным зводзе гаворыцца пад 1021 г., калі Брачыслаў напаў на Ноўгарад і быў разбіты кіеўскім князем Яраславам Мудрым. У «Аповесці мінулых гадоў» Полацк названы дзевяць разоў. Менск упомнены чатыры разы. Аўтар летапісу называе гэтыя гарады ў сувязі з канфліктнымі сітуацыямі паміж Кіевам, Ноўгарадам і Полацкам. Прычынай гэтага былі эканамічныя інтарэсы: кантроль на гандлёвых шляхах і волаках, пашырэнне ўладанняў за кошт суседніх тэрыторый.

Прывядзём першае паведамленне аб Менску ў «Аповесці мінулых гадоў» у перакладзе на сучасную беларускую мову: «У год 6575 (1067). Падняў раць у Полацку (пачаў вайну) Усяслаў (Полацкі), сын Брачыслава, і заняў Ноўгарад. Трое ж Яраславічаў, Ізяслаў, Святаслаў, Усевалад, сабраўшы воінаў, пайшлі на Усяслава ў моцны мароз. І падышлі к Менску, і меняне зачыніліся ў горадзе. Браты ж гэтыя ўзялі Менск і перабілі ўсіх мужоў, а жонак і дзяцей захапілі ў палон і пайшлі к Нямізе, і Усяслаў пайшоў супраць іх. І сустрэліся праціўнікі на Нямізе месяца сакавіка ў 3-ці дзень; і быў снег вялікі, і пайшлі адзін на аднаго. І была сеча жорсткая, і многія загінулі ў ёй, і адолелі Ізяслаў, Святаслаў, Усевалад, Усяслаў жа ўцёк».

Нестором-летописцем около 1113 г. в Киево-Печерском монастыре.

Летописец обращается к событиям в Полоцкой земле в связи с княжением там Всеслава. Всеслав был сыном полоцкого князя Брячислава, о котором в летописном своде говорится под 1021 г., когда Брячислав напал на Новгород и был разбит киевским князем Ярославом



*Палон жыхароў пасля ўзяцця Менска ў 1067 г. (мініяцюра Радзівілаўскага летапісу).*

*Пленение жителей после взятия Менска в 1067 г. (миниатюра Радзивилловской летописи).*

*The captured people after Mensk in 1067 had been taken (a miniature from the Radzivill's chronicle).*

Мудрым. В «Повести временных лет» Полоцк назван девять раз. Менск упомянут четыре раза. Автор летописи называет эти города в связи с конфликтными ситуациями между Киевом, Новгородом и Полоцком. Причиной их были экономические интересы, контроль на торговых путях и волоках, расширение владений за счет соседних территорий.

Приведем первое сообщение о Менске в «Повести временных лет» в переводе на современный русский язык: «В год 6575 (1067). Поднял рать в Полоцке (начал войну) Всеслав (Полоцкий), сын Брячислава, и занял Новгород. Трое же Ярославичей, Изяслав, Святослав, Всеволод, собрав воинов, пошли на Всеслава в сильный мороз. И подошли к Менску, и меняне затворились в городе. Братья же эти взяли Менск и перебили всех мужей, а жен и детей захватили в плен и пошли к Немиге, и Все-

Некалькі раней гэтага, у 1065 г., Усяслаў нечакана напаў на Пскоў, узяць яго не змог і вымушаны быў адступіць. Праз год (1066) полацкі князь, добра падрыхтаваўшыся, пайшоў на Ноўгарад, з якім у Полацка былі даўнія спрэчкі. Усяслаў, выйграўшы бой на р. Чарэсе, заняў Ноўгарад, захапіў у палон людзей, з Сафійскага сабора зняў званы і вывез іншыя



*Бітва кааліцыі старажытнарускіх князёў з полацкай дружынай Усяслава Брачыславіча 3 сакавіка 1067 г. на р. Няміга (мініяцюра летапісу).*

*Битва коалиции древнерусских князей с полоцкой дружиной Всеслава Брячиславича 3 марта 1067 г. на р. Немига (миниатюра летописи).*

*A battle of the Old Russian princes against the Polotsk retinue of Vseslav Bryachislavich on March 3, 1067 by the Nemiga river (a miniature from the chronicle).*

царкоўныя прыналежнасці. У адказ на гэта Яраславічы з вялікім войскам з'явіліся пад Менскам. Усяслаў з дружынай спяшаўся на дапамогу асаджанаму гораду, але спазніўся. Менск ужо быў узяты, разрабаваны і разбураны. У бітве на Нямізе паўднёварускія князі не змаглі акружыць і паланіць Усяслава.

Некаторыя даследчыкі мяркуюць, быццам бітва адбылася ў 1067 г. каля горада Няміза, які знаходзіўся побач з Менскам. Адсутнасць пераканаўчых звестак

слав пошел против них. И встретились противники на Немиге месяца марта в 3-й день; и был снег велик, и пошли друг на друга. И была сеча жестокая, и многие пали в ней, и одолели Изяслав, Святослав, Всеволод, Всеслав же бежал».

Несколько ранее этого, в 1065 г., Всеслав неожиданно напал на Псков, взять его не смог и вынужден был отступить. Через год полоцкий князь пошел на Новгород, с которым у Полоцка случались давние споры. Всеслав, выиграв бой на р. Чересе, занял Новгород, захватил в плен людей, с Софийского собора снял колокола и вывез другие церковные принадлежности. В ответ на это Ярославичи с большим войском явились под Менском. Всеслав с дружиной спешил на помощь осажденному городу, но опоздал. Менск уже был взят, разграблен и разрушен. В битве на Немиге южнорусские князья не смогли окружить и пленить Всеслава.

Некоторые исследователи полагают, будто битва произошла в 1067 г. возле города Немиза, который находился рядом с Менском. Отсутствие убедительных сведений о древнем городе Немиза и описание битвы в «Слове о полку Игореве» свидетельствуют о битве на берегах реки, а не возле города Немиза, нигде в летописях не упоминаемого.

Ярославичи пригласили Всеслава для переговоров о мире. Когда полоцкий князь явился в их лагерь возле Орши, они вероломно, нарушив крестоцелование, схватили его вместе с двумя сыновьями, отправили в Киев и посадили «в поруб». Во время восстания 1068 г. Всеслав был освобожден из заключения горожанами и провозглашен великим князем киевским. Всеслав находился на киевском престоле семь месяцев, но вскоре возвратился в свой Полоцк.

***Город Полоцкой земли.*** На Менск неоднократно совершали походы южнорусские князья. В своем «Поучении» Владимир Мономах, при изложении событий, происходивших в 1084 г., когда он был черниговским князем, пишет, как он с черниговским войском и половцами-четеевичами «изъехахом город и

аб старажытным горадзе Няміза і апісанне бітвы ў «Слове пра паход Ігаравы» сведчаць пра бітву на берагах ракі, а не каля горада Няміза, які нідзе ў летапісах не згадваецца.

Яраславічы запрасілі Усяслава для перамоў аб міры. Калі полацкі князь з'явіўся ў іх лагер каля Оршы, яны вераломна, парушыўшы крыжацалаванне, схапілі яго разам з двума сынамі, адправілі ў Кіеў і пасадзілі «у паруб». У час паўстання 1068 г. Усяслаў быў вызвалены са зняволення гараджанамі і абвешчаны вялікім князем кіеўскім. Усяслаў знаходзіўся на кіеўскім прастоле сем месяцаў, але неўзабаве вярнуўся ў свой Полацк.

***Горад Полацкай зямлі***. На Менск неаднаразова рабілі паходы паўднёва-рускія князі. У сваім «Поучении» Уладзімір Манамах пры выкладанні падзей, што адбываліся ў 1084 г., калі ён быў чарнігаўскім князем, піша, як з чарнігаўскім войскам і полаўцамі-чэціевічамі «изъехахом город и не оставихом у него ни челядина, ни скотины». Пасля такіх падзей, а можа часткова ў выніку іх, новы горад быў пабудаваны ў больш зручным месцы — на р. Свіслач і за ім захавалася былая назва Меньск.

Можна гаварыць аб розных падставах пераносу Менска (карэкціроўка гандлёвых шляхоў, уплыў вынікаў ваеннага разгрому ці эпідэмій, недахоп вады ў маленькай Менцы), але асноўнай прычынай трэба лічыць працэсы, звязаныя з фарміраваннем удзельнага Менскага княства ў канцы 11 ст. Менск, з'яўляючыся цэнтрам бліжэйшай акругі, стаў горадам Полацкай зямлі ці, па тагачаснай тэрміналогіі, «прыгарадам» старшага горада Полацка. У пытаннях узаемаадносін паміж вялікімі княствамі-землямі Менск залежаў ад Полацка, і полацкія князі абавязаны былі прыходзіць на дапамогу «менянам» у час ваенных дзеянняў. Аднак дапамагаць абароне Менска ваеннымі сіламі Полацку было цяжка, адлегласць паміж імі складала 250 км.

не оставихом у него ни челядина, ни скотины». После таких событий, а может быть, частично вследствие их, новый город был построен в более удобном месте — на р. Свислочь и за ним сохранено старое название Меньск.

Можно говорить о различных поводах переноса Менска: корректировка торговых путей, влияние последствий



*Полацкі князь Усяслаў (фрагмент мініяцюры Радзівілаўскага летапісу).*

*Полоцкий князь Всеслав (фрагмент миниатюры Радзивилловской летописи).*

*Prince of Polotsk Vseslav (a miniature fragment from the Radzivill's chronicle).*

военного разгрома или эпидемии, недостаток воды в маленькой Менке, но основной причиной следует считать процессы, связанные с формированием удельного Менского княжества в конце 11 в. Менск, являясь центром ближайшей округи, стал городом Полоцкой земли или, по тогдашней терминологии, «пригородом» старшего города Полоцка. В вопросах взаимоотношений между большими княжествами-землями Менск зависел от Полоцка, и полоцкие князья обязаны были приходить на помощь «менянам» во время военных действий. Однако помогать защите Менска военными силами Полоцку было трудно, ибо расстояние между ними составляло 250 км.

На аснове летапісу дакладна вядома, што з пачатку 12 ст. Менск становіцца цэнтрам асобнага княства і крыніцы называюць тут князя Глеба — сына Усяслава Полацкага. У перыяд феадальнай раздробленасці разлічваць на дапамогу Полацка менскім князям не даводзілася. Трэба было абыходзіцца ўласнымі сіламі. Гэта востра ставіла пытанне аб пашырэнні ўмацаванай часткі Менска і ўзвядзенні новых абарончых збудаванняў.

Размяшчэнне горада ў вярхоўі Пцічы магло быць не падыходзячым у сувязі з фарміраваннем тэрыторыі Менскага княства, якая была значна большай, чым акруга Менска ў вярхоўі Пцічы, якая склала, мяркуючы па размяшчэнні курганных могільнікаў, некалькі дзесяткаў кіламетраў у папярочніку.

Месцазнаходжанне першапачатковага Менска не адпавядала тым функцыям, якія ён павінен быў выконваць як цэнтр удзельнага княства якое фарміравалася. Пры такой сітуацыі патрабаваўся «перанос» Менска на бераг Свіслачы. Гэта мерапрыемства адразу дало аб сабе знаць. Умацаванні Менскага дзядзінца паспяхова вытрымалі наступныя ўдары войска многіх князёў.

## 2. ПЛАНІРОЎКА І ЗАБУДОВА ГОРАДА

***Дзядзінец, абарончы вал, вароты.*** Умацаваны цэнтр Менска, яго дзядзінец, быў размешчаны ў забалочанай мясцовасці і меў прыродныя рубяжы, зручныя для абароны. Першапачаткова мыс, на якім будаваўся дзядзінец, падымаўся над узроўнем вады ў Свіслачы не больш чым на 2—3 метры. Старажытны вал будаваўся па яго краі.

На планах Мінска 18—19 ст. даволі дакладна паказаны вал няправільнай авальнай формы, які акружаў тэрыторыю Мінскага замчышча. Працягласць замчышча ад берага Свіслачы (з усходу на захад) складае 270 м, з поўначы на поўдзень 100—150 м. Плошча ўмацаванай часткі была каля 3 га. Агульная працягласць вала па перыметры — не менш

На основании летописей достоверно известно, что с начала 12 в. Менск становится центром отдельного княжества, и источники называют здесь князя Глеба — сына Всеслава Полоцкого. В период феодальной раздробленности рассчитывать на помощь Полоцка менским князьям не приходилось. Нужно было обходиться собственными силами. Это остро ставило вопрос о расширении укрепленной части Менска и возведении новых оборонительных сооружений.

Расположение города в верховье Птичи могло оказаться не подходящим в связи с формированием территории Менского княжества, которая была значительно большей, чем округа Менска в верховье Птичи, составлявшая, судя по размещению курганных могильников, несколько десятков километров в поперечнике.

Местонахождение первоначального Менска не соответствовало тем функциям, которые он должен был выполнять как центр формировавшегося удельного княжества. При такой ситуации потребовался «перенос» Менска на берег Свислочи. Это мероприятие сразу дало о себе знать. Укрепления Менского детинца успешно выдерживали последующие удары войска многих князей.

## 2. ПЛАНИРОВКА И ЗАСТРОЙКА ГОРОДА

***Детинец, оборонительный вал, ворота.*** Укрепленный центр Менска, его детинец, был расположен в заболоченной местности и имел природные рубежи, удобные для обороны. Первоначально мыс, на котором строился детинец, поднимался над уровнем воды в Свислочи не более чем на 2 — 3 метра. Древний вал сооружался по его краю.

На планах Минска 18—19 в. довольно точно показан вал неправильной овальной формы, окружавший территорию Минского замчища. Протяженность замчища от берега Свислочи (с востока на запад) составляет 270 м, с севера на юг 100 — 150 м. Площадь укрепленной части была около 3 га. Общая протяженность вала по периметру — не менее 750 м.

як 750 м. У новы час па краі вала праходзілі вуліцы Падзамкавая і Завальная.

Першапачатковы старажытны вал дакладна супаў з валам у гістарычных планах горада. Значыць, планы Мінска новага часу зафіксавалі цэнтр раннесярэдневяковага горада менавіта на гэтым месцы. Супадзенне старажытнага вала і вала, абазначанага на гістарычных планах горада, пераканаўча пацверджаны археалагічнымі раскопкамі і назіраннямі за землянымі работамі. У сучаснасці тэрыторыя Мінскага замчышча падзяляецца праспектам Пераможцаў на дзве амаль роўныя часткі. З дапамогай прамераў на мясцовасці ўдалося знайсці старажытны ўезд у дзядзінец, размешчаны з яго паўднёва-ўсходняга боку, дзе на планах паказаны разрыў вала. Будова вала і ўязныя вароты былі дэталёва вывучаны ў 1984–1986 гг. у сувязі з ахоўнымі раскопкамі на месцы будаўніцтва станцыі метро «Няміга».

В новое время по краю вала проходили улицы Подзамковая и Завальная.

Первоначальный древний вал точно совпал с валом в исторических планах города. Значит, планы Минска нового времени зафиксировали центр раннесредневекового города именно на этом месте. Тождество древнего вала и вала, обозначенного на исторических планах




*Схема развіцця Менска ў 12–17 ст.: 1 — пасадскія паселішчы 12–13 ст. вакол дзядзінца; 2 — павелічэнне тэрыторыі пасада ў 14–15 ст.; 3 — валы замка ў 12–17 ст. і павелічэнне мяжы горада ў 16–17 ст.; 4 — забалочаная мясцовасць («Татарскія агароды»); 5 — напрамкі вуліц і размяшчэнне Петрапаўлаўскай царквы.*

*Схема развития Менска в 12–17 вв.: 1 — посадские поселения 12–13 вв. вокруг детинца; 2 — увеличение территории посада в 14–15 вв.; 3 — валы замка в 12–17 вв. и увеличение границы города в 16–17 вв.; 4 — заболоченная местность («Татарские огороды»); 5 — направления улиц и размещение Петропавловской церкви.*

*Plan of Mensk of the 12th–17th centuries development: 1) trading quarters of the 12th–13th centuries around the castle; 2) the trading quarters of the 14th–15th centuries territories enlargement; 3) the 12th–17th centuries castle ramparts and the expansion of the 16th–17th centuries city boundaries; 4) a swamped district («Tatar vegetable gardens»); 5) the street lines and the place of SS. Pete and Paul's church.*

города, убедительно подтверждено археологическими раскопками и наблюдениями за земляными работами. В настоящее время территория Минского замчища разделяется проспектом Победителей на две почти равные части. С помощью промеров на местности удалось обнаружить древний въезд в детинец, расположенный с его юго-восточной стороны, где на планах показан разрыв вала. Устройство вала и въездные ворота были детально изучены в 1984 — 1986 гг. в связи с охранными раскопка-

Абарончы вал дзядзінца будаваўся ў два этапы. Першапачатковы вал дасягаў 15 м у шырыню каля асновы. Ён меў унутрывальную драўляную канструкцыю, якая ўмацоўвала пясчаны насып ад распаўзання і ахоўвала ад падкопаў непрыяцеля ў выпадку аблогі. Праз 15—20 год вал быў значна павялічаны і складаў 25—26 м каля асновы. Яго мяркуемая вышыня 8—9 м. Па грэбені вала праходзіла сцяна з бярвёнаў. Старажытны Менск на Свіслачы меў па таму часу моцныя дрэва-земляныя ўмацаванні.

Асобнае значэнне ў абароне горада надавалася ўязным варотам. Прарыў скрозь іх непрыяцеля вырашаў лёс горада, таму вароты старанна ахоўвалі. Уезд у горад уяўляў сабой у 12 ст. аб'ёмнае збудаванне, якое ў Беларусі называлі брамай. Па сутнасці гэта была вежа памерам 17,4 х 7,1 м, вышынёй не менш як 12 м. Яна нагадвала Залатыя вароты ў Кіеве.

Аснову варот у Менску складалі пустацелыя дубовыя клеці-зрубы, размешчаныя ўздоўж праезда па чатыры з кожнага боку. Шырыня праезду брамы — да 3,4 м, яго даўжыня — 17 м. У ім, можна меркаваць, у трох месцах былі ўстаўлены створкі-дзверы. Прайсці з боем праз такія вароты было няпроста. Калі яны своечасова былі зачынены жыхарамі, крэпасць даводзілася браць аблогай, што ў большасці выпадкаў поспеху не прыносіла. Варотныя ўмацаванні Менска па сваіх фартыфікацыйных якасцях і тэхнічным вырашэнні з'яўляюцца выдатным узорам драўлянага ваеннага дойлідства свайго часу, як даказаў іх даследчык Ю.А.Заяц.

Дзядзінец Менска ў перыяд феадальнай раздробленасці ўяўляў сабой моцную крэпасць на паўднёвых рубяжах Полацкай зямлі. Найбольш верагодным заснавальнікам Менска на беразе Свіслачы можна лічыць полацкага князя Усяслава.

***Пасадскія паселішчы, рынак.*** Паколькі крэпасць размяшчалася сярод нізкай мясцовасці, то выбару пасадскім людзям не заставалася: трэба было асвой-

ми на месте сооружения станции метро «Немига».

Оборонительный вал детинца сооружался в два этапа. Первоначальный вал достигал 15 метров в ширину у основания. Он имел внутривальную деревянную конструкцию, которая укрепляла песчаную насыпь от расползания и предохраняла от подкопов неприятеля в случае осады. Спустя 15—20 лет вал был значительно увеличен и составлял 25—26 м возле основы. Его предположительная высота 8—9 м. По гребню вала проходила бревенчатая стена. Древний Менск на Свислочи имел по тому времени мощные деревоземляные укрепления.

Особое значение в обороне города придавалось въездным воротам. Прорыв сквозь них неприятеля предрешал судьбу города, поэтому ворота тщательно оберегали. Въезд в город в 12 в. представлял собой объемное сооружение, называемое в Беларуси брамой. По существу, это была башня размером 17,4 х 7,1 м, высотой не менее 12 м. Она напоминала собой Золотые ворота в Киеве.

Основу ворот в Менске составляли пустотелые дубовые клети-срубы, расположенные вдоль проезда по четыре с каждой стороны. Ширина проезда брамы — до 3,4 м, его длина — 17 м. В нем, надо думать, в трех местах были установлены створки-двери. Пройти с боем через такие ворота было непросто. Если они своевременно были закрыты жителями, крепость приходилось осаждать, что в большинстве случаев успеха не приносило. Воротные укрепления Менска по своим фортификационным качествам и техническому решению являются выдающимся образцом деревянного военного зодчества своего времени, как это доказал их исследователь Ю.А.Заяц.

Детинец Менска в период феодальной раздробленности представлял собой мощную крепость на южных рубежах Полоцкой земли. Наиболее вероятным основателем Менска на берегу Свислочи можно считать полоцкого князя Всеслава.

***Посадские поселения, рынок.*** Поскольку крепость располагалась среди

ваць тэрыторыю побач з замкавымі сценамі і засяляць суседняе (за Нямігай) узвышша, дзе пазней узнік Верхні горад. Блізкасць забудовы да ракі давала значныя перавагі, асабліва для рамеснікаў, што займаліся рамёствамі, тэхналагічны працэс якіх патрабаваў шмат вады. У выпадку ваеннай небяспекі, што здаралася часта, насельніцтва пасада хавалася за сценамі крэпасці.

Для ўстанаўлення адрознення горада ад сельскага паселішча даследчыкі прапаноўваюць крытэрыі, сярод якіх найбольш важны — фіксацыя ў горадзе дзядзінца (крэпасці) і пасада, плошча якога ў некалькі разоў пераўзыходзіць дзядзінец. На пасадах гарадоў існавала абшчына, нагадваючая тэрытарыяльную, але ў адрозненне ад сельскай яна мела свае спецыфічныя элементы самакіравання. Можна меркаваць, што ў гарадскіх абшчынах у нейкай ступені рэгуляваліся рамесная вытворчасць і гандаль.

Пасад сярэдневяковага Менска археолагі спрабавалі знайсці ў непасрэднай блізкасці ад замчышча. Узнікла пытанне аб вывучэнні тэрыторыі, якая прылягала да Мінскага замчышча з поўначы каля сучаснага Палаца спорту (былыя Татарскія агароды). Лічылася, што яна ніколі не засялялася, бо тут заўсёды было непралазнае балота, абазначанае на ўсіх надрукаваных планах Менска.

Аднак сярод Татарскіх агародаў некалі знаходзіўся крыху ўзвышаны ўчастак. У 1946 г. археолагі зрабілі раскопкі ва ўрочышчы Міколка, за 200—250 м на поўнач ад замчышча. Тут быў невысокі авальны курган з 9 пахаваннямі трупапалажэннем і валападобны насып, дзе іх выяўлена 14. Пад насыпамі прасочаны культурны пласт 12—13 ст. У глiністым грунце адкапана яма паўзямлянкі, у другім месцы рэшткі печы для абпальвання глінянага посуду. Жалезны ключ, знойдзены ў запаўненні паўзямлянкі, мае лопасць з крыжападобнай прораззю, побач былі жалезныя цвікі і акоўка драўлянай рыдлёўкі.

низкой местности, то выбора посадским людям не оставалось: нужно было осваивать территорию рядом с замковыми стенами и заселять соседнюю (за Немигой) возвышенность, где позже возник Верхний город. Близость застройки к реке давала значительные преимущества, особенно для ремесленников, занимавшихся ремеслами, технологический процесс которых требовал много воды. В случае военной опасности, что случалось часто, население посада пряталось за стенами крепости.

Для установления отличия города от сельского поселения исследователи предлагают критерии, среди которых наиболее важный — фиксация в городе детинца (крепости) и посада, площадь которого в несколько раз превосходит детинец. На посадах городов существовала община, напоминавшая территориальную, но в отличие от сельской она имела свои специфические элементы самоуправления. Можно полагать, что в городских общинах в какой-то мере регулировалось ремесленное производство и торговля.

Посад средневекового Менска археологи попытались найти в непосредственной близости от замчища. Возник вопрос об изучении территории, которая прымыкала к Минскому замчищу с севера возле современного Дворца спорта (бывшие Татарские огороды). Считалось, что она никогда не заселялась, ибо здесь всегда было непролазное болото, обозначенное на всех опубликованных планах Минска.

Однако среди Татарских огородов когда-то находился слегка возвышенный участок. В 1946 г. археологи произвели раскопки в урочище Николка, в 200—250 м севернее замчища. Здесь был невысокий овальный курган с 9 погребениями трупоположением и валообразная насыпь, где их выявлено 14. Под насыпями обнаружен культурный слой 12—13 вв. В глинистом грунте вскрыта яма полуземлянки, в другом месте остатки печи для обжига глиняной посуды. Железный ключ, найденный в заполнении полуземлянки, имеет лопасть с крестообразной

На аснове раскопак 1946 г. «на балоце» можна заключыць, што на поўнач ад замчышча знаходзілася паселішча 12—13 ст., а затым тут узнік невялікі могільнік. Месца паступова забалочвалася і стала вядомым як Татарскія агароды. Забалочванне ўчасткаў, дзе раней утварыўся культурны пласт, — з'ява распаўсюджаная. У 1987 г. пры ахоўных раскопках у



*Рэшткі драўляных канструкцый у сярэдзіне вала канца 11 ст. (раскопкі 1984 г.).*

*Остатки деревянных конструкций внутри вала 11 в. (раскопки 1984 г.).*

*The remains of the wooden constructions in the centre of the 11th century rampart (excavations of 1984).*

сувязі з пашырэннем рэчышча Свіслачы быў зафіксаваны культурны пласт таўшчынёй 0,6—0,7 м і зноў знойдзены фрагменты керамікі 11—13 ст.

Перспектыўнай для пошукаў пасада лічыцца мясцовасць на ўсход ад замчышча ўздоўж правага берага Свіслачы. На думку маскоўскага археолага Л.В. Аляксеева, тут мог знаходзіцца вакольны горад (Ніжні Замак) старажытнага Менска. У выніку даследаванняў 1974 г. знойдзены нязначны па магутнасці культурны пласт з керамікай 12—13 ст. Бурнае развіццё гэтай часткі горада адносіцца да 16—18 ст.

Пасад Менска развіваўся ў паўднёва-ўсходнім напрамку. Даследаваннямі

прорезью, рядом были железные гвозди и оковка деревянной лопаты.

На основании раскопок 1946 г. «на болоте» можно заключить, что севернее замчища находилось поселение 12—13 вв., а затем здесь возник небольшой могильник. Место постепенно заболочивалось н стало известно как Татарские огороды. Заболачивание участков, где ранее образовался культурный слой, — явление распространенное. В 1987 г. при охранных раскопках в связи с расширением русла Свислочи был зафиксирован культурный слой толщиной 0,6—0,7 м н снова найдены фрагменты керамики 11—13 вв.

Перспективной для поисков посада считается местность на восток от замчища вдоль правого берега Свислочи. По мнению московского археолога Л.В.Алексеева, здесь мог находиться окольный город (Нижний замок) древнего Менска. В итоге исследований 1974 г. обнаружен незначительный по мощности культурный слой с керамикой 12—13 вв. Бурное развитие этой части города относится к 16—18 вв.

Посад Менска развивался в юго-восточном направлении. Исследованиями на площади Свободы, Музыкального переулка, улиц Кирилла и Мефодия, Герцена установлено, что поселение в конце 11—13 в. существовало на территории Верхнего города. Культурный слой этого времени имел толщину 0,2 — 0,3 м, что свидетельствует о редкой застройке и слабой интенсивности жизни. Наблюдения за строительными работами и охранные раскопки, проведенные на улице Герцена в 1997 г., еще раз это подтвердили. Посадские поселения 12—13 вв. были также на левом берегу Свислочи, напротив детнница. Керамика этого времени найдена во дворах на современных улицах Старовиленской, Коммунально-Набережной, Максима Богдановича и на территории 2-й городской больницы.

Посад Менска в 12—13 вв. располагался в нескольких местах: на правом берегу Свислочи на север и юго-восток от замчища и на левом берегу этой реки, возле Троицкой горы. Общая площадь

на плошчы Свабоды, Музычнага завулка, вуліц Кірыла і Мяфодзія, Герцана ўстаноўлена, што паселішча ў канцы 11—13 ст. існавала на тэрыторыі Верхняга горада. Культурны пласт гэтага часу меў таўшчыню 0,2—0,3 м, што сведчыць пра рэдкую забудову і слабую інтэнсіўнасць жыцця. Назіранні за будаўнічымі работамі і ахоўныя раскопкі, зробленыя на вуліцы Герцэна ў 1997 г., яшчэ раз гэта пацвердзілі.

Пасадскія паселішчы 12—13 ст. былі таксама на левым беразе Свіслачы, насупраць дзядзінца. Кераміка гэтага часу знойдзена ў дварах на сучасных вуліцах Старавіленскай, Камунальна-Набярэжнай, Максіма Багдановіча і на тэрыторыі 2-й гарадской бальніцы.

Пасад Менска ў 12—13 ст. размяшчаўся ў некалькіх месцах: на правым беразе Свіслачы на поўнач і паўднёвы ўсход ад замчышча і на левым беразе гэтай ракі, каля Траецкай гары. Агульная плошча паселішчаў прыкладна 18 га, але яна была рэдка забудавана. Аб сярэдневяковым горадзе гаварылі, што ён «напалову забудаваны, а напалову засеяны». Так магло быць і на пасадскіх паселішчах Менска на Свіслачы.

На правым беразе Нямігі, на другім рукаве ўперадзе паўднёвай сцяны і ўязных варот дзядзінца размяшчаўся рынак — неад'емная прыналежнасць усялякага сярэдневяковага горада. У Менску ён быў вядомы на працягу стагоддзяў пад назвай «Ніжні рынак» (цяпер насупраць уваходу на станцыю метро «Няміга»). Недалёка, каля берага Свіслачы і рынка, знаходзілася прыстань — месца, блізкае да вусця Нямігі і прыстасаванае для прычальвання малых суднаў і лодак-аднадрэвак. Прыстань служыла невялікім портам, дзе рабілася іх пагрузка і разгрузка.

***Вуліцы, жыллё, гаспадарчыя будынкі***. Найбольш важным археалагічным аб'ектам для даследавання з'яўляюцца культурныя напластаванні на Мінскім замчышчы. Тут выяўлены асноўныя матэрыялы па археалогіі Менска. У адкладах магутнасцю 5—6 м месцамі зафіксавана 20 будаўнічых гарызонтаў

поселений предположительно 18 га, однако она была редко застроена. О средневековом городе говорнли, что он «наполовину застроен, а наполовнну засеян». Так могло быть и на посадских поселениях Менска на Свислочи.

На правом берегу Немнги, ее втором рукаве впередн южной стены и въездных ворот детинца размещался рынок — непременная принадлежность всякого средневекового города. В Менске он был известен на протяжении столетий под названием «Нижний рынок» (теперь напротив входа на станцию метро «Немига»). Невдалеке, у берега Свислочи и рынка, находилась пристань — место близ устья Немиги, приспособленное для причала малых судов и лодок-однодревок. Пристань служила небольшим портом, где производилась нх погрузка и разгрузка.



*Насціл вуліцы з рэшткамі вадасцёку на драўляных латках.*

*Настил улицы с остатками водостока по деревянным лоткам.*

*The street planking with the remained drainpipe along the wooden shoots.*

***Улицы, жилища, хозяйственные постройки.*** Наиболее важным археологическим объектом для исследования являются культурные напластования на Минском замчище. Здесь обнаружены основные материалы по археологии

з рэшткамі насцілаў вуліц, жытлаў, гаспадарчых будынкаў. Стацыянарныя археалагічныя раскопкі на замчышчы пачаліся ў 1945 г. і з перапынкамі працягваліся да 1991 г. Імі кіравалі ў розныя гады В.Р.Тарасенка, Э.М.Загарульскі, Г.В.Штыхаў, В.Е.Собаль. Даследавана каля трох тысяч квадратных метра культурнага пласта. Найбольш старажытныя



*Унутраны выгляд старажытнай хаты (рэканструкцыя Э.М.Загарульскага).*

*Внутренний вид древней избы (реконструкция Э.М.Загорульского).*

*The interior of the ancient house (reconstruction by E.M.Zagorulsky).*

матэрыялы датуюцца ў межах другой паловы 11 — пач. 12 ст.

Аснову планіроўкі ўмацаванага цэнтра Менска складалі вуліцы. Як звычайна — гэта рады жылых пабудоў і прастора паміж імі для праходу і праезду. Вуліцы былі замошчаны драўлянымі насцілами. Адна з галоўных вуліц шырынёй 4 м з поўначы на поўдзень перасякала ўсходнюю частку дзядзінца і вяла да гарадскіх варот. Ад яе адыходзілі зусім вузкія вулачкі (выяўлены чатыры), накіраваныя да сядзіб гараджан.

Захавалася 13 драўляных насцілаў гэтай вуліцы. Папярочныя насцілы ўкладзены з добра падагнаных паміж сабой бярвён. Згнілы ці зношаны насціл не здымаўся, а зверху на яго ўкладваўся

Менска. В отложеннях мощностью 5 — 6 м местами зафнксировано 20 строительных горизонтов с остатками настнлов улнц, жилищ, хозяйственных построек. Стационарные археологические раскопки на замчище начались в 1945 г. и с перерывами продолжались до 1991 г. Ими руководили в разные годы В.Р.Тарасенко, Э.М.Загорульский, Г.В.Штыхов, В.Е.Соболь. Исследовано около трех тысяч квадратных метров культурного слоя. Наиболее древнне материалы датируются в пределах второй половины 11 — нач. 12 в.

Основу планировки укрепленного центра Менска составляли улицы. Как обычно — это два ряда жилых построек и пространство между ними для прохода и проезда. Улицы были замощены деревянными настилами. Одна из главных улиц шнриной 4 м с севера на юг пересекала восточную часть детинца и вела к городским воротам. От нее отходили узкие улочки (обнаружены четыре), направленные к усадьбам горожан.

Сохранилось 13 деревянных настилов этой улицы. Поперечные настилы уложены из хорошо подогнанных между собой бревен. Пришедший в негодность, изношенный настил не снимался, а поверх него укладывался новый. Каждый настил опнрался на лаги, уложенные вдоль направления улицы. Представлялось необходимым прибегать к отводу лишней воды с помощью водоотводных сооружений, что характеризует надлежащий уровень городского благоустройства.

На Минском замчище выявлены остатки 150 деревянных построек 12—13 вв. Часть из них — жилые, площадью 16—25 кв.м. Изба обычно состояла из одного помещения, квадратного в плане. Но были и пятистенки. Основным строительным материалом служила сосна, реже ель, изредка дуб для нижних венцов сруба. Стены рубились в простой угол и проконопачивалнсь мхом. Дверные проемы имели высоту не более 1,6 м. Полотно двери из 2 — 3 досок, скрепленных деревянными планками. Дверь

новы. Кожны насціл абапіраўся на лагі, пакладзеныя ўсцяж напрамку вуліцы. Даводзілася час ад часу адводзіць лішнюю ваду з дапамогай водаадводных збудаванняў, што характарызуе належны ўзровень гарадскога добраўпарадкавання.

На Мінскім замчышчы знойдзены рэшткі 150 драўляных будынкаў 12–13 ст. Частка з іх – жыллё плошчай 16–25 кв. м. Хата, звычайна, з аднаго памяшкання, квадратнага ў плане. Але былі і пяцісценкі. Асноўным будаўнічым матэрыялам служыла драўніна сасны, радзей – елкі, зусім рэдка бярвёны дуба для ніжніх вянцоў зруба. Сцены рубіліся ў просты вугал і канапаціліся мохам. Дзвярныя праёмы мелі вышыню не больш за 1,6 м. Створкі дзвярэй з 2–3 дошак, змацаваных драўлянымі планкамі. Дзверы адчыняліся ўнутр хаты, мелі ўнізе выступ – «пятку», на якой яны паварочваліся. Уваход рабіўся заўсёды з боку двара. Жылыя будынкі стаялі ўздоўж вуліцы і былі навернуты да яе глухімі сценамі.

Падлогу насцілалі з тоўстых дошак, пакладзеных на лагі. Захаваліся рэшткі ганачных лесвіц. Страха была двухсхільнай, накрытай дранкай. Спецыяльна зробленай столі жыллё не мела. Вокны былі вузкія і рабіліся высяканнем куска бервяна ў зрубе.

Прыналежнасцю кожнай хаты з'яўлялася печ. Яна змяшчалася ў вугле справа ці злева ад уваходу. Печы скляпеністай формы рабіліся з гліны і змяшчаліся на невысокай аснове – апечку. Жылыя памяшканні ацяпляліся «пачорнаму» з выхадам дыму праз вусце печы. Вышэй ён мог выходзіць у адтуліну, блізкую да даху.

У вуглу печы ўзвышаўся тоўсты слуп. Ён вядомы па этнаграфічным матэрыяле пад назвай «дзеда», «каня», «канявога стаўба». У беларускіх сялян з гэтым слупам звязаны шэраг паданняў і звычаяў. Слуп быў апорай для палацяў, што наладжваліся побач з печчу, некалькі вышэй за яе. Пад палацямі знаходзіліся нары. І палаці, і нары прызначаліся для сну. Ля

открывалась вовнутрь, имела внизу выступ – «пятку», на которой она поворачивалась. Вход устраивался всегда со стороны двора. Жнлые постройки стояли вдоль улицы и были повернуты к ней глухими стенами.

Пол делали из тесин, уложенных на лагах. Сохранились остатки крылечных лестниц. Крыша была двускатной, тесовой.



*Жылы комплекс сядзібы 13 ст. ў Менску (рэканструкцыя П.А.Русава).*

*Жилой комплекс усадьбы 13 в. в Менске (реконструкция П.А.Русова).*

*The 13th century manor in Mensk (reconstruction by P.A.Rusov).*

Специально устроенного потолка жилища не имели. Окна были узкие и делались путем вырубки куска бревна в срубе.

Принадлежностью каждой избы была печь. Она помещалась в углу справа или слева от входа. Печи сводчатой формы делались из глины и помещались на невысоком основании – «опечке». Жилые помещения отапливались «по-черному» с выходом дыма через устье печи. Выше он мог выходить в отверстие, близкое к крыше.

В углу печи поднимался масснвный столб. Он известен по этнографическим материалам под назваиием «дзеда», «каня», «канявога стаўба». У белорусских крестьян с этим столбом связан ряд поверий и обрядов. Столб служил опорой для полатей, устранваемых рядом с пе-

супрацьлеглай сцяны стаялі нерухомыя лаўкі, на якіх можна было сядзець.

Акрамя аднакамернага жылля, археалагічнымі раскопкамі зафіксавана жыллё больш складанага тыпу. Двухкамерныя жытлы мелі характар зрубаўпяцісценак, перагароджаных на два памяшканні ўнутранай сцяной. Узнікае пытанне пра паверхі зрубных жытлаў раннесярэдневяковага часу. У Менску выяўлены будынкі, у якіх апынуліся рэшткі печаў, што ўпалі зверху. Вельмі магчыма, такія зрубы ўяўлялі сабой падклеты, над якімі размяшчаўся другі, г.зн. жылы паверх. У 1986 г. каля пабудовыпяцісценкі знойдзена лесвіца з аднаго тоўстага бервяна, даўжынёй 3,4 м з шасцю высечанымі ступенямі для падняцця на другі паверх.

Побач з наземнымі зрубнымі жытламі звычайна выяўляецца пласт трэсак, што сведчыць аб будаўніцтве іх тут жа, на месцы. У некаторых выпадках на бярвёнах зрубаў ёсць меткі. Значыць, зруб рыхтавалі дзесьці, а затым перавозілі ў разабраным выглядзе. На Мінскім замчышчы сярод мноства драўляных будынкаў знаходзіліся хлявы, у якіх утрымлівалася жывёла. Выяўлены будынкі слупавой канструкцыі.

У цэлым побытавая забудова сярэдневяковага Менска па матэрыяльнай культуры блізкая да домабудаўнічых традыцый гарадоў лясной паласы Усходняй Еўропы і асабліва беларускіх зямель (Полацк, Віцебск, Слуцк, Берасце і інш.). Але выяўляюцца і некаторыя навацыі сярэдневяковага Менска. У 1986 г. побач з сцяной Дома фізкультуры на беразе Свіслачы зафіксавана незвычайная двухпавярховая пабудова-пяцісценка (5 × 5 м), якая служыла вяндлярняй у 13 ст. У ёй апрацоўваліся прадукты гарачым дымам.

***Сядзібы гараджан, колькасць насельніцтва.*** Несумненным дасягненнем археалагічнага вывучэння Менска з'яўляецца адкрыццё сядзіб, на якіх размяшчаліся жылыя і гаспадарчыя памяшканні. Сядзібную планіроўку мелі

чью, несколько выше ее. Под полатями находились нары. И полати, и нары предназначались для сна. Вдоль другой стены стояли неподвижные лавки для сиденья.

Помимо однокамерных жилищ, археологическими раскопками зафиксированы жилища более сложного типа. Двухкамерные жилища имели характер срубов-пятистенок, перегороженных на два помещения внутренней стеной. Возникает вопрос об этажности срубных жилищ раннесредневекового времени. В Менске обнаружены постройки, в которых были остатки печей, упавших сверху. Очень возможно, подобные срубы представляли собой подклеты, над которыми располагался второй, т.е. жилой этаж. В 1986 г. возле постройки-пятистенки найдена лестница, сделанная из одного массивного бревна, длиной 3, 4 м с шестью высеченными ступенями для подъема на второй этаж.

Рядом с наземными срубными жилищами обычно обнаруживается слой щепы, что свидетельствует о строительстве их здесь же, на месте. В некоторых случаях на бревнах срубов имеются метки. Значит, сруб рубили где-то, а затем перевозили в разобранном виде. На Минском замчище среди массовой деревянной застройки находились хлевы, в которых содержался скот. Обнаружены постройки столбовой конструкции.

В целом бытовая застройка средневекового Менска по материальной культуре близка домостроительным традициям городов лесной полосы Восточной Европы и особенно белорусских земель (Полоцк, Витебск, Слуцк, Берестье и др.). Но выявляются и некоторые новации средневекового Менска. В 1986 г. рядом со стеной Дома физкультуры на берегу Свислочи зафиксирована необычная двухэтажная постройка-пятистенка (5 × 5 м), служившая коптильней в 13 в. В ней обрабатывались продукты горячим дымом.

***Усадьбы горожан, численность населения.*** Несомненным достижением археологического изучения Менска яв-

многія стольныя гарады. У дзядзінцы Менска плошча сядзіб раўнялася 220—225 кв. м. Іх межы адзначаны частаколамі. Адна з іх мае перыметр, утвораны будынкамі, шчыльна пастаўленымі так, што ўсярэдзіне размяшчаўся маленькі дворык. Гэта тыповая гарадская сярэдневяковая сядзіба. Уезд з боку вуліцы праходзіў праз вароты, абазначаныя двума тоўстымі слупамі. На сядзібе былі 2 жылыя будынкі і 5 гаспадарчых. Уваходзілі ў іх з падворку.

Сядзібы размяжоўваліся трывалым плотам. Распаўсюджанай агароджай з'яўляўся частакол. Слупы таўшчынёй 10—15 см укопваліся ў неглыбокую канаву і ставіліся шчыльна адзін да аднаго. Кожны ўладальнік сядзібы мог з гонарам сказаць: «Мая сядзіба — мая крэпасць».

Часта здараліся пажары. Адбудаваныя зноў сядзібы паўтаралі план былой забудовы. І гэтак на працягу многіх дзесяцігоддзяў. Э.М.Загарульскі, які шмат зрабіў для вывучэння планіроўкі і забудовы сярэдневяковага Менска, прыйшоў да высновы, што стабільнасць памераў гарадскіх сядзіб вызначалася прававымі нормамі, размеркаваннем гарадскіх участкаў паміж асобнымі ўладальнікамі, недатыкальнасць уладанняў ахоўвалася дзяржаўнай уладай. Пры адноснай нязменнасці плошчы сядзібы забудова яе з часам станавілася ўсё больш шчыльнай. Гэта тлумачыцца павелічэннем колькасці жыхароў сядзібы, як, верагодна, усяго дзядзінца ўвогуле.

Сучасныя гісторыкі розных краін вызначаюць колькасць жыхароў сярэдневяковых гарадоў паводле колькасці дамоў, калі яна вядомая, зыходзячы з таго, што гаспадарка тады налічвала 5—6 чалавек. У Заходняй Еўропе ў 11 ст. горад з насельніцтвам 2000—3000 жыхароў лічыўся буйным.

У дзядзінцы Менска памер сядзібы складаў крыху менш за адну саракавую частку гектара, пры плошчы дзядзінца — 3 га. Забудова на замчышчы займала 1,8 га. Тут маглі быць прыкладна 80—82 сядзібы, а жыхароў да 500 чала-

ляется открытие усадеб, на которых располагались жилые и хозяйственные помещения. Усадебную планировку имели многие стольные города. В детинце Менска площадь усадеб равнялась 220 — 250 кв. м. Их границы обозначены частоколами. Одна из них имеет периметр, образуемый постройками, плотно поставленными так, что внутри образовался маленький дворик. Это типичная городская средневековая усадьба. Въезд со стороны улицы проходил через ворота, обозначенные парой толстых столбов. На усадьбе изучены 2 жилые постройки и 5 хозяйственных. Входили в них со двора.

Усадьбы разграничивались прочным забором. Изгородью был частокол. Столбы толщиной в 10 — 15 см вкапывались в неглубокую канаву и были поставлены вплотную один к одному. Каждый владелец усадьбы мог с гордостью сказать: «Моя усадьба — моя крепость».

Часто случались пожары. Отстроенные заново усадьбы повторяли план прежней застройки. И так на протяжении многих десятилетий. Э.М.Загорульский, много сделавший для изучения планировки и застройки средневекового Менска, пришел к выводу, что стабильность размеров городских усадеб определялась правовыми нормами, распределением городских участков между отдельными владельцами и неприкосновенность владений охранялась государственной властью. При относительном постоянстве площади усадьбы застройка ее со временем становилась все более плотной. Это объясняется увеличением численности обитателей усадьбы, как, вероятно, всего детинца вообще.

Современные историки разных стран определяют количество жителей средневековых городов по числу домов, если такое известно, исходя из того, что хозяйство тогда насчитывало 5 — 6 человек. В Западной Европе в 11 в. город с населением 2000—3000 жителей считался крупным.

В детинце Менска размер усадьбы составлял немногим менее одной сороковой части гектара, при площади де-

век (некаторыя сядзібы ў дзядзінцы мелі па дзве хаты).

Цяжка сказаць аб рэальнай колькасці насельніцтва на пасадзе Менска. Для пасада Полацка вызначаны каэфіцыент шчыльнасці 80 жыхароў (на 1 га). У Менску агульная плошча пасада магла раўняцца 18 га, а колькасць насельніцтва складаць каля 1400 чалавек. Значыць, агульная колькасць жыхароў Менска ў 12—13 ст., магчыма, дасягала 1900—2000 чалавек. Па плошчы і колькасці жыхароў Менск ва ўмовах лясной паласы Усходняй Еўропы можна лічыць значным горадам.

Такім чынам, Менск меў сярэдневяковую планіроўку — умацаваны цэнтр горада і гандлёва-рамесны пасад пад апекай замкавых сцен і феадальнай улады. У архітэктурна-планіровачным, таксама як і сацыяльна-палітычным сэнсе ў Менску непадзельна панаваў дзядзінец. Ён быў цэнтрам горада, яго архітэктурна-будаўнічай дамінантай у параўнанні з пасадам — рэдка забудаваным, напалову засеяным. Каля дзядзінца размяшчаліся рынак і прыстань.

## 3. МІНСК – СТАЛІЦА КНЯСТВА

***Княжацкія ўсобіцы. Часовае ўзвышэнне Мінска.*** Усяслаў Брачыславіч быў апошнім і найбольш моцным князем, які валодаў усёй Полацкай зямлёй. Памёр ён ў 1101 г. Пачаўся перыяд удзельнай раздробленасці і няспыннай «хатняй барацьбы», як пісаў беларускі гісторык У.М.Ігнатоўскі. Полацкая зямля стала распадацца на асобныя ўдзельныя княствы — самастойныя тэрытарыяльныя адзінкі. Дакладна невядома, каму з сыноў Усяслава дастаўся Полацк. Мяркуюць, што ім быў Барыс. У 1102 г. ён заснаваў горад Барысаў на Бярэзіне.

Першым з Полацкай зямлі вылучылася Менскае ўдзельнае княства. У ім стаў княжыць сын Усяслава Глеб. Глеб Усяславіч яшчэ ў 1072 г. быў заручаны з нованароджанай дачкой валынскага князя Яраполка Ізяславіча. Стаўшы

тинца — 3 га. Застройка на замчище занимала 1,8 га. Здесь могли быть 80 — 82 усадьбы, а жителей до 500 человек (некоторые усадьбы в детинце имели по два жилых дома).

Трудно говорить о реальном количестве населения на посаде Менска. Для посада Полоцка определен коэффициент плотности 80 жителей (на 1 га). В Менске общая площадь посада могла равняться 18 га, а количество населения составлять около 1400 человек. Значит общее число жителей Менска в 12—13 вв., возможно, достигало 1900 — 2000 человек. По площади и количеству жителей Менск в условиях лесной полосы Восточной Европы можно считать значительным городом.

Таким образом, Менск имел средневековую планировку — укрепленный центр города и торгово-ремесленный посад под опекой замковых стен и феодальной власти. В смысле архитектурно-планировочном, также как и социально-политическом отношении в Менске нераздельно господствовал детинец. Он был центром города, его архитектурно-строительной доминантой по сравнению с посадом — редко застроенным, наполовину засеянным. Возле детинца располагались рынок и пристань.

## 3. МИНСК – СТОЛИЦА КНЯЖЕСТВА

***Княжеские усобицы. Временное возвышение Минска.*** Всеслав Брячиславич был последним и наиболее сильным князем, который владел всей Полоцкой землей. Умер он в 1101 г. Начался период удельной раздробленности и «домашней борьбы», как писал белорусский историк В.М.Игнатовский. Полоцкая земля стала распадаться на особые удельные княжества — самостоятельные территориальные единицы. Точно неизвестно, кому из сыновей Всеслава достался Полоцк. Полагают, что им был Борис. В 1102 г. он основал город Борисов на Березине.

Первым из Полоцкой земли выделилось Менское удельное княжество. В нем

князем у Менску, Глеб накіраваў усю сваю энергію на пашырэнне граніц належачага яму Менскага княства. У склад гэтага княства ў пачатку 12 ст. ўваходзілі Орша і Копысь. Выказваюцца думкі, што менавіта Глеб пабудаваў у гэтых гарадах умацаванні. У залежнасці ад Глеба знаходзіўся Друцк (цяпер гарадзішча ў Талачынскім раёне).

Паміж сынамі Усяслава (іх было шасцёра) пачалася міжусобная барацьба, у якую ўмешваліся кіеўскія князі. У 1105 г. (у Іпацьеўскім летапісе ў 1004 г.) на Менск напала аб'яднанае войска паўднёварускіх князёў. Кіеўскі князь Святаполк накіраваў супраць Глеба Усяславіча ваяводу Пуцяту, Уладзімір Манамах — свайго сына Яраполка, чарнігава-северскі князь Алег Святаславіч хадзіў сам, «поемше» (взяв) з сабой Давыда Усяславіча. Глеб Усяславіч змог адбіць напад, паход на Менск не меў поспеху.

Узнікае пытанне, чаму ў гэтым паходзе ўдзельнічаў родны брат менскага князя Глеба Давыд Усяславіч. Відаць, Давыд не меў удзельнага княства і разлічваў атрымаць яго з дапамогай паўднёварускіх князёў. У сваю чаргу Глеб Усяславіч імкнуўся павялічыць свае ўладанні. У 1116 г. ён захапіў частку зямлі дрыгавічоў, спаліў іх горад Слуцк і ўзяў людзей у палон. Паводзіны менскага князя турбавалі Уладзіміра Манамаха, які незадоўга да гэтага стаў вялікім князем кіеўскім. Больш таго, Глеб не жадаў прызнаваць сябе ні ў чым вінаватым і абвінавачваў самога Уладзіміра Манамаха.

З трох бакоў на Менскае і Друцкае княствы быў накіраваны ўдар шматлікага войска: сын Манамаха Вячаслаў, які княжыў у Смаленску, заняў Оршу і Копысь; аб'яднанае войска Давыда і пераяслаўскага князя Яраполка ўзяло прыступам Друцк; сам Уладзімір Манамах пайшоў да Менска і аблажыў горад. Двухмесячная асада пе прынесла поспеху. Манамах загадаў будаваць у сваім стане трывалае зімовае жыллё. Глеб Усяславіч, пабачыўшы падрыхтоўку да

стал княжить сын Всеслава Глеб. Глеб Всеславич еще в 1072 г. был обручен с новорожденной дочерью волынского князя Ярополка Изяславича. Став князем в Менске, Глеб направлял всю свою энергию на расширение границ принадлежащего ему Менского княжества. В состав этого княжества в начале 12 в. входили Орша и Копысь. Высказываются



*Кіяўляне сякуць сцены турмы («паруба»), каб вызваліць з яе Усяслава Полацкага (мініяцюра летапісу).*

*Киевляне рубят стены тюрьмы («поруба»), чтобы освободить из нее Всеслава Полоцкого (миниатюра летописи).*

*The Kievans cut the prison («porub») walls to free Vseslav of Polotsk (a miniature from chronicle).*

мнения, что нменно Глеб построил в этих городах укрепления. В зависимости от Глеба находился Друцк (теперь городище в Толочинском районе).

Между сыновьями Всеслава (их было шестеро) началась междоусобная борьба, в которую вмешивались киевские князья. В 1105 г. (в Ипатьевской летописи в 1104 г.) на Менск напало объединенное войско южнорусских князей. Киевский князь Святополк направил против Глеба Всеславича воеводу Путяту, Владимир Мономах — своего сына Ярополка, черниговско-северский князь Олег Святославич ходил сам, «поемше» (взяв) с собой Давида Всеславича. Глеб Всеславич смог отбить нападение, поход на Менск не имел успеха.

працяглай аблогі, накіраваў паслоў да Манамаха, які пагадзіўся на мірныя перамовы. Менскі князь выйшаў з горада са сваімі дзецьмі і дружынай да Манамаха і паабяцаў ва ўсім яго слухацца. Вялікі князь кіеўскі, зрабіўшы настаўленне Глебу Усяславічу, як далей ён павінен паводзіць сябе, вярнуў яму Менск, а сам вярнуўся ў Кіеў.



*Менскі князь Глеб Усяславіч.*
*Менский князь Глеб Всеславич.*
*Gleb Vseslavich, the prince of Mensk.*

Непакорны Глеб нядоўга выконваў павучанне Манамаха. У 1117 г. ён пачаў заваёўваць смаленскія і іншыя землі. Зноў узнік канфлікт з Уладзімірам Манамахам, які паслаў свайго сына Мсціслава ўціхамірваць менскага князя. Войска Мсціслава аблажыла Менск. Глеб Усяславіч трапіў у палон і памёр у Кіеве ў 1119 г. У выніку гэтых падзей Менск апынуўся сярод кіеўскіх уладанняў. Але пасля смерці вялікага князя Мсціслава (1132) Кіеўская Русь распалася на асобныя княствы.

Да сярэдзіны 12 ст. адносіцца новае ўзвышэнне Мінска. Яму адводзілася значная роля ў планах і разліках полацкіх князёў, якія варагавалі паміж сабой і імкнуліся захапіць суседнія землі і прастол у Полацку. Менск стаў галоўным уладаннем унукаў Усяслава Полацкага —

Возникает вопрос, почему в этом походе участвовал родной брат менского князя Глеба Давид Всеславич. Вероятно, Давид не имел удельного княжества и рассчитывал получить его с помощью южнорусских князей. В свою очередь Глеб Всеславич стремился увеличить свои владения. В 1116 г. он захватил часть земли дреговичей, сжег их город Слуцк и взял людей в плен. Поведение менского князя беспокоило Владимира Мономаха, который незадолго до этого стал великим князем киевским. Более того, Глеб не желал признавать себя ни в чем виноватым и обвинял самого Владимира Мономаха.

С трех сторон на Менское и Друцкое княжества был направлен удар многочисленного войска: сын Мономаха Вячеслав, княживший в Смоленске, занял Оршу и Копысь; объединенное войско Давида и переяславского князя Ярополка взяло приступом Друцк; сам Владимир Мономах пошел к Менску и осадил город. Двухмесячная осада не принесла успеха. Мономах приказал строить в своем стане прочное зимнее жилье. Глеб Всеславич, увидев подготовку к продолжительной осаде, направил послов к Мономаху, согласившемуся на мирные переговоры. Менский князь вышел из города со своими детьми и дружиной к Мономаху и пообещал во всем его слушаться. Великий князь киевский, давши наставление Глебу Всеславичу, как впредь он должен вести себя, возвратил ему Менск, а сам вернулся в Киев.

Непокорный Глеб недолго выполнял наказ Мономаха. В 1117 г. он начал завоевывать смоленские и другие земли. Снова возник конфликт с Владимиром Мономахом, который послал своего сына Мстислава утихомирить менского князя. Войско Мстислава осадило Менск. Глеб Всеславич попал в плен и умер в Киеве в 1119 г. В итоге этих событий Менск оказался среди киевских владений. Но после смерти великого князя Мстислава (1132) Киевская Русь распалась на отдельные княжества.

князёў Глебавічаў, якія намерваліся зацвердзіцца ў Полацку. Аднак менскіх князёў Глебавічаў апярэдзілі нашчадкі князя Барыса Усяславіча — князі Барысавічы. Да таго часу ў Полацку павялічыліся значэнне і ўлада веча.

Каля 1146 г. полацкае веча запрасіла сына Барыса Усяславіча — Рагвалода на прастол у Полацк. Такім чынам, друцкі князь стаў вялікім князем полацкім. Праз некаторы час менскаму князю Расціславу і яго прыхільнікам удалося дамовіцца з прадстаўнікамі полацкага веча, каб заняць прастол у Полацку. Рагвалод Барысавіч у 1151 г. быў схоплены, прывезены ў Менск і кінуты ў цямніцу. Расціслаў Глебавіч стаў княжыць у Полацку, а яго сын Глеб — у Друцку.

Менскім князем тады быў брат Расціслава — Валадар. Другі брат — Усевалад атрымаў княжанне ў Заслаўлі. Такім чынам, Расціславу Глебавічу ў 1158 г. (у летапісу 1159 г.) удалося аб'яднаць значную частку Полацкай зямлі, аднак на непрацяглы час. Рагвалод Барысавіч уцёк з Менска. Пры ўдзеле войска северскага князя Святаслава Ольгавіча ён вярнуў сабе Друцк. У Полацку ў Рагвалода Барысавіча таксама былі прыхільнікі. З іх дапамогай ён у 1158 г. «з гонарам вялікім» зноў заняў полацкі прастол. Расціслаў Глебавіч вымушаны быў пайсці ў Менск да брата Валадара. Пачалася новая міжусобная вайна.

Супраць Менска выступіў Рагвалод. Дзесяць дзён ён прастаяў з войскам пад яго сценамі і ні з чым вярнуўся назад. Не спадзеючыся на ўласныя сілы, Рагвалод звярнуўся за дапамогай у Кіеў. Ваенныя дзеянні аднавіліся праз год. Кіеўскі князь прыслаў у дапамогу Рагвалоду 600 качэўнікаў—торкаў. Шэсць тыдняў працягвалася аблога Менска. Рагвалод так і не здолеў узяць горад. Торкі вымушаны былі пяшком вяртацца ў свае паўднёвыя стэпы. Так жа беспаспяхова скончыўся яшчэ адзін паход Рагвалода на Менск у 1160 г.

Менскі князь Валадар Глебавіч у 1161 г. з дапамогай літоўцаў нанёс цяжкае паражэнне полацкаму князю Рагва-

К середине 12 в. относится новое возвышение Минска. Ему отводилась значительная роль в планах и расчетах полоцких князей, которые враждовали между собой и стремились захватить соседние земли и престол в Полоцке. Менск стал главным владением внуков Всеслава Полоцкого — князей Глебовичей, намеревавшихся утвердиться в Полоцке. Однако менских князей Глебовичей опередили наследники князя Бориса Всеславича — князья Борисовичи. К тому времени в Полоцке возросло значение и власть веча.

Около 1146 г. полоцкое вече пригласило сына Бориса Всеславича — Рогволода на престол в Полоцк. Таким образом, друцкий князь стал великим князем полоцким. Спустя некоторое время менскому князю Ростиславу и его сторонникам удалось договориться с представителями полоцкого веча, чтобы занять престол в Полоцке. Рогволод Борисович в 1151 г. был схвачен, привезен в Менск и брошен в темницу. Ростислав Глебович стал княжить в Полоцке, а его сын Глеб — в Друцке.

Менским князем тогда был брат Ростислава — Володарь. Второй брат — Всеволод получил княжение в Заславле. Ростиславу Глебовичу в 1158 г. (в летописи 1159 г.) удалось объединить значительную часть Полоцкой земли, однако на непродолжительное время. Рогволод Борисович бежал из Менска. При участии войска северского князя Святослава Ольговича он вернул себе Друцк. В Полоцке у Рогволода Борисовича также были сторонники. С их помощью он в 1158 г. «с честью великой» снова занял полоцкий престол. Ростислав Глебович вынужден был уйти в Менск к брату Володарю. Началась новая междоусобная война.

Против Менска выступил Рогволод. Десять дней простоял он с войском под его стенами и ни с чем вернулся назад. Не надеясь на собственные силы, Рогволод обратился за помощью в Киев. Военные действия возобновились через год. Киевский князь прислал в помощь Рогволоду 600 кочевников — торков.

рыстоўваўся вараны гарох, які, мусіць, прыпраўляўся алеем. З вотруб'я аўса варылі кісялі.

У ежы гараджан было і мяса свойскай жывёлы. Пра мясную ежу ў Менску можна скласці ўяўленне, мяркуючы па касцяных рэштках жывёл. На замчышчы іх знойдзены дзясяткі тысяч. Косці прысутнічалі ва ўсіх напластаваннях, пачынаючы з самых старажытных. Многія косці расколаты, што дазваляе лічыць іх кухоннымі рэшткамі.

Выкарыстанне славянамі для харчавання каніны было характэрна для больш ранняга часу. У сярэдневяковым Менску яе амаль не спажывалі. Расколатыя конскія косці тут вялікая рэдкасць.

На першым месцы па колькасці выяўленых пры раскопках касцей знаходзіцца карова, на другім — свіння, далей ідзе авечка. Такім чынам, гараджане выкарыстоўвалі ялавічыну, свініну, бараніну. Няма сумнення, што жаданай стравай была свойская птушка, у ежу ўжываліся і курыныя яйкі.

Выкарыстоўвалі жыхары Менска і мяса дзікіх жывёл, якіх здабывалі ў выніку палявання. Аб'ектам палявання, паводле даных палеантолагаў, былі зубр і лось. За імі ішлі дзік, барсук, мядзведзь, бабёр. Мяса бабра лічылася посным і дазвалялася царквой для выкарыстання ў час доўгіх пастоў.

Дапаможным промыслам, даступным для кожнай гаспадаркі, служыла рыбалоўства. Свіслач і іншыя рэкі ў наваколлі Менска былі багатыя рыбай. Рыбу не толькі варылі і сушылі на запас, але і вэндзілі, як мяса, у вяндлярні.

Сваё месца ў харчаванні займаў мёд. У першапачатковым выглядзе ён даваўся дзецям як ласунак і хворым у якасці лекаў. Лёгкім алкагольным напіткам была медавуха. Каб яго атрымаць, мёд разводзілі вадой, дабаўлялі хмель, сок брусніц, затым варылі, залівалі ў бочку, шчыльна закаркоўвалі і вытрымлівалі нейкі час у склепе. Перабрадзіўшы, мёд набываў моц алкагольнага напітку, папулярнага на

приправлялся растительным маслом. Из отрубей овса делали кисели.

В пище горожан было и мясо домашнего скота. О мясной пище в Менске можно составить представление по остаткам костей животных. На замчище их найдены десятки тысяч. Кости присутствовали во всех напластованиях, начиная с самых древних. Многие кости расколоты, что позволяет считать их кухонными остатками.

Употребление славянами для питания мяса лошадей было характерно для более раннего времени. В средневековом Менске конину почти не употребляли. Расколотые конские кости здесь большая редкость.

На первом месте по количеству костей, выявленных при раскопках, находится корова, на втором — свинья, далее следует овца. Таким образом, горожане употребляли говядину, свинину, баранину. Нет сомнения, что желаемым блюдом была домашняя птица, в пищу употреблялись и куриные яйца. Использовали жители Менска и мясо диких животных, которых добывали в результате охоты. Объектами охоты, по данным палеонтологии, были зубр и лось. За ними шли кабан, барсук, медведь, бобр. Мясо бобра считалось постным и разрешалось церковью для употребления во время длительных постов.

Вспомогательным промыслом, доступным для каждого хозяйства, служило рыболовство. Свислочь и другие реки в окрестностях Менска были богаты рыбой. Рыбу не только варили и сушили про запас, но и коптили, так же как мясо, в коптильне.

Свое место в питании занимал мед. В первоначальном виде он давался детям как лакомство и больным в качестве лекарства. Легким алкогольным напитком была медовуха (мед). Чтобы ее получить, мед разводили водой, добавляли хмель, сок брусники. Затем кипятили (варили), заливали в бочку, плотно закрывали и выдерживали некоторое время в подвале. Перебродив, мед приобретал крепость алкогольного напитка, популярного на

княжацкіх застоллях, народных ігрышчах, на памінках.

У сярэдневякоўі характар харчавання і яго абрадавыя функцыі вар'іравалі ў залежнасці ад пары года, каляндарнай даты, уласнага настрою. У культуры харчавання істотнае значэнне меў пост — абмежаванне ежы, устрыманне ад скаромніцы (мясных прадуктаў, малака, яек). У хрысціян налічвалася ўвогуле звыш 200 посных дзён за год.

Пасля доўгага посту святочнае застолле прыносіла асаблівую асалоду і набывала рытуальна-сімвалічны сэнс. Сістэма посту выпрацоўвалася калектыўным вопытам шматлікіх народаў і набыла істотнае значэнне для гігіены харчавання і прафілактыкі захворванняў. Пост гарманічна спалучаўся з народным календаром.

Прадметы хатняга ўжытку, упрыгожанні, адзенне, абутак, ежа жыхароў раннесярэдневяковага Менска сведчаць пра адзінства матэрыяльнай культуры гарадоў беларускіх зямель, этнічнай роднасці іх насельніцтва.

## 6. ДУХОЎНАЯ КУЛЬТУРА

***Капішча на беразе Свіслачы.*** Усходнія славяне ў дахрысціянскіх вераваннях абагаўлялі сонца і месяц, горы і камяні, азёры і рэкі, дрэвы і гаі, а таксама жывёл: каня, быка. Стыхійныя з'явы прыроды часта ўяўляліся ў выглядзе багоў. На першым месцы сярод іх быў Пярун — бог грому і маланкі.

Нябожчыкаў хавалі ў курганах. Гэта невялікія пагоркі, якія насыпалі з зямлі над магіламі. Пасля прыняцця хрысціянства пачынаючы з канца 10 ст. памерлага не спальвалі, як было раней, а клалі на зямлю з рэчамі, якімі ён карыстаўся пры жыцці і якія яму спатрэбяцца на тым свеце, і насыпалі над ім курган. Курганы былі выяўлены ў наваколлі Менска (вёскі Рылаўшчына, Сеніца, Курасоўшчына) і нават у горадзе, на Татарскіх агародах. Збярогся вялікі курган 10—11 ст. у мікрараёне Паўднёвы Захад (каля гасцініцы «Звязда»).

княжеских застольях, народных игрищах, погребальных тризнах.

В средневековье характер питания и его обрядовые функции варьировались в зависимости от поры года, календарной даты, собственного настроения. В культуре питания существенное значение имел пост — ограничение еды, воздержание от скоромной пищи (мясных продуктов, молока, яиц). У христиан насчитывалось в общей сложности свыше 200 дней поста в году.

После долгого поста праздничное застолье приносило особое удовлетворение и приобретало ритуально-символический смысл. Система поста вырабатывалась коллективным опытом многих народов и имела существенное значение для гигиены питания и профилактики заболеваний. Пост гармонически сочетался с народным календарем.

Предметы домашнего обихода, украшения, одежда, обувь, пища жителей раннесредневекового Менска свидетельствуют о единстве материальной культуры городов белорусских земель, этнической родственности их населения.

## 6. ДУХОВНАЯ КУЛЬТУРА

***Капище на берегу Свислочи.*** Восточные славяне в дохристианских верованиях обожествляли солнце и луну, горы и камни, озера и реки, деревья и рощи, а также животных: коня, быка. Стихийные явления природы часто представлялись в виде богов. На первом месте среди них был Перун — бог грома и молнии.

Умерших хоронили в курганах. Это небольшие холмы, насыпавшиеся из земли над могилами. После принятия христианства начиная с конца 10 ст. умершего не сжигали, как было ранее, а клали на землю с вещами, которыми он пользовался при жизни и которые ему понадобятся на том свете, и насыпали над ним курган. Курганы были выявлены в окрестностях Менска (деревни Рыловщина, Сенница, Курасовщина) и даже в городе на Татарских огородах. Сохранился большой курган 10—11 вв.

Ні ў аднаго славянскага народа не захавалася столькі легенд і паданняў пра камяні-валуны, як у беларусаў. У Беларусі быў шырока распаўсюджаны культ камянёў, пакланенне ім. Некаторыя валуны нават мелі ўласныя імёны: «Кравец», «Змееў камень», «Чортаў ступень». Лічылася, што ўсе яны маюць магічную сілу, лечаць хворых.



*Малельня каля каменя (карціна В.П.Сташчанюка).*

*Молельня возле камня (картина В.П.Стащенюка).*

*A chapel by a stone (a picture by V.P.Stashchanyuk).*

Старажытнае язычніцкае капішча на беразе Свіслачы ў Менску праіснавала аж да пачатку 20 ст. Вучоныя вывучылі і апісалі культавае збудаванне. Размяшчалася яно ў раёне сучаснай Лодачнай вуліцы і станцыі метро «Першамайская». На беразе ракі, у прыхаваным ад чужога вока месцы, ляжаў купалападобны камеиь вышынёй больш за метр. Называлі яго «Дзед» ці «Стары», а само месца — «малельня каля каменя». У тыя часы людзі не ведалі паходжання падобных камянёў. А ў мясцовых жыхароў з пакалення ў пакаление перадаваўся міф.

Некалі ляжаў гэты камень на пагорку. Казалі, хто ім авалодае, той стане багатым і шчаслівым. Асабліва спрачаліся за яго лесавік з суседняга лесу і вадзянік

в микрорайоне Юго-Запад (возле гостиницы «Звезда»).

Ни у одного славянского народа не сохранилось столько легенд и преданий о камнях-валунах, как у белорусов. В Беларуси был широко распространен культ камней, поклонение им. Некоторые валуны даже имели собственные имена: «Кравец» (Портной), «Змеев камень», «Чертова стопа». Считалось, что все они обладают магической силой, лечат больных.

Древнее языческое капище на берегу Свислочи в Менске просуществовало до начала 20 ст. Ученые изучили и описали культовое сооружение. Располагалось оно в районе современной Лодочной улицы и станции метро «Первомайская». На берегу реки, в неприметном для чужого глаза месте лежал куполообразный камень высотой более метра. Называли его «Дед» или «Старый», а само место — «молельня возле камня». В те времена люди не знали происхождения подобных камней. А у местных жителей из поколения в поколение передавался миф.

Когда-то лежал этот камень на горе. Говорили, кто им овладеет, тот станет богатым и счастливым. Особенно спорили за него лесовик из соседнего леса и водяник со Свислочи. Пошли они посоветоваться к старшему. Тот объяснил: «Кто донесет камень до ближайшего перекрестка дорог, тот и станет его хозяином». Бросили жребий, кому первому придется. Пришлось лесовику. Как ни приспосабливался он, как ни старались помочь ему звери, камень даже не шевельнулся. Тогда за дело взялся водяник. Взвалил он камень на плечи и, шатаясь, понес. Испугался лесовик, что счастье достанется не ему, да и подставил подножку. Водяник упал и упустил свою тяжелую ношу на берег. С тех пор лежит здесь камень. Было это так давно, что самые старые люди не помнят, когда.

После тех происшествий, как считали в окрестиости, валун получил чудодейственные свойства. К нему стали отиоситься с уваженнем, даже обожествлять. Правда, некоторые полагали, что

са Свіслачы. Пайшлі яны параіцца да старэйшага. Той растлумачыў: «Хто данясе камень да бліжэйшага скрыжавання дарог, той і стане яго гаспадаром». Кінулі жэрабя, каму першаму выпадзе. Выпала лесавіку. Як ні прыладжваўся ён, як ні стараліся дапамагчы яму звяры, камень нават не зварухнуўся. Тады за працу ўзяўся вадзянік. Узваліў ён камень на плечы і, хістаючыся, панёс. Спалохаўся лесавік, што шчасце дастанецца не яму, дый паставіў падножку. Вадзянік паваліўся і ўпусціў сваю цяжкую ношу на бераг. З тае пары і ляжыць тут камень. Было гэта так даўно, што самыя старыя людзі не памятаюць, калі.

Пасля тых падзей, як лічылі ў наваколлі, валун атрымаў цудадзейныя ўласцівасці. Да яго пачалі ставіцца з павагай, нават абагаўляць. Праўда некаторыя меркавалі, што святым валун быў спрадвеку. Гісторыю з'яўлення каменя на беразе Свіслачы яны чулі ад сваіх дзядоў і бабуль.

Капішча на беразе Свіслачы, акрамя купалападобнага валуна, мела яшчэ тры іншыя славутасці. Побач з ім на невялікай агульнай пляцоўцы панаваў стары дуб у чатыры абхваты. Дрэва называлі Волатам і лічылі свяшчэнным. Справа ад дуба з невялікіх камянёў было выкладзена слупком вогнішча-зніч Жыжа (Агонь). Недалёка ад валуна існавала крынічка, вада з яе лічылася цудадзейнай.

Хоць мясцовыя жыхары вызнавалі хрысціянства, але таксама ўшаноўвалі Менскае капішча яе святое месца. Валуну «Дзеду» ахвяравалі мёд, медавуху, малако, палатно, віно. Жалуды Дуба-Волата лічыліся лекавымі. Яму неслі пераважна ручнікі і стужкі, якія развешвалі на галінах на 33 дні. Жыжу (Агню) прыносілі ў ахвяру жывёл і птушак: авечак, коз, парасят, пеўняў, курэй.

Капішча мела свайго служыцеля. Ён падтрымліваў агонь, прымаў ахвяраванні, наліваў святую ваду з крынічкі. Царскія ўлады неаднаразова спрабавалі закрыць Менскае капішча як апошнюю апору язычніцтва. Канчаткова гэта было зроблена толькі ў пачатку 20 ст. Вогнісвятым валун был извечно. Историю появления камня на берегу Свислочи они слышали от своих дедов и бабушек.

Капище на берегу Свислочи, кроме куполовидного валуна, имело еще три другие достопримечательности. Рядом с ним на небольшой общей площадке господствовал старый дуб в четыре обхвата. Дерево назвали Богатырем и считали священным. Справа от дуба из небольших камней выложено столбиком огнище – знич Жижа (Огонь). Недалеко от валуна был родничок, вода из него считалась чудодейственной.

Хотя местные жители исповедовали христианство, однако чтили Менское капище как святое место. Валуну «Деду» они жертвовали мед, медовуху, молоко, холст, вино. Желуди Дуба-Богатыря считались лечащими. Ему несли преимущественно рушники и ленты, которые развешивали по ветвям на 33 дня. Жижу (Огню) приносили в жертву животных и птиц: овец, коз, поросят, петухов, кур.

Капище имело своего служителя. Он поддерживал огонь, принимал жертвоприношения, наливал святую воду из родничка. Царские власти неоднократно пробовали закрыть Менское капище, как последнюю опору язычества. Окончательно это было сделано только в начале 20 ст. Огнище было потушено и разрушено. Сейчас камень «Дед» сохраняется в Музее валунов в микрорайоне Уручье.

***Загадка недостроенного храма.*** Достоверных сведений о времени принятия христианства в Полоцкой и других белорусских землях нет. На основе косвенных данных историки церкви высказали предположение, что церковная Полоцкая епархия была создана в 992 г. А факт постройки в Полоцке в середине 11 в. на месте сгоревшей деревянной церкви кафедрального Софийского собора только подтверждает это.

Распространение христианства на территории Беларуси имело общие черты с утверждением новой веры в иных землях восточных славян. Вначале оно было принято князьями, дружинниками и боярами, а затем постепенно распрост-

шча было патушана і разбурана. Цяпер камень «Дзед» захоўваецца ў Музеі валуноў, што ў мікраraёне Уручча.

***Загадка недабудаванага храма.*** Дакладных звестак пра час прыняцця хрысціянства ў Полацкай і іншых беларускіх землях няма. На аснове ўскосных даных гісторыкі царквы выказалі думку, што Полацкая епархія была створана ў 992 г. А факт пабудовы ў Полацку ў сярэдзіне 11 ст. на месцы згарэлай драўлянай царквы кафедральнага Сафійскага сабора толькі пацвярджае гэта.



*Стэла і контуры плана царквы канца 11 — пачатку 12 ст. на месцы знаходжання яе фундамента каля станцыі метро «Няміга».*

*Стела и контуры плана церкви конца 11 — начала 12 в. на месте нахождения ее фундамента возле станции метро «Немига».*

*A stele and the church of the end of the 11th — beginning of the 12th centuries outlines in the place of its foundation near the Nemiga Metro station.*

Распаўсюджанне хрысціянства на тэрыторыі Беларусі мела агульныя рысы з зацвярджэннем новай веры ў іншых землях усходніх славян. Спачатку яно было прынята князямі, дружыннікамі і баярамі, а затым пастулова распаўсюджвалася сярод сялян і рамеснікаў, у сялянскім асяроддзі доўга захоўваліся язычніцкія вераванні і абрады.

ранилось среди крестьян и ремесленников. В крестьянской среде долго сохранялись языческие верования и обряды.

Полоцкий князь Всеслав, который построил в Полоцке кафедральный Софийский собор и крепость Менск, имел активные связи с православным духовенством. Объявленные в 1072 г. святыми князья Борис и Глеб являлись родственниками Всеслава. Они были братьями его деда. Не случайно такие имена даны и сыновьям Всеслава (менский князь Глеб, полоцкий и друцкий князь Борис). Канонические имена свидетельствуют о христианизации двора полоцкого князя. Святые Борис и Глеб считались покровителями дружинников. Их почитание рано получило распространение в Полоцкой земле.

Вероятно, одной из первых построек на Минском замчище была деревянная церковь, вскоре сгоревшая вместе с застройкой детинца. Тогда было решено построить на этом месте каменный храм. Его остатки выявил и исследовал в 1949 – 1951 гг. В.Р.Тарасенко. Хорошо сохранились фундаменты и нижние части стен. Предполагалось построить компактный крестово-купольный храм — трехапсидный, четырехстолпный (16 х х 12 м). Без апсид он имел форму квадрата (12 х 12 м), столбы находились в его центре. Стены из отесанных камней на известковом растворе были выведены на высоту более 1 м, толщина стен 1,5 м. Середина стен заполнена специально приготовленным строительным камнем — бутом. На стенах сохранились участки, облицованные плитками из ноздреватого доломита. В монументальном строительстве древней Беларуси такая деталь больше нигде не встречается, однако известна в Польше с 10 в. Профессор Э.М.Загорульский считает, что зодчий был знаком с романской архитектурой соседней страны, и в этом видит истоки своеобразия замковой церкви. Недалеко от храма обнаружены площадка мастерской, где обтёсывали плитки для строительства, и яма для приготовления известкового раствора.

Полацкі князь Усяслаў, які пабудаваў у Полацку кафедральны Сафійскі сабор і крэпасць Менск на Свіслачы, меў актыўныя сувязі з праваслаўным духавенствам. Аб'яўленыя ў 1072 г. святымі князі Барыс і Глеб з'яўляліся сваякамі Усяслава. Яны былі братамі яго дзеда. Невыпадкова такія імёны дадзены і сынам Усяслава (менскі князь Глеб, полацкі і друцкі князь Барыс). Кананічныя імёны сведчаць аб хрысціянізацыі двара полацкага князя. Святыя Барыс і Глеб лічыліся заступнікамі дружыннікаў. Іх шанаванне рана атрымала распаўсюджанне ў Полацкай зямлі.

Мусіць, адным з першых будынкаў на Мінскім замчышчы была драўляная царква, якая праз некаторы час згарэла з забудовай дзядзінца. Тады было вырашана пабудаваць на гэтым месцы мураваны храм. Яго рэшткі выявіў і даследаваў у 1949—1951 гг. В.Р.Тарасенка. Добра захаваліся падмуркі і ніжнія часткі сцен. Меркавалася пабудаваць кампактны крыжова-купальны храм — трохапсідны, чатырохслуповы (16 х 12 м). Без апсід ён меў форму квадрата (12 х 12 м), слупы знаходзіліся ў яго цэнтры. Сцены з абчасаных камянёў на вапнавым растворы былі зроблены на вышыню больш 1 м, таўшчыня сцен 1,5 м. Сярэдзіна муроў запоўнена спецыяльна прыгатаваным будаўнічым каменем — бутам. На сценах захаваліся ўчасткі, абліцаваныя пліткамі з наздраватага даламіту. У манументальным будаўніцтве старажытнай Беларусі такая дэталь больш нідзе не сустракаецца, але вядома ў Польшчы з 10 ст. Прафесар Э.М.Загарульскі лічыць, што дойлід быў знаёмы з раманскай архітэктурай суседняй краіны, і ў гэтым бачыць вытокі своеасаблівасці замкавай царквы. Недалёка ад храма выяўлена пляцоўка майстэрні, дзе абчэсвалі пліткі для будаўніцтва, і яма для прыгатавання вапнавага раствору.

У 1054 г. адбылося канчатковае раздзяленне хрысціянскай царквы на каталіцкую і праваслаўную. Закладка Менскага храма з апсідай, звернутай на

В 1054 г. произошло окончательное разделение христианской церкви на католическую и православную. Закладка Менского храма с апсидой, обращенной на восток, — подтверждение последовательной ориентации ее заказчика на византийскую традицию в христианстве.

Свидетельством связей с Киево-Печерским монастырем представителей полоцкой княжеской династии является пожертвование менским князем Глебом Всеславичем в 1108 г. крупных средств для строительства в нем трапезной. Вдова менского князя Анастасия (умерла в 1158) завещала этому монастырю кроме слитков золота и серебра 5 сёл, много своего имущества и погребена в нем рядом с князем Глебом.

Однако в самом Менске строительство храма было остановлено и более не возобновилось. Загадка недостроенного менского храма интересует исследователей. Некоторые историки ищут причину этого в политических событиях и драматической судьбе менского князя Глеба. Согласно другому объяснению, основанному на определенных археологических наблюдениях, такой причиной могло стать близкое соседство чрезвычайно высокого оборонительного вала, который после увеличения обрушивался и засыпал песком строительную площадку и фундамент. Церковь построили в ином месте в честь Рождества Богородицы, которая считалась покровительницей города. Недостроенный храм в начале 13 ст. был преобразован в городской некрополь, где найдено 21 погребение горожан по христианскому обычаю в саркофагах из сосновых досок на шипах без использования железных гвоздей.

Таким образом, Менск — один из городов Полоцкой земли, где была сделана попытка возвести ранний храм с оригинальными особенностями, но ему не было суждено украсить восточную часть детинца города.

***Предметы христианского культа.*** С распространением новой веры стали появляться произведения прикладного

ўсход — пацвярджэнне паслядоўнай арыентацыі яе заказчыка на візантыйскую традыцыю ў хрысціянстве.

Сведчаннем сувязей з Кіева-Пячэрскім манастыром прадстаўнікоў полацкай княжацкай дынастыі з'яўляецца ахвяраваннем менскім князем Глебам Усяславічам у 1108 г. буйных сродкаў для будаўніцтва ў ім трапезнай. Удава менскага князя Анастасія (памерла ў 1158) завяшчала гэтаму ж манастыру акрамя зліткаў золата і серабра, 5 сёл, шмат сваёй маёмасці і пахавана ў ім побач з князем Глебам.

Аднак у самім Менску будаўніцтва храма было спынена і больш не аднавілася. Загадка недабудаванага менскага храма цікавіць даследчыкаў. Некаторыя гісторыкі шукаюць прычыну гэтага ў палітычных падзеях і драматычным лёсе менскага князя Глеба. Па іншаму тлумачэнню, заснаванаму на пэўных археалагічных назіраннях, такой прычынай магло стацца блізкае суседства высокага абарончага вала, які пасля пашырэння абвальваўся і засыпаў жвірам будаўнічую пляцоўку і фундамент. Царкву пабудавалі ў іншым месцы ў гонар Раства Багародзіцы, якая лічылася апякункай горада.

Недабудаваны храм з пачатку 13 ст. быў ператвораны ў гарадскі некропаль, дзе знойдзена 21 пахаванне гараджан па хрысціянскаму звычаю ў саркафагах з сасновых дошак, па-майстэрску зробленых на шыпах, без выкарыстання жалезных цвікоў.

Такім чынам, Менск — адзін з гарадоў Полацкай зямлі, дзе была зроблена спроба ўзвесці ранні храм з арыгінальнымі асаблівасцямі, але яму не было суджана ўпрыгожыць усходнюю частку дзядзінца горада.

***Прадметы хрысціянскага культу***. З распаўсюджаннем новай веры пачалі з'яўляцца творы прыкладнога мастацтва, якія адлюстроўвалі хрысціянскі культ. Іх выраблялі лепшыя таленавітыя майстры. Да твораў мастацкага рамяства належаць каменныя абразкі (іконкі), якія насіліся на грудзях, зрэдискусства, отражающие христианский культ. Их делали лучшие талантливые мастера. К произведениям художественного ремесла принадлежат каменные образки (иконки), которые носились на груди, иногда в мешочках. Не всегда имеется возможность выяснить, где изготовлены предметы мелкой пластики 12—13 вв., обнаруженные на Минском замчище. Размежевание византийских и восточнославянских (древнерусских) произведений — сложная и окончательно не решенная проблема.

В Менске обнаружен уникальный двухсторонний образок квадратной формы с выступом сверху и отверстием для шнурка. На одной его стороне — изображение Богоматери. Характерное для ее образа положение рук: они находятся слева. У Богоматери на лице скорбь, выражение глаз печальное. На другой стороне иконы — изображение апостола Петра. Благословляя правой рукой, он держит свиток в левой. Продолговатое лицо, короткие волосы в виде полукруглых завитков. Резьба барельефная, фигуры выступают над поверхностью. По стилевым особенностям и графике славянской надписи иконка датируется рубежом 12—13 вв.

На второй иконке Никола и архидиакон Стефан изображены в полный рост. Над ними — поясное изображение Христа Эммануила, благословляющего их. Никола в епископской одежде с евангелием в левой руке, Стефан с кадилом, в правой. Фигуры с большими головами и несколько уменьшенными туловищами, складки одежд показаны широкими врезанными линиями.

Очень похожей по общей композиционной схеме является иконка святых Козьмы и Дамиана, благословляемых Христом Эммануилом, найденная в верхнем напластовании при раскопках Большого городища на Менке.

К значительной группе изделий медного литья относятся бронзовые складные кресты, так называемые энколпионы. В Менске обнаружено три бронзовых литых энколпиона. Кресты склады-

ку ў мяшэчках. Не заўсёды ёсць магчымасць высветліць, дзе выраблены ўзоры дробнай пластыкі 12—13 ст., знойдзеныя на Мінскім замчышчы. Размежаванне візантыйскіх і ўсходнеславянскіх (старажытнарускіх) твораў — складаная і канчаткова не вырашаная праблема.

У Менску выяўлены унікальны двухбаковы абразок квадратнай формы з вы-

вались из двух частей и помимо своего основного культового назначения они выполняли роль украшений. Их носили поверх одежды. Кресты были изготовлены в Киеве, но некоторые могли быть сделаны местными мастерами по киевским моделям.

Менские ремесленники в 12—13 вв. были знакомы с новейшими течениями,




*Абразок двухбаковы пачатку 13 ст. Божая Маці. Апостал Пётр. Камень, разьба.*
*Иконка двусторонняя начала 13 в. Богоматерь. Апостол Пётр. Камень, резьба.*
*A small icon, two-sided, beginning of the 13th century. The Blessed Virgin. Apostle Peter (Stone, carving).*

ступам зверху і адтулінай для шнурка. На адным яго баку выява Маці Божай. Характэрнае для яе вобраза палажэнне рук: яны знаходзяцца злева. У Багародзіцы на твары журбота, выраз вачэй засмучаны. На другім баку іконкі — выява апостала Пятра. Благаслаўляючы правай рукой, ён трымае скрутак у левай. Прадаўгаваты твар, кароткія валасы ў выглядзе паўкруглых завіткоў. Разьба барэльефная, фігуры выступаюць над паверхняй. Па стылявых асаблівасцях і графіцы славянскага надпісу іконка датуецца мяжой 12—13 ст.

На другой іконцы Мікола і архідыякан Стэфан выкананы ў поўны рост. Над імі — паясная выява Хрыста Эмануіла, які іх благаслаўляе. Мікола ў

характеризующими продукцию мастерских Византии, а также Киева. Оттуда шло воздействие, которое связывало менских мастеров с высокими традициями культуры восточнохристианского мира. В какой-то мере не исключалось влияние искусства Центральной Европы.

***«Господи, помози...».*** Свидетельством письменности являются надписи на изделиях, найденных при археологических исследованиях. На Минском замчище обнаружено несколько предметов с процарапанными на них словами или отдельными буквами. Так, на каменных иконках были написаны имена «Петр», «Никола», «Стефан». Некоторые надписи сделаны профессионально самими мастерами, иные, вероятно, по-

епіскапскім адзенні з Евангеллем у левай руцэ, Стэфан з кадзілам у правай. Фігуры з вялікімі галовамі і некалькі паменшанымі тулавамі. Складкі адзення абазначаны шырокімі ўрэзанымі лініямі.

Вельмі падобнай па агульнай кампазіцыйнай схеме з'яўляецца іконка святых лекараў Казьмы і Даміяна, якіх благаслаўляе Хрыстос Эмануіл. Яна знойдзена ў верхнім напластаванні пры раскопках Вялікага гарадзішча на Менцы.

Да значнай групы вырабаў меднага ліцця належаць бронзавыя складныя крыжы – так званыя энкалпіёны. У Менску выяўлены тры бронзавыя літыя энкалпіёны. Крыжы складаліся з дзвюх частак і апрача свайго асноўнага культавага прызначэння яны выконвалі ролю ўпрыгожанняў. Іх насілі паверх адзення. Крыжы былі зроблены ў Кіеве, але некаторыя маглі быць створаны тутэйшымі майстрамі па кіеўскіх мадэлях.

Менскія рамеснікі ў 12—13 ст. былі знаёмы з найноўшымі плынямі, якія

ставлены теми, кто образками пользовался. Пометки в виде букв, которые, возможно, означают знаки собственности, встречаются на веретенах, пряслицах, изделиях из кости.

В 1981 г. близко к центру Минского замчища в нижнем напластовании, которое относится к 12 в., была найдена часть деревянного изделия, возможно, чаши с надписью, которая начнналась словами «ги помози...» (Господи, помози...). Остальная часть благопожелательной надписи не сохранилась, но ее можно восстановить. На территории Беларуси известны монументальные памятники письменности 12 ст. – Борисовы камни. На больших валунах ледникового происхождения выбиты кресты и надписи: «Господи, помози рабу своему Борису». По мнению большинства исследователей, сделать это велел полоцкий князь Борис (умер в 1129). На печати Евфросинии Полоцкой помещена кириллическая надпись: «Г/оспод/и, помози рабе своеи Ефросини нарецаемой».



*Сучасны выгляд тэрыторыі Мінскага замчышча ў раёне станцыі метро «Няміга».*
*Современный вид территории Минского замчища в районе станции метро «Немига».*
*A present-day view of the territory of the Minsk castle near the Nemiga Metro station.*

характарызавалі прадукцыю майстэрань Візантыі, а таксама Кіева. Адтуль ішоў уплыў, які звязваў менскіх майстроў з высокімі традыцыямі культуры ўсходнехрысціянскага свету. У нейкай ступені не выключаўся ўплыў мастацтва Цэнтральнай Еўропы.

***«Господи, помози...»***. Сведкамі пісьменнасці з'яўляюцца надпісы на прадметах, знойдзеных пры археалагічных даследаваннях. На Мінскім замчышчы выяўлены некалькі прадметаў з прадрапанымі на іх словамі ці асобнымі літарамі. Так, на каменных абразках былі напісаны імёны «Петр», «Никола», «Стефан». Некаторыя надпісы зроблены прафесійна самімі майстрамі, іншыя, мусіць, пастаўлены тымі, хто абразкамі карыстаўся. Паметы ў выглядзе літар, якія, магчыма, азначаюць знакі ўласнасці, сустракаюцца на верацёнах, праселках, вырабах з косці.

У 1981 г. блізка да цэнтра Мінскага замчышча ў ніжнім напластаванні, што адносіцца да 12 ст., была знойдзена частка драўлянага вырабу, магчыма кубка, з надпісам, які пачынаўся словамі «гн номози...» (Господи, помози...). Астатняя частка добразычлівага надпісу не захавалася, але яе можна ўзнавіць. На тэрыторыі Беларусі вядомы манументальныя помнікі пісьменства 12 ст. — Барысавы камяні. На вялізных валунах ледавіковага паходжання высечаны крыжы і надпісы: «Господи, помози рабу своему Борису». На думку большасці даследчыкаў, зрабіць гэта загадаў полацкі князь Барыс (памёр у 1129 г.). На пячатцы Ефрасінні Полацкай змешчаны кірылічны надпіс: «Г/оспод/н, помози рабе своей Ефросини нарецаемой».

Выслоўе «Господи, помози рабу своему» з'яўляецца даслоўным перакладам формулы, якая шырока выкарыстоўвалася ў Візантыі на манетах, пячатках, амулетах, медальёнах. Адтуль формула прашэння дапамогі Божай распаўсюдзілася разам з хрысціянствам сярод усходні славян.

У тыя далёкія часы пісалі пісалам. Пісала — гэта старажытнае «вечнае

Изречение «Господи, помози рабу своему» является дословным переводом формулы, которая широко использовалась в Византии на печатях, амулетах, медальонах. Оттуда формула прошения помощи Божьей распространилась вместе с христианством среди восточных славян.

В те далекие времена писали писалами. Писало — это древнее «вечное перо»,



*Фрагмент драўлянай чашы з надпісамі 12 ст.*

*Фрагмент деревянной чаши с надписями 12 в.*

*A wooden bowl (a fragment) with inscriptions of the 12th century.*

которое представляло собой железный или бронзовый стержень. Один конец его был заострен, второй имел плоскую лопаточку. В Менске найдено 8 писал. Все они имели близкие аналогии писал в древней Греции н Риме. Писала предназначались для письма на дощечках с поверхностью, покрытой тонким слоем воска. Острым концом стержня писали, а лопаточкой «стирали» написанное. Такими дощечками и писалами пользовались при обучении грамоте.

У восточных славян вместе с принятием христианства была введена кириллическая азбука. Ее сложили для старославянского языка в 863 г. братья Кирилл и Мефодий, выходцы из Византии, проповедники христианства. Они перевели с греческого языка на старославянский религиозпые книги. При помощи «кириллицы» писали в Болгарии, Сербии, Киевской Руси и других славянских странах. Этот язык был понятен каждому славянину. На нем написаны

пяро», якое ўяўляла суцэльны жалезны ці бронзавы стрыжань. Адзін канец яго быў завостраны, другі меў плоскую лапатачку. У Менску знойдзена 8 пісалаў. Усе яны — дакладныя аналогіі пісалаў старажытнай Грэцыі і Рыма. Пісалы прызначаліся для пісьма на дошчачках з паверхняй, пакрытай тонкім слоем воску. Вострым канцом стрыжня пісалі, а лапатачкай «сціралі» напісанае. Такімі дошчачкамі і пісаламі карысталіся пры навучанні грамаце.

Ва ўсходніх славян разам з прыняццем хрысціянства была ўведзена кірыліцкая азбука. Яе складалі для стараславянскай мовы ў 863 г. браты Кірыла і Мяфодзій, выхадцы з Візантыі, прапаведнікі хрысціянства. Яны пераклалі з грэчаскай мовы на стараславянскую рэлігійныя кнігі. Пры дапамозе «кірыліцы» пісалі ў Балгарыі, Сербіі, Кіеўскай Русі і ў іншых славянскіх краінах. Гэта мова была зразумелай кожнаму славяніну. Ёю былі напісаны царкоўныя кнігі, што ў значнай колькасці траплялі з Балгарыі і Візантыі на Русь, дзе навучыліся гэтыя кнігі перапісваць на пергаменце — спецыяльна выробленай скуры цялят. Пераплёт кніг аздабляўся металічнымі ўпрыгожаннямі. Каб лісты не камячыліся, вокладкі з тонкіх дошак сцягваліся асобнымі металічнымі засцежкамі.

Засцежкі ад старажытных, відаць, рэлігійных кніг неаднаразова знойдзены ў Менску. А ў Тураве ў 19 ст. было выпадкова выяўлена «Тураўскае евангелле», перапісанае ў 11 ст. Захавалася 20 старонак, напісаных на пергаменце. Пачатковыя загалоўкі намаляваны фарбамі: чырвонай, сіняй, зялёнай.

Кнігі, па якіх вялося набажэнства, выкарыстоўваліся для навучання грамаце. У буйных усходнеславянскіх гарадах пачалі пісаць літаратурныя творы як на стараславянскай, так і на жывой, гутарковай усходнеславянскай (старажытнарускай) мове, якая абагачалася стараславянскай.

На пергаменце пісаліся розныя дакументы — дагаворы, граматы і інш. Важ-

церковные книги, которые в значительном количестве попадали из Болгарии и Византии на Русь, где научились эти книги переписывать на пергаменте — специально изготовленной коже. Переплет книг снабжался металлическими украшениями. Чтобы листы не мялись, обложки из тонких досок стягивались особыми металлическими застежками.

Застежки от древних, видимо, религиозных книг неоднократно найдены в Менске. А в Турове (Гомельская область) в 19 в. было случайно обнаружено «Туровское евангелие», переписанное в 11 ст. Сохранилось 20 страниц, написанных на пергаменте. Начальные заглавия нарисованы красками: красной, синей, зеленой.

Книги, на которых велось богослужение, использовались для обучения грамоте. В крупных восточнославянских городах стали писать литературные произведения как на старославянском, так и на живом, разговорном восточнославянском (древнерусском) языке, который обогащался старославянским. На пергаменте писались разные документы — договоры, грамоты и др. Важные княжеские или церковные документы, предназначенные для отправки определенному адресату конно, скручивались в свиток и к нему привешивалась на шнурке свинцовая печать-пломба. Чтобы прочитать послание, нужно было снять шнурок и прикрепленную (подвешенную) к нему печать. Такую подвесную печать, или пломбу, нашли на Минском замчище. На печати помещено изображение святого князя Глеба, покровителя менского князя, получившего такое же христианское имя.

Можно вспомнить еще о необыкновенных находках, которые имеют отношение к культуре. На поселении на Менке найдена костяная шахматная фигура коня 11 ст. На Минском замчище в пласте начала 13 в. выявлены три деревянные шахматные фигуры. Благодаря археологическим исследованиям установлено, что наши далекие предки уже в 12—13 вв. играли в шахматы.

ныя княжацкія ці царкоўныя дакументы, прызначаныя для адпраўкі пэўнаму адрасату конна, згортваліся ў скрутак, да якога прывешвалася на шнурку свінцовая пячатка — пломба. Каб прачытаць такую грамату, трэба было зняць шнурок і прымацаваную (падвешаную) да яго пячатку. Такую падвесную пячатку, ці пломбу, знайшлі на Менскім замчышчы. На пячатцы змешчана выява святога князя Глеба, апекуна менскага князя, які атрымаў такое ж хрысціянскае імя.

Можна нагадаць яшчэ аб незвычайных прадметах, якія маюць дачыненне да культуры. На паселішчы на Менцы выяўлена касцяная шахматная фігура каня 11 ст. На Мінскім замчышчы ў пласце пачатку 13 ст. знойдзены тры драўляныя шахматныя фігуры. Дзякуючы археалагічным даследаванням устаноўлена, што нашы далёкія продкі ўжо ў 12—13 ст. гулялі ў шахматы.

Помнікі культуры старажытнага Менска сведчаць, што менчукі ў часы ранняга сярэдневякоўя мелі досыць высокую культуру, якая развівалася ў адным рэчышчы з дасягненнямі такіх гарадоў, як Полацк, Кіеў, Ноўгарад. Заўважаецца ўплыў на ўсходнеславянскую (старажытнарускую) культуру хрысціянскай цывілізацыі Візантыі.

У сучаснасці тэрыторыя Менскага замчышча — найбольш важнага археалагічнага помніка сярэдневяковага горада — падзяляецца праспектам Пераможцаў на дзве амаль роўныя часткі. Знешне рэштак валоў нідзе не бачна. Аднак пад асфальтам знаходзяцца яшчэ не даследаваныя культурныя напластаванні магутнасцю да пяці метраў. Як у архіве, захоўваюцца ў іх крыніцы па матэрыяльнай культуры і гісторыі Менска. А побач з станцыяй метро «Няміга» закансерваваны і перакрыты грунтам участак, дзе былі даследаваны, апісаны, сфатаграфаваны рэшткі ўязных варот (брамы) старажытнага горада Менска.

Памятники культуры древнего Менска свидетельствуют о том, что менчуки во времена раннего средневековья имели довольно высокую культуру, которая развивалась в одном русле с достижениями таких городов, как Полоцк, Киев, Новгород. Наблюдается влияние на восточнославянскую (древнерусскую) культуру христианской цивилизации Византии.



*Касцяная шахматная фігура каня 11 ст. з раскопак паселішча на Менцы.*

*Костяная шахматная фигура коня 11 в. из раскопок поселения на Менке.*

*A stone chess figure of the knight, 11th century, from the excavated settlement on Menka.*

В настоящее время территория Минского замчища — наиболее важного археологического памятника средневекового города — разделяется проспектом Победителей на две почти равные части. Внешне остатки валов нигде не прослеживаются. Однако под асфальтом находятся еще не исследованные культурные напластования мощностью до пяти метров. Как в архиве, сохраняются в них источники по материальной культуре и истории Менска. А рядом со станцией метро «Немига» законсервирован и перекрыт грунтом участок, где были исследованы, описаны, сфотографированы остатки въездных ворот (брамы) древнего города Менска.

## КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА

## ИСТОЧНИКИ И ЛИТЕРАТУРА


Алексеев Л.В. Полоцкая земля в IX — XIII вв.: (Очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966.

Яго ж. «Меньск» и Минск (к начальной истории белорусской столицы) // Культура славян и Русь. М., 1998.

Яго ж. Княжеское строительство полоцких князей (XI — XII вв.) // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі. Полацк, 1998.

Арлоў У. Таямніцы Полацкай гісторыі. Мн., 2000.

Археалогія Беларусі. Т. 3. Мн., 2000.

Археалогія і нумізматыка Беларусі: Энцыкл. Мн., 1993.

Беларускія летапісы і хронікі. Мн., 1997.

Булкин В.А., Седых В.Н. Киев — Минск — Смоленск — Москва: истоки становления столичного центра // Гіст.-археал. зб. Мн., 2002. № 17.

Гісторыя Беларусі: У 6-ці т. Т. 1. Старажытная Беларусь. Мн., 2000.

Друцк і Барысаў: Да юбілеяў стараж. гарадоў. Мн., 2002.

Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды. Мн., 1990.

Жучкевич В.А. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Мн., 1974.

Загарульскі Э.М. Заходняя Русь IX — XIII стст. Мн., 1998.

Яго ж. Древний Минск. Мн., 1963.

Яго ж. Возникновение Минска. Мн., 1982.

Заяц Ю.А. Мінская брама XII ст. // Помнікі мастацкай культуры Беларусі: Новыя дасслед. Мн., 1989.

Яго ж. Оборонительные сооружения Менска XI — XIII вв. Мн., 1996.

Яго ж. Новые археологические исследования Верхнего города в Минске // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 2001. № 16.

Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Мінск. Мн., 1988.

Ігнатоўскі У.М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. Мн., 1991.

Ілюстраваная гісторыя. Краіна Беларусь. Martin, Slovakia, 2003.

Ипатьевская летопись // Полное собрание русских летописей. М., 1962. Т. 2.

Лаврентьевская летопись // Полное собрание русских летописей. М., 1962. Т. 1.

Літопис Руський. За Іпатським списком переклав Леонід Махновець. Кипв, 1989.

Ляўданскі А., Каваленя А. Дзе знаходзіўся першапачаткова Менск? // Звязда. 1935. 27 мая.

Ляўкоў Э.А. Маўклівыя сведкі мінуўшчыны. Мн., 1992.

Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мінска: У 4 кн. Кн. 1. Мн., 2001.

Повесть временных лет. Ч. 1 — 2. М.; Л., 1950.

Пуцко В. Художественное ремесло Полоцкой земли (находки, явления, нерешенные проблемы) // Гіст.-археал. зб. Мн., 1997. № 12.

Русов П.А. Деревянные сооружения Менска XIII — XVII вв. Мн., 1992.

Сергеевич В. Русские юридические древности. Т. 2. СПб., 1900.

Слова пра паход Ігаравы. Мн., 1986.

Собаль В. Менск старажытны // Бел. мінуўшчына. 1997. № 1.

Соловьев С.М. История России с древнейших времен. Кн. 1. М., 1959.

Тарасаў С.В. Чарадзей сёмага веку Траяна. Усяслаў Полацкі. Мн., 1991.

Тарасенко В.Р. Древний Минск // Материалы по археологии БССР. Мн., 1957. Т. 1.

Фроянов И.Я., Дворниченко А.Ю. Города-государства Древней Руси. Л., 1988.

Чаропка В. Імя ў летапісе. Мн., 1994.

Шпилевский П.М. Путешествие по Полесью и белорусскому краю. Мн., 1992.

Штыхаў Г.В. Абарончыя збудаванні гарадзішча на Менцы: да пытання аб паходжанні Менска // Беларускі горад у часе і прасторы: 500 гадоў Полацкай магдэбургіі: Зб. навук. прац. Наваполацк — Мінск, 2001.

Яго ж. Старажытныя дзяржавы на тэрыторыі Беларусі. Мн., 2002.

Яго ж. Города Полоцкой земли (IX — XIII вв.). Мн., 1978.

Шут К.П. Обувь древнего Минска (по археологическим материалам) // Материалы IX конференции молодых ученых. Вопросы истории. Мн., 1965.

Щеглова В.В. К вопросу о фауне Минского замчища // Белорусские древности. Мн., 1967.

Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 5. Мн., 1999.

Свыше 1100 лет назад в Восточной Европе образовалось государство Русь. Историки называют его Киевской Русью. Древняя Русь состояла из разных территориальных единиц, в источниках известных как «земля». Исследователи именуют их княжествами, потому что во главе их находились князья.

Полоцкая земля (ныне северная часть Беларуси) одной из первых выделилась из состава Киевской Руси как независимое государственное образование — земля-княжество. Значительным городом Полоцкой земли был Менск (так назывался в Средневековье Минск).

Минск впервые упомянут в начальной летописи «Повести временных лет» в 1067 г., однако он имеет более древнюю историю. Предшественник города, может быть, и сам Минск возник в другом месте: не на берегу Свислочи, а на удалении 16 км в верховье Птичи, где в нее впадает небольшая речка Мена (Менка), ныне почти пересохшая. От нее, вероятно, и происходит название — Менский город, город на реке Мень, т.е. Меньск.

На такие размышления наводит летописная фраза о том, что войска трех князей Ярославичей в 1067 г. «взяли Менеск ... и пошли к Немиге», т.е. к месту слияния небольшой Немиги со Свислочью, туда, где расположен сейчас исторический центр Минска.

На Менке при впадении в нее ручья Дунай сохранился великолепный археологический комплекс: два городища (Малое и Большое) общей площадью 1,3 га, три неукрепленных поселения (всего 30 га). Археологические исследования показали, что жизнь на берегах Менки от рубежа нашей эры продолжалась на протяжении многих столетий, но самой интенсивной она была в 10—11 вв. Во второй половине 11 в. поселения на Менке приходят в упадок. В это время сооружается новая крепость на Свислочи при впадении в нее Немиги (теперь улица в Минске).

В начале 12 в. Минск становится столицей удельного княжества. Минский князь Глеб (1104 — 1119), сын воинственного Всеслава Полоцкого, стремился расширить границы своего княжества за счет соседних территорий, что приводило к столкновениям с южнорусскими (киевскими) князьями. В 1119 г. киевский князь Владимир Мономах захватил Минск и временно присоединил его к киевским владениям.

В 1140-е гг. княжение Глебовичей в Минске было восстановлено. В середине и второй половине 12 в. минские князья (Ростислав, Володарь) соперничали с полоцкими и друцкими князьями за политическую гегемонию в Полоцкой земле, но имели лишь временный успех.

Реальной опорой княжеской власти в Минске была дружина. Она состояла из профессиональных воинов. При археологических раскопках Минского замчища найдено много предметов вооружения воина и снаряжения боевого коня.

Укрепленный центр (крепость) Минска на Свислочи площадью 3 га был расположен в заболоченной местности, имел земляной вал высотой 8 м, въездные ворота, рубленные из дуба. Вблизи крепости возникали неукрепленные поселения. Они были наполовину застроены, а наполовину засеяны, как обычно в средневековом городе. У ворот находился рынок, а неподалеку — пристань. Застройка города была

исключительно деревянной, что было характерно для восточнославянских городов того времени. Основу планировки крепости составляла улица шириной 4 м. От нее отходили ответвления к усадьбам горожан. Планировка города отличалась стабильностью, а застройка укрепленного центра особой плотностью.

На улицах были мостовые из дерева. Площадь усадеб составляла 220 – 250 кв.м. Они были тесно застроены (одна или две избы и четыре — пять хозяйственных построек). Площадь жилищ 16 — 25 кв.м. Некоторые постройки были двухэтажные. В целом бытовая застройка близка домостроительным традициям городов лесной полосы Восточной Европы.

Материалы археологических раскопок свидетельствуют о развитии в 12—13 вв. разных ремесел — железообрабатывающего, ювелирного, гончарного, кожевенно-сапожного, деревообрабатывающего, косторезного и др. Производились потребительские товары: кожаная обувь, глиняная и деревянная посуда, металлические украшения. В хозяйственной жизни города выделялись прядение и ткачество. Ими занимались исключительно женщины. Ввиду слабого товарообмена между городом и деревней жители городов, включая ремесленников и дружинников, были связаны с земледелием, животноводством и различными промыслами (охотой, рыболовством, собирательством).

Дальняя иноземная торговля удовлетворяла потребности в металлическом сырье. Вместе с тем появление серебряных арабских монет, а затем западноевропейских денариев знаменовало начало денежного обращения. Но в 12—13 вв. наступил безмонетный период. Согласно летописным источникам, в качестве крупных платежей в Минске стали использоваться серебряные и золотые слитки-гривны.

Предметы домашнего обихода, украшения, одежда, обувь, пища жителей раннесредневекового Минска свидетельствуют о единстве материальной культуры городов белорусских земель, этнической родственности их населения.

Недостроенный храм, алтарем обращенный на восток, говорит о византийской традиции.

Археологические источники из древнего Менска 11—13 вв. подтверждают, что жители города имели довольно высокую культуру, которая развивалась в одном русле с достижениями таких городов, как Полоцк, Киев, Новгород. Наблюдается влияние на восточнославянскую (древнерусскую) культуру христианской цивилизации Византии.

Over 1100 years ago the state of Rusr was formed in Eastern Europe. The historians call it Kievan Rus'. Ancient Rus' was composed of different territorial units known in the sources as «lands». The researchers call them principalities, as they were ruled by the princes.

The Polotsk Land (now it is the northern part of Belarus) was one of the first to set up on its own in Kievan Rus' as an independent state entity, being that of the land-principality. Mensk (the mediaeval name of Minsk) was an important city of the Polotsk Land.

Minsk was mentioned in an early chronicle called «The tale of the ancient years» («Povest vremennykh let») for the first time in 1067, yet it has a more ancient history. The city forerunner, possibly Minsk itself, arose in a different place: not on the bank of the river Svisloch but 16 km away, in upper reaches of the Svisloch, where a small river Mena (Menka), which is dry now, flows into it. Probably it has given the name to Mensk city, a city on the river Men, i.e. Men'sk.

берніі за 1800 г., у Мінску налічвалася 181 асоба мужчынскага і жаночага полу, пазначаная як «купцы».

Існавала і такая форма гандлю, як утрыманне корчмаў. Падобны занятак з'яўляўся надзвычай прыбытковым, пра што сведчыць ліст вялікага князя Аляксандра Ягелона да мінскага намесніка Мікалая Ільініча ад 11.7.1494 г. Там гаворыцца аб продажы 10 менскіх корчмаў у арэнду па 60 коп грошай за год. Для прадухілення канкурэнцыі патрабавалася, каб іншых корчмаў у горадзе не было.

У гаспадарчым жыцці сярэдневяковага Мінска знайшло адлюстраванне чаргаванне перыядаў росквіту і заняпаду, характэрнае і для беларускіх зямель у цэлым. На змену пэўнаму затуханню гаспадарчай дзейнасці Мінска ў 14—15 ст. зноў прыйшоў перыяд узлёту, які дасягнуў свайго апагея ў першай палове 17 ст. Трагічныя падзеі сярэдзіны 17 — пач. 18 ст. прывялі горад да цяжкога эканамічнага крызісу, які быў пераадолены намаганнямі мінчан толькі ў другой палове 18 ст. Аднак нягледзячы на цяжкасці, якія назіраліся ў росце эканамічнай значнасці горада, ён здолеў захаваць статус буйнога гаспадарчага цэнтра, які ў далейшым абумовіў выхад Мінска на вядучае месца сярод гарадоў беларускай зямлі.

### 3. МАГДЭБУРГСКАЕ ПРАВА

***Прывілеі на самакіраванне.*** Гісторыя беларускіх гарадоў налічвае больш за тысячу гадоў. Важнай вяхой у гэтай гісторыі з'явілася атрыманне імі самакіравання паводле магдэбургскага права. Гэтае права з'яўляецца адной са шматлікіх мадэлей так званага «гарадскога права», характэрнага для Еўропы.

Магдэбургскае права ўяўляла сабой сукупнасць юрыдычных норм, што вызначалі саслоўна-прававое становішча гараджан ва ўмовах феадальнага грамадства. Склалася яно ў канцы 12—13 ст. у г. Магдэбургу ў Германіі. Паводле магдэбургскага права гараджане вызваляліся ад феадальнай залежнасці і павіннасцей, ім гарантаваліся свабодныя за-

Существовала и такая форма торговли, как содержание корчем. Подобное занятие являлось чрезвычайно прибыльным, о чем свидетельствует письмо великого князя Александра Ягеллона минскому наместнику Николаю Ильиничу за 11.7.1494 г. Там говорится о продаже 10 минских корчем в аренду по 60 коп грошей в год. Для предотвращения конкуренции требовалось, чтобы других корчем в городе не было.

В хозяйственной жизни средневекового Минска нашло отражение чередование периодов расцвета и упадка, характерное и для белорусских земель в целом. На смену определенному угасанию хозяйственной деятельности Минска в 14—15 вв. опять пришел период взлета, достигнувший своего апогея в первой половине 17 в. Трагические события середины 17 — нач. 18 в. ввергли город в пучину экономического кризиса, который был преодолен стараниями минчан только во второй половине 18 в. Однако несмотря на трудности, которые наблюдались в росте экономического значения города, он смог сохранить статус крупного хозяйственного центра, который в дальнейшем обусловил выход Минска на ведущее место среди городов белорусской земли.

### 3. МАГДЕБУРГСКОЕ ПРАВО

***Грамоты на самоуправление.*** История белорусских городов насчитывает более тысячи лет. Важной вехой в этой истории явилось получение ими самоуправления по магдебургскому праву. Это право является одной из многочисленных моделей так называемого «городского права», характерного для Европы.

Магдебургское право представляло собой совокупность юридических норм, определявших сословно-правовое положение горожан в условиях феодального общества. Сложилось оно в конце 12—13 вв. в г. Магдебурге в Германии. По магдебургскому праву горожане освобождались от феодальной зависимости и повинностей, им гарантировались свободные занятия ремеслом, торговлей, земле-

няткі рамяством, гандлем, земляробствам, дазвалялася выбіраць свой орган улады — магістрат, суд, ствараць рамесныя аб'яднанні — цэхі.

Самакіраванне для еўрапейскіх сярэдневяковых гарадоў мела надзвычай важнае значэнне. Нездарма ў шэрагу краёў Еўропы ўзнікненне горада як адметнай сацыяльна-палітычнай з'явы звязваецца менавіта з атрыманнем жыхарамі тых ці іншых населеных пунктаў гарадскіх правоў і свабод, якіх не мела насельніцтва сельскіх рэгіёнаў. Гэта спрыяла ліквідацыі ў гарадскіх пасяленнях феадальнай эксплуатацыі, эканамічнаму ўзмацненню цэнтраў гандлёва-рамесніцкай дзейнасці, умацаванню і згуртаванню гарадскіх абшчын, што, у сваю чаргу, паскарала працэс фарміравання мяшчанскага саслоўя. Мяшчанскае саслоўе, зацікаўленае ў моцнай цэнтральнай уладзе, якая б абмежавала феадальнае сваавольства і абараніла муніцыпальныя свабоды, з'яўлялася апорай манархаў у іх цэнтралізатарскай палітыцы, што садзейнічала прагрэсу еўрапейскіх краін у цэлым.

У сілу спецыфікі развіцця беларускіх зямель гарады тут атрымлівалі магдэбургскае права досыць позна — з канца 14 ст. Увядзенне гарадскога самакіравання супала з шэрагам з'яў, якія мелі месца ў Вялікім княстве Літоўскім у 14—16 ст. Разгром Тэўтонскага ордэна пад Грунвальдам у 1410 г. дазволіў дасягнуць адноснага знешнепалітычнага спакою, што станоўча адбілася на эканоміцы краіны. У 15 ст. пашыраліся таварна-грашовыя адносіны. Гэта спрыяла росту гарадоў як эканамічных цэнтраў пэўных тэрыторый. Велікакняжацкая ўлада і асобныя феадалы, зацікаўленыя ў павелічэнні гарадскога насельніцтва, былі вымушаны даваць гарадам прывілеі, якія б прыцягвалі сюды новых жыхароў, у тым ліку і кваліфікаваных рамеснікаў з-за мяжы.

Найбольш прывабным для апошніх з'яўлялася магдэбургскае права, тым больш што гараджане бліжэйшых заходніх суседзяў Вялікага княства, най-

делием, разрешалось выбирать свой орган власти — магистрат, суд, создавать ремесленные объединения — цехи.

Самоуправление для европейских средневековых городов имело чрезвычайно важное значение. Не зря в ряде краев Европы возникновение города как самобытного социально-политического явления связывается именно с получением жителями тех или иных населенных пунктов городских прав и свобод, которых не имело население сельских регионов. Это способствовало ликвидации в городских поселениях феодальной эксплуатации, экономическому усилению центров торгово-ремесленной деятельности, укреплению и сплочению городских общин, что, в свою очередь, ускоряло процесс формирования мещанского сословия. Мещанское сословие, заинтересованное в сильной центральной власти, которая бы ограничивала феодальный произвол и защищала муниципальные свободы, являлось опорой монархов в их централизаторской политике, что способствовало прогрессу европейских стран в целом.

В силу специфики развития белорусских земель города здесь получали магдебургское право достаточно поздно — с конца 14 в. Введение городского самоуправления совпало с рядом явлений, имевших место в Великом княжестве Литовском в 14—16 вв. Разгром Тевтонского ордена под Грюнвальдом в 1410 г. позволил достичь относительного внешнеполитического покоя, что положительно отразилось на экономике страны. В 15 в. распространялись товарно-денежные отношения. Это способствовало росту городов как экономических центров определенных территорий. Великокняжеская власть и отдельные феодалы, заинтересованные в увеличении городского населения, были вынуждены предоставлять городам привилегии, которые притягивали бы сюда новых жителей, в том числе и квалифицированных ремесленников из-за границы.

Наиболее притягательным для последних являлось магдебургское право,

перш саюзнай Польшчы, былі з ім ужо задобра знаёмыя. У 1390 г. магдэбургскае права атрымаў Брэст, у 1391 г. няпоўнае права было дадзена Гродна. Праз 50 гадоў, у 1451 г. самакіраваннем паводле магдэбургскага права пачаў карыстацца Слуцк, у 1498 г. — Полацк, у 1499 г. — Мінск. Поўнае права атрымала у 1496 г. Гродна. У 16 ст. самакіраванне атрымалі



*Высокі рынак з ратушай. Канец 18 – пачатак 19 ст.*
*Высокий рынок с ратушей. Конец 18 – начало 19 в.*
*The High Market and the Ratusha (Guildhall). The end of the 18th – beginning of the 19th centuries.*

амаль усе беларускія гарады і многія мястэчкі. Наданне магдэбургскага права гарадскім пасяленням Беларусі працягвалася і надалей. Але яно не было механічна перанесена з Цэнтральнай Еўропы ў беларускія гарады. Запазычаныя нормы права былі прыстасаваны на беларускіх землях да канкрэтных мясцовых умоў. Грамату на права карыстацца магдэбургскім правам выдавала вярхоўная ўлада альбо ўладальнік горада. У абодвух выпадках яна выконвала ролю прававога статута на самакіраванне гарадоў, спрыяла, як і ў іншых краінах Еўропы, саслоўнай кансалідацыі гараджан, вызваляла іх ад феадальнай залежнасці. Даравальныя граматы, дадзеныя гарадам, пашыралі дзеянне магдэбургскага права на прадмесці і сёлы, што належалі мяшчанам.

тем более что горожане ближайших западных соседей Великого княжества, прежде всего союзной Польши, были с ним уже хорошо знакомы. В 1390 г. магдебургское право получил Брест, в 1391 г. неполное право было предоставлено Гродно. Через 50 лет, в 1451 г. самоуправлением по магдебургскому праву начал пользоваться Слуцк, в 1498 г. — Полоцк, в 1499 г. — Минск. Полное право получило в 1496 г. Гродно. В 16 в. самоуправление получили почти все белорусские города и многие местечки. Предоставление магдебургского права городским поселениям Беларуси продолжалось и в дальнейшем. Но оно не было механически перенесено из Центральной Европы в белорусские города. Заимствованные нормы права были приспособлены на белорусских землях к конкретным местным условиям. Грамоту на право пользоваться магдебургским правом выдавала верховная власть либо владелец города. Жалованные грамоты, данные городам, расширяли действие магдебургского права на предместья и села, принадлежавшие мещанам.

Привилей на магдебургское право был выдан Минску 14 марта 1499 г. от

Прывілей на магдэбургскае права быў выдадзены Мінску 14 сакавіка 1499 г. ад імя вялікага князя літоўскага Аляксандра Ягелона (1492—1505), які падпісаў гэты дакумент у Вільні. У прывілейнай грамаце гаварылася: «Наш горад Мінск з права літоўскага і рускага, якое спачатку там было ўстаноўлена, на права нямецкае, так званае Магдэбургскае, пераводзім на вечныя часы. Пастанаўляем і даём ім магчымасць паводле гэтага Магдэбургскага права чыніць поўнае кіраванне і ўсе законы, ліквідуючы ў гэтым горадзе ўсе ранейшыя правы, законы і звычаі, якія Магдэбургскае права стрымліваюць, уціскаюць або яму перашкаджаюць». У грамаце падкрэслівалася, што ўлады пайшлі на ўвядзенне самакіравання, «жадаючы памножыць усеагульнае дабро і палепшыць становішча нашага горада Мінска, каб нашыя людзі, якія там жывуць, дзякуючы добраму і справядліваму ладу, былі заахвочаны» да пражывання ў горадзе.

Кіраўніцтва горада пераходзіла да магістрата — выбарнага адміністрацыйнага і судовага органа. На чале магістрата стаяў войт, якога прызначаў вялікі князь звычайна з буйных феадалаў. Гараджане выбіралі членаў рады — райцаў, іх у Мінску было спачатку 12. Яны разам з войтам выбіралі на год двух бурмістраў, «якія сумесна з войтам будуць кіраваць гараджанамі». У той жа час мяшчане вызваляліся ад улады феадалаў, ваяводскай і павятовай адміністрацыі. У дакуменце гаварылася: «усіх тых людзей аддаляем ад гродскага і замкавага права і навечна вызваляем іх ад суда і ўлады ўсіх ваяводаў, паноў і старостаў, намеснікаў, суддзяў і ўсіх начальнікаў усяго Вялікага княства Літоўскага такім чынам, што калі па якой-небудзь справе (мяняне) будуць выкліканы (апошнімі), яны маюць права не з'яўляцца і не адказваць ім».

Прывілей прадастаўляў мяшчанам шэраг падатковых і маёмасных ільгот. Яны вызваляліся ад падводнай павіннасці, «што звычайна перад тым давалі»,

имени великого князя литовского Александра Ягеллона (1492—1505), подписавшего этот документ в Вильно. В привилейной грамоте говорилось: «Наш город Минск из права литовского и русского, которое сначала там было установлено, на право немецкое, так называемое Магдебургское, переводим на вечные времена. Постановляем и даем им возможность по этому Магдебургскому праву осуществлять полное управление и все законы, ликвидируя в этом городе все прежние права, законы и обычаи, которые Магдебургское право сдерживают, притесняют или ему мешают». В грамоте подчеркивалось, что власти пошли на введение самоуправления, «желая умножить всеобщее добро и улучшить положение нашего города Минска, чтобы наши люди, живущие там, благодаря доброму и справедливому ладу, были поощряемы» к проживанию в городе.

Руководство города переходило к магистрату — выборному административному и судебному органу. Во главе магистрата стоял войт, назначаемый великим князем обычно из крупных феодалов. Горожане избирали членов рады — райцев, их в Минске было сначала 12. Они вместе с войтом выбирали на год двух бурмистров, «которые совместно с войтом будут управлять горожанами». В то же время мещане освобождались от власти феодалов, воеводской и поветовой администрации. В документе говорилось «всех тех людей отдаляем от гродского и замкового права и навечно освобождаем их от суда и власти всех воевод, панов и старост, наместников, судей и всех начальников всего Великого княжества Литовского таким образом, что если по какому-нибудь делу (минчане) будут вызваны в суд (последними), они имеют право не являться и не отвечать им».

Привилей предоставлял мещанам ряд податных и имущественных льгот. Они освобождались от подводной повинности, «которую обычно перед тем давали», кроме великокняжеских земских (воен-

акрамя велікакняжацкіх земскіх (вайсковых) патрэб. Вызваляліся мяшчане і ад варты, акрамя той, якая выконвалася на патрэбу вялікага князя. Шматлікія паборы і выплаты замяняліся падаткам у шэсцьдзесят коп грошай з усяго горада штогод, які павінен быў выплачвацца на Вялікдзень «без усякага адмаўлення». Выплачваўся таксама «чынш карчомны» і «сярэбшчына» — падатак на вайсковыя патрэбы.

Прывілей 1499 г. рэгуляваў рамесніцкую і гандлёвую дзейнасць. Купцы ўсіх іншых гарадоў, акрамя Вільні, пазбауляліся права дробнага гандлю ў Мінску. Мінімальныя партыі куплі і продажу такімі купцамі воску складалі 5 пудоў, футра сабалёў, куніц і тхароў — 40 штук, вавёрак, гарнастаяў, ласак і норак — 250, попелу і смалы — 2 тоны і г.д. Прыезджым купцам забараняўся таксама гандаль у сельскай мясцовасці, па-за межамі мінскага рынку, каб не падрываць пазіцыі мясцовых гандляроў. Мінскія купцы вывозілі лесаматэрыялы, смалу, воск, попел, футра. Мясцовыя і прыезджыя купцы прывозілі металы і вырабы з іх, шматлікія дарагія прыправы, фінікі, віны, нямецкае піва і іншае «пітво замежнае».

Прывілей 1499 г. прадугледжваў і рост гарадской тэрыторыі. Для гэтага войту і бурмістрам даручалася ўсе пустыя месцы ў горадзе, а таксама яго ваколіцах скарыстаць для засялення людзьмі. Важнае значэнне мела для гараджан пацвярджэнне іх даўняга права свабодна карыстацца яснымі рэсурсамі для будаўніцтва і нарыхтоўкі дроў на паліва, а таксама выганамі. Дазвалялася мець у горадзе грамадскую важніцу і капніцу, прычым вытаплены там воск патрабавалася «на агульнае дабро выкарыстаць».

Прывілей дазваляў «у зручным месцы паставіць ратушу, пад якою мець могуць таварную краму, хлебныя клеці, цырульню». У ратушы павінны былі захоўвацца меры вагі, аб'ёмаў, прынятыя ў горадзе, а таксама герб горада. Абавязаны былі мінчане пабудаваць таксама ных) нужд. Освобождались мещане и от сторожи, кроме той, которая исполнялась в пользу великого князя. Многочисленные поборы и выплаты заменялись податью в шестьдесят коп грошей со всего города ежегодно, выплачиваемой на Пасху «безо всякого отказа». Выплачивался также «чинш корчемный» и «серебщизна» — налог на военные нужды.

Привилей 1499 г. регулировал ремесленную и торговую деятельность. Купцы всех других городов, кроме Вильно, лишались права розничной торговли в Минске. Минимальные партии купли и продажи такими купцами воска составляли 5 пудов, меха соболей, куниц и хорьков — 40 штук, белок, горностаев, ласок и норок — 250, золы и смолы — 2 тонны и т.д. Приезжим купцам запрещалась также торговля в сельской местности, вне границ минского рынка, чтобы не подрывать позиции местных торговцев. Минские купцы вывозили лесоматериалы, смолу, воск, золу, меха. Местные и приезжие купцы привозили металлы и изделия из них, многочисленные дорогие приправы, финики, вина, немецкое пиво и другое «питьё заграничное».

Привилей 1499 г. предусматривал и рост городской территории. Для этого войту и бурмистрам поручалось все пустые места в городе, а также его околицах, использовать для заселения людьми. Важное значение имело для горожан подтверждение их давнего права свободно пользоваться лесными ресурсами для строительства и заготовки дров на топливо, а также выгонами. Разрешалось иметь в городе общественную «важницу» и «капницу», причем вытопленный там воск требовалось «на общее добро использовать».

Привилей позволял «в удобном месте поставить ратушу, под которой иметь могут товарную лавку, хлебные клети, цирюльню». В ратуше должны были храниться меры веса, объема, принятые в городе, а также герб города. Обязаны были минчане построить также общественную баню «для общего пользования там, где выберут подходящее место».

грамадскую лазню «для агульнага карыстання там, дзе выберуць прыдатнае месца».

Прывілей 1499 г. не ўтрымліваў поўнай рэгламентацыі гарадскога жыцця, і ў той жа час не ўсе ягоныя палажэнні былі рэалізаваны на практыцы. Па гэтай прычыне, а таксама з-за частых пажараў, у агні якіх гінулі граматы, мінчукі ў далейшым неаднаразова звярталіся да вялікага князя з просьбай аб пацвярджэнні магдэбургскіх прывілеяў. Манарх задавальняў іх просьбы, пры неабходнасці дапаўняючы старыя нормы новымі палажэннямі. Так, па прычыне гібелі граматы 1499 г. падчас пажару ў Мінскім замку яна была пацверджана ў 1552 г., а затым у 1569 г., прычым у тэкст апошняга прывілея былі ўнесены дазвол на будаванне гасцінага двара, дзе павінны былі размяшчацца прыезджыя купцы, а таксама патрабаванне стварэння рамесніцкіх цэхаў.

Важным звяном у набыцці Мінскам усіх неабходных атрыбутаў гарадскога самакіравання стаў прывілей ад 12 студзеня 1591 г. З яго тэксту, таксама як і з тэкстаў папярэдніх прывілеяў, вынікае, што не ўсе агавораныя ў іх моманты былі рэалізаваны на практыцы. Так, у Мінску дагэтуль не была збудавана ратуша, а ўсе гарадскія дакументы захоўваліся, як можна меркаваць, у замку. Таму ў 1591 г. была акцэнтавана ўвага на дазволе гараджанам мець ратушу, «якую яны цяпер збудаваць хочуць».

Звычайна разам з граматай на самакіраванне гораду даваўся герб. Напэўна, у 1499 г. Мінск таксама яго атрымаў. Прынамсі, самі мінчане сцвярджалі, што «з даўніх часоў мелі яны герб на пячатку гарадскую, таму гораду Мінску дадзены і ў першым прывілеі пры наданні права Майдэборскага выказаны, але ж потым пры пажары замку Мінскага і той першы прывілей іх, у якім герб гарадскі апісаны і намаляваны быў, згарэў, таму яны прасілі нас, гаспадара, каб ім, растлумачыўшы і ў парадак прывёўшы, герб іх на пячатку гарадскую надалі». У грамаце 1591 г. гэтая просьба

Привилей 1499 г. не содержал полной регламентации городской жизни, и в то же время не все его положения были реализованы на практике. По этой причине, а также из-за частых пожаров, в огне которых гибли грамоты, минчане в дальнейшем неоднократно обращались к великому князю с просьбой о подтверждении магдебургских привилеев. Монарх удовлетворял их просьбы, при необходимости дополняя старые нормы новыми положениями. Так, по причине гибели грамоты 1499 г. во время пожара Минского замка, она была подтверждена в 1552 г., а затем в 1569 г., причем в текст последнего привилея были внесены разрешение на постройку гостиного двора, где должны были размещаться приезжие купцы, а также требование создания ремесленных цехов.

Важным звеном в приобретении Минском всех необходимых атрибутов городского самоуправления стал привилей от 12 января 1591 г. Из его текста, также как и из текстов предыдущих привилеев, вытекает, что не все оговоренные в них моменты были реализованы на практике. Так, в Минске все еще не была построена ратуша, а все городские документы хранились, как можно судить, в замке. Поэтому в 1591 г. было акцентировано внимание на разрешении горожанам иметь ратушу, «которую они теперь построить хотят».

Обычно вместе с грамотой на самоуправление городу давался герб. Вероятно, в 1499 г. Минск также его получил. По крайней мере, сами минчане утверждали, что «с давних времен имели они ... герб на печать городскую, тому городу Минску данный и в первом привилее при пожаловании права Майдэборгского оговоренный, но после же при пожаре замка Минского и тот первый привилей их, в котором герб описан и нарисован был, сгорел, поэтому они ... просили нас, господаря, чтобы им, разъяснив и в порядок приведя, герб их на печать городскую пожаловали». В грамоте 1591 г. эта просьба горожан была удовлетворена. «Выражая им в том ласку нашу господар-

гараджан была задаволена. «Выказваючы ім у тым ласку нашу гаспадарскую, да аздобы і пачціваму захаванню таго горада нашага Мінска», вялікі князь Жыгімонт III надаў мінчанам «на герб да пячаткі гарадской на ратушу фігуру Унебаўзяцця Панны Марыі». З гэтага часу выява герба змяшчалася на будынках, якія належалі магістрату, на гарадской пячатцы, на сцягах горада. Кляймом з выявай герба мецілі тавары, што вывозіліся з Мінска.

У якасці наступнага этапу па ўдасканаленні норм гарадскога самакіравання ў Мінску можна разглядаць прывілей Жыгімонта III 1613 г., у якім удакладняліся паўнамоцтвы членаў магістрата, а таксама парадак іх выбрання і справаздачнасць. Важнае месца ў прававым станаўленні мінскай абшчыны займалі прыватныя прывілеі, якія выдаваліся вярхоўнай уладай па канкрэтных пытаннях. Так, у 1571 г. гораду быў дадзены прывілей на два кірмашы ў год, у 1586 г. — грамата, якая рэгулявала парадак выдзялення менчукамі падвод для патрэб вялікакняжацкай дыпламатычнай службы. У 1592 г. Мінск атрымаў дазвол на заснаванне праваслаўнага царкоўнага брацтва. Надзвычай важнае значэнне для гаспадарчай дзейнасці горада меў прывілей 1616 г., які рэгуляваў ажыццяўленне гарадскога гандлю. Цэлы шэраг грамат тычыўся пражывання ў горадзе яўрэйскага насельніцтва і г.д.

Магдэбургскае права мела вялікае значэнне для жыцця Мінска. Але частка гарадскіх зямель заставалася ўласнасцю феадалаў. На іх утвараліся так званыя юрыдыкі: адміністрацыйна абасобленыя часткі горада пад уладай шляхты, духавенства, манастыроў, цэркваў, жыхары якіх не падпарадкоўваліся гарадскому самакіраванню. Уласныя юрыдыкі мелі ў Мінску князі Радзівілы, Саламярэцкія, Друцкія-Горскія, буйныя феадалы Корсакі. Пашырэнне юрыдык узмацняла ўплыў феадалаў на жыццё горада, і гараджане вялі супраць іх барацьбу. Значная роля адводзілася ў гэтым велікакняжацкім прывілеям, якія

скую, к украшению и учтивому сохранению того города нашего Минска», великий князь Жигимонт III пожаловал минчанам «на герб к печати городской на ратушу фигуру вознесения на небо Девы Марии». С этого времени изображение герба помещалось на зданиях, принадлежащих магистрату, на городской печати, на знаменах города. Клеймом с изображением герба помечали товары, вывозимые из Минска.



*Алегорыя на падзелы Рэчы Паспалітай.*
*Аллегория на разделы Речи Посполитой.*
*An allegory considering the Rech Pospolitaya partitions.*

В качестве следующего этапа по усовершенствованию норм городского самоуправления в Минске можно рассматривать привилей Жигимонта III 1613 г., в котором уточнялись полномочия членов магистрата, а также порядок их избрания и отчетность. Важное место в правовом становлении минской общины занимали частные привилеи, выдаваемые верховной властью по конкретным вопросам. Так, в 1571 г. городу был выдан привилей на две ярмарки в году, в 1586 г. — грамота, регулировав-

былі перашкодай для злоўжыванняў з боку феадалаў, ваяводскай і павятовай адміністрацыі. Таму мяшчане клапаціліся аб перыядычным пацвярджэнні прывілеяў чарговымі манархамі.

***Органы гарадскога самакіравання***. Галоўным прынцыпам, адлюстраваным у прывілеях на магдэбургскае права, было стварэнне органаў гарадскога самакіравання. У Мінску яны фарміраваліся па ўзору іншых гарадоў Вялікага княства Літоўскага, якія да таго часу карысталіся магдэбургскім правам, а тыя ў сваю чаргу запазычылі яго ў польскіх гарадоў.

Ключавыя пазіцыі ў гарадскім «урадзе» належалі войту (ад ням. «фогт»). Ён валодаў судовымі функцыямі, а таксама вярхоўнай адміністрацыйнай уладай у горадзе. Войт прызначаўся вялікім князем з асяроддзя шляхты ці багатых мяшчан. У гэтым сэнсе войт з'яўляўся злучальным звяном паміж гарадской адміністрацыяй і гаспадаром. Пасада войта была вельмі прыбытковай. Яшчэ прывілей 1499 г. прадугледжваў выплату войтам «трэці пенязь ад усіх судоў і судовых плацяжоў». Акрамя таго, войтам перадавалася «дзве крамы мясныя з іх прыбыткамі, а з іншых крам плата павінна ісці на ратушу, на карысць горада; а яшчэ перадаем у распараджэнне войта дзве свабодныя карчмы з чатырма капамі грошай грашовага падатку». У далейшым для вырашэння бягучых спраў менскі войт прызначаў сабе памочніка — лентвойта, пасада якога ў першапачатковым прывілеі не згадваецца. Прывілей Жыгімонта III ад 25 мая 1613 г., выдадзены ў адказ на просьбу мінскіх мяшчан удакладніць парадак выбарнасці і справаздачнасці гарадскіх улад, утрымлівае патрабаванне, «каб лентвойт, які замест войта ў тым горадзе Мінску на судах засядаць будзе, прысягнуўшым быў». Такім чынам планавалася паставіць лентвойтаў пад большы кантроль з боку мяшчанства.

Да выбарных органаў самакіравання належалі рада і лава, якія складалі магістрат. Акрамя таго, у Мінску існавалі

шая порядок выделения мещанами подвод для нужд великокняжеской дипломатической службы. В 1592 г. Минск получил разрешение на основание православного церковного братства. Чрезвычайно важное значение для хозяйственной деятельности города имел привилей 1616 г., регулировавший осуществление городской торговли. Целый ряд грамот касался проживания в городе еврейского населения и т.д.

Магдебургское право имело большое значение для жизни Минска. Но часть городских земель оставалась собственностью феодалов. На них создавались так называемые юридики — административно обособленные части города под властью шляхты, духовенства, монастырей, церквей, жители которых не подчинялись городскому самоуправлению. Собственные юридики имели в Минске князья Радзивиллы, Соломерецкие, Друцкие-Горские, крупные феодалы Корсаки. Распространение юридик усиливало влияние феодалов на жизнь города, и горожане вели против них борьбу. Значительная роль отводилась в этом великокняжеским привилеям, которые были препятствием для злоупотреблений со стороны феодалов, воеводской и поветовой администрации. Поэтому мещане заботились о периодическом подтверждении привилеев очередными монархами.

***Органы городского самоуправления.*** Главным принципом, отраженным в привилеях на магдебургское право, было создание органов городского самоуправления. В Минске они формировались по образцу других городов Великого княжества Литовского, пользовавшихся к тому времени магдебургским правом, а те в свою очередь заимствовали его у польских городов.

Ключевые позиции в городском «уряде» принадлежали войту (от нем. «фогт»). Он владел судебными функциями, а также верховной административной властью в городе. Войт назначался великим князем со среды шляхты или богатых мещан. В этом смысле войт являлся соединительным звеном между городской

пасады пісара і шафараў, якія займаліся зборам падаткаў. Найбольш уплывовым калектыўным органам самакіравання з'яўлялася рада. У раду, у адпаведнасці з прывілеем 1499 г., уваходзіла дванаццаць радцаў (райцаў), якія, як правіла, выбіраліся штогод агульным сходам мяшчан. На чале рады стаялі два бурмістры, якія, у адпаведнасці з граматай 1499 г., выбіраліся радцамі і войтам тэрмінам на адзін год.

Граматы на магдэбургскае права акрэслівалі працэдуру выбараў толькі ў самых агульных рысах. Гэта, па ўсёй верагоднасці, стварала глебу для розных парушэнняў, таму па просьбе мяшчан парадак выбараў быў удакладнены ў прывілеі 1613 г. У ім патрабавалася, «каб абранне бурмістраў, радцаў, лаўнікаў, пісара праводзілася ранейшым урадам, бурмістрамі і райцамі, і ўсім паспольствам, сумесна з войтам. А элекцыя (выбары) тых ураднікаў новых каб адбывалася ў прысутнасці большасці як ураду, так і паспольства, а не толькі ў прысутнасці аднаго толькі войта, каторым ніякая асоба, таксама як і меншасць, пярэчыць не маглі».

Рада выступала ў якасці гарадскога ўрада; яна не толькі вызначала агульны напрамак развіцця гарадской гаспадаркі, але і кантралявала розныя аспекты дзейнасці гарадоў — назірала за ажыццяўленнем гандлю, вырабам і продажам харчовых прадуктаў, ажыццяўляла збор падаткаў, арганізацыю выбараў і справаздачнасць органаў самакіравання, загадвала гарадской маёмасцю, усталёўвала нормы і правілы ўнутрыгарадскога жыцця. У кампетэнцыю рады ўваходзілі і пытанні, звязаныя з рэгуляваннем рамесніцкай і гандлёвай дзейнасці мяшчан. Важны бок дзейнасці рады складалі крокі па забеспячэнні добраўпарадкавання горада і бяспекі яго жыхароў. Гэты пункт з'яўляўся прадметам асаблівага клопату рады, якая жорстка карала ўсіх парушальнікаў гарадской бяспекі. Вінаваты ў падпале, напрыклад, сам падлягаў спаленню. Клапацілася рада і аб боегатоўнасці горада на выпа-

администрацией и господарем. Должность войта была очень прибыльной. Уже привилей 1499 г. предусматривал выплату войтам «третий пенязь от всех судов и судебных платежей». Кроме того, войтам передавались «две лавки мясные с их доходами, а с других лавок плата должна идти на ратушу, в пользу города; а еще передаем в распоряжение войта две свободные корчмы с четырьмя копами грошей денежной подати». В дальнейшем для решения текущих дел войт назначал себе помощника — лендвойта, должность которого в первоначальном привилее не упоминается. Привилей Жигимонта III от 25 мая 1613 г., выданный в ответ на просьбу минских мещан уточнить порядок выборности и отчетности городских властей, содержит требование, «чтобы лендвойт, который вместо войта в том городе Минске на судах заседать будет, присягнувшим был». Таким образом планировалось поставить лендвойтов под больший контроль со стороны мещанства.

К выборным органам самоуправления относились рада и лава, составлявшие магистрат. Кроме того, в Минске существовали должности писаря и шафаров, занимавшихся сбором налогов. Наиболее влиятельным коллективным органом самоуправления являлась рада. В раду, в соответствии с привилеем 1499 г., входило двенадцать радцев (райцев), которые, как правило, выбирались ежегодно общим сходом мещан. Во главе рады стояли два бурмистра, выбираемые, в соответствии с грамотой 1499 г., радцами и войтом сроком на один год.

Грамоты на магдебургское право очерчивали процедуру выборов только в самых общих чертах. Это, по всей вероятности, создавало почву для разных нарушений, поэтому по просьбе мещан порядок выборов был уточнен в привилее 1613 г. В нем требовалось, «чтобы выборы бурмистров, радцев, лавников, писаря проводилось прежним урядом, бурмистром и райцами, и всем народом, совместно с войтом. А элекция (выборы) тех урядников новых чтобы прохо-

дак ваеннай небяспекі, у яе падпарадкаванні знаходзіліся «мескія» ўмацаванні і арсеналы.

У адстойванні гарадскіх інтарэсаў рада не спынялася перад супраціўленнем феадальнаму самаўладдзю. Разам з тым гэтыя інтарэсы разумеліся пераважна як інтарэсы заможных мяшчан, таму дзейнасць рады насіла ярка выражаны класавы і групавы характар. Мелі месца і фінансавыя маніпуляцыі службовых асоб, што абумовіла імкненне мяшчан да ўзмацнення кантролю над магістратам. Для гэтага ў 1613 г. мяшчане дабіліся ад Жыгімонта III увядзення спецыяльнага кантралюючага органа. Перад заканчэннем паўнамоцтваў чарговых бурмістраў і радцаў і перадачай імі пасад сваім пераемнікам мяшчане павінны былі выбіраць «паміж сабой дванаццаць мужоў, людзей добрых, годных і аселых, а тыя ж дванаццаць ад сябе вылучалі для гэтага шэсць асоб, ні ў чым не падазроных, якія б шэсць асоб павінны былі, сабраўшыся на дзень новага года штогод, у бурмістраў, і радцаў, і шафараў гарадскіх, якія складалі ўладу за мінулы год, за ўсе прыходы, расходы, пажыткі, размёты і складкі за гэты год рахунак у дастатковай лічбе атрымаць». Пасля гэтага вышэй названыя шэсць асоб самі мусілі скласці справаздачу ў ратушы перад новаабраным магістратам.

Важнае месца ў кампетэнцыі органаў гарадскога самакіравання належала судовым функцыям. Ужо ў грамаце 1499 г. асаблівы акцэнт рабіўся на вызваленні менскіх мяшчан ад юрысдыкцыі феадалаў, ваяводскай і павятовай адміністрацыі. «А калі хто ў чым будзе вінаваты, павінен па справядлівасці прадстаць перад войтам, бурмістрам і радцамі». Магдэбургскае права прадугледжвала існаванне двух судоў — бурмістраўска-радзецкага і войтаўска-лаўніцкага. Радзе належалі функцыі суда па маёмасных і грамадзянскіх справах. Бурмістраўска-радзецкія суды разглядалі справы рамеснікаў і рамесніцкіх карпарацый, гандлёва-крэдытныя пытанні і

дила в присутствии большинства как уряда, так и народа, а не только в присутствии одного только войта, которым никакая особа, также как и меньшинство, возражать не могли».

Рада выступала в качестве городского руководящего органа: она не только определяла общее направление развития городского хозяйства, но и контролировала различные аспекты деятельности городов — следила за осуществлением торговли, изготовлением и продажей продуктов питания, производила сбор налогов, заведовала городским имуществом, устанавливала нормы и правила внутригородской жизни. В компетенцию рады входили и вопросы, связанные с регулированием ремесленной и торговой деятельности мещан. Важную сторону деятельности рады составляли шаги по обеспечению благоустройства города и безопасности его жителей. Этот пункт являлся предметом особой заботы рады, жестоко каравшей всех нарушителей городской безопасности. Виновный в поджоге, например, сам подвергался сожжению. Заботилась рада и о боеготовности города на случай военной опасности, в ее подчинении находились «меские» укрепления и арсеналы.

В отстаивании городских интересов рада не останавливалась перед сопротивлением феодальному самоуправству. Вместе с тем эти интересы понимались преимущественно как интересы зажиточных мещан, поэтому деятельность рады носила ярко выраженный классовый и групповой характер. Имели место и финансовые манипуляции должностных лиц, что обусловило стремление мещан к укреплению контроля над магистратом. Для этого в 1613 г. мещане добились от Жигимонта III введения специального контролирующего органа. Перед окончанием полномочий очередных бурмистров и радцев и передачей ими должностей своим переемникам мещане должны были выбирать «меж собой двенадцать мужей, людей добрых, достойных и оседлых, а те же двенадцать от себя выделяли для этого шестерых лиц, ни в

спрэчкі па іх, справы, звязаныя з сямейнымі адносінамі і маральнасцю. Кампетэнцыі рады звычайна падлягалі таксама справы, звязаныя з абвінавачваннем у чарадзействе.

У кампетэнцыю бурмістраўска-радзецкага суда не ўваходзіў разгляд спраў па крымінальных пытаннях. Гэтыя функцыі адводзіліся войту, які ажыццяўляў правасуддзе сумесна з «лавай», члены якой, альбо лаўнікі (прысяжнікі) выбіраліся магістратам ці прызначаліся войтам з ліку найбольш карысных для горада мяшчан хрысціянскага веравызнання. У рэальнасці ж войтаўска-лаўніцкі суд у беларускіх гарадах нярэдка займаўся таксама справамі, у якіх адзін з бакоў не падлягаў юрысдыкцыі магістрата, і выступаў у якасці апеляцыйнай інстанцыі на рашэнні бурмістраўска-радзецкага суда.

Практыкаваліся таксама сумесныя пасяджэнні для вырашэння спраў, якія тычыліся горада ў цэлым, альбо ў тых выпадках, калі кампетэнцыі аднаго з судоў не хапала для вынясення пастановы. На сумесных судах разбіраліся выпадкі выступленняў супраць магістрата, хваляванні гарадскіх нізоў, непаразуменні на рэлігійнай глебе. Абодва органы збіраліся і для выбару службовых асоб, што займаліся непасрэдна бягучымі справамі. Вышэйшай апеляцыйнай інстанцыяй на рашэнні бурмістраўска-радзецкага і войтаўска-лаўніцкага судоў з'яўляўся гаспадарскі суд. «Калі ж войт або бурмістры вырашаць несправядліва, — гаварылася ў грамаце 1499 г., — тады па той справе будуць выкліканы да саміх нас і нам вырашаць, каго якім правам судзіць». Падобныя ж палажэнні паўтараліся і ў граматах за 1552, 1561 і 1591 гг. Аднак на практыцы мелі месца спробы абысці гэтыя нормы. У 1613 г. па просьбе мяшчан кароль зноў мусіў пісьмова пацвярджаць, «каб бурмістры і рада гарадская Мінска паводле прывілеяў, ім наданых, з урадаў сваіх да нас і суду нашага пакліканы бывалі, а не куды яшчэ, толькі перад намі і судом нашым адказваць былі павінны».

чем не подозреваемых, которые б шестеро лиц должны были, собравшись на день нового года ежегодно, у бурмистров, и радцев, и шафаров городских, которые слагали власть за прошедший год, за все приходы, расходы, пожитки, разметы и взносы за этот год счета в достаточном числе получить». После этого вышеназванные шестеро лиц сами должны были составить отчет в ратуше перед новоизбранным магистратом.

Важное место в компетенции органов городского самоуправления принадлежало судебным функциям. Уже в грамоте 1499 г. особый акцент делался на освобождении минских мещан от юрисдикции феодалов, воеводской и поветовой администрации. «А если кто в чем будет виновен, должен по справедливости предстать перед войтом, бурмистром и радцами». Магдебургское право предусматривало существование двух судов — бурмистровско-радецкого и войтовско-лавницкого. Раде принадлежали функции суда по имущественным и гражданским делам. Бурмистровско-радецкие суды рассматривали дела ремесленников и ремесленных корпораций, торгово-кредитные вопросы и споры по ним, дела, связанные с семейными отношениями и нравственностью. Компетенция рады обычно распространялась также на дела, связанные с обвинениями в колдовстве.

В компетенцию бурмистровско-радецкого суда не входило рассмотрение дел по уголовным вопросам. Эти функции отводились войту, который осуществлял правосудие вместе с «лавой», члены которой, или лавники (присяжные) избирались магистратом либо назначались войтом из числа наиболее полезных для города мещан христианского вероисповедания. В реальности же войтовско-лавницкий суд в белорусских городах нередко занимался также делами, в которых одна из сторон не подлежала юрисдикции магистрата, и выступал в качестве апелляционной инстанции на решения бурмистровско-радецкого суда.

***Узаемаадносіны магістрата з гараджанамі***. Клопат мяшчанства аб захаванні судовай юрысдыкцыі меў пад сабой сур'ёзныя падставы. Гэта не толькі засцерагала іх ад феадальнага свавольства, але ў шэрагу выпадкаў прадухіляла узурпацыю гарадскіх пасадаў. Так, у 1595 г. меў месца судовы разбор паміж Марцінам Тышкевічам з ад-



*Дом гродскага суда на Замчышчы.*
*Дом гродского суда на Замчище.*
*The house of the grodsky court on the hill-fort (Zamchishche).*

нага боку і мінскімі мяшчанамі і мясцовым войтам Рыгорам Тарлецкім — з другога. Годам раней Мінскі земскі суд прысудзіў войтаўства Тышкевічу, але «мяшчане мінскія яму, Марціну Тышкевічу, як войту свайму, паслухмянымі быць не жадаючы, супраціўленне яму аказалі і да вялікіх шкодаў і стратаў, а слуг яго — да зранення прывялі». Слушнасць Тышкевіча прызнаў вярхоўны суд Вялікага княства Літоўскага — Трыбунал, але судовы вердыкт быў апратэставаны ўпаўнаважаным мяшчан Матыяшам Концкім. Ён заявіў, што мінчане паводле магдэбургскіх норм не падлягаюць ні замкаваму, ні нават трыбунальскаму суду. У сваю чаргу Рыгор Тарлецкі прад'явіў прывілей на войтаўства, выдадзены самім манархам. У

Практиковались также совместные заседания для решения дел, которые касались города в целом, либо в тех случаях, когда компетенции одного из судов не хватало для вынесения постановления. На совместных судах разбирались случаи выступления против магистрата, волнения городских низов, недоразумения на религиозной почве. Оба органа собирались и для избрания должностных лиц, занимавшихся непосредственно текущими делами. Высшей апелляционной инстанцией на решения бурмистровско-радецкого и войтовско-лавницкого судов являлся великокняжеский суд. «Если же войт или бурмистры решат несправедливо, — говорилось в грамоте 1499 г., — тогда по тому делу будут вызваны к самим нам и нам решать, кого каким правом судить». Подобные же положения повторялись и в грамотах за 1552, 1561 и 1591 гг. Однако на практике имели место попытки обойти эти нормы. В 1613 г. по просьбе мещан король опять был вынужден письменно подтверждать, «чтобы бурмистры и рада городская Минска в соответствии с привилеями, им пожалованными, с урядов своих к нам и суду нашему позваны бывали, а не еще куда, только перед нами и судом нашим отвечать были должны».

***Взаимоотношения магистрата с горожанами.*** Забота мещанства о сохранении судебной юрисдикции имела под собой серьёзную почву. Это не только защищало их от феодального самоуправства, но и в ряде случаев предотвращало узурпацию городских должностей. Так, в 1595 г. имело место судебное разбирательство между Мартином Тышкевичем с одной стороны и минскими мещанами и местным войтом Григорием Тарлецким — с другой. Годом ранее Минский земский суд присудил войтовство Тышкевичу, но «мещане минские ему, Мартину Тышкевичу, как войту своему, послушными быть не желая, сопротивление ему оказали и к великому ущербу и потерям, а слуг его — к ранению привели». Правоту Тышкевича признал верховный суд Великого кня-

выніку мінскія мяшчане бліскуча выйгралі справу.

Узаемны давер і павага паміж «мескімі» ўладамі і шырокімі коламі мяшчанства з'яўляліся важнай умовай захавання стабільнасці ў горадзе. Таму, не абмяжоўваючыся павышэннем патрабаванняў да працэдуры выбараў і справаздачнасці службовых асобаў, мяшчане надавалі вялікае значэнне юрыдычнаму падтрыманню «ідылічных» адносін паміж кіраўніцтвам і простым людам. Так, у 1590 г. агульны сход мінчан патрабаваў ад рады «быць вернымі паспольству горада, вяршыць справядлівасць усім роўна — як багатаму, так і беднаму... ліквідаваць несправядлівасць, захоўваць і прымнажаць прывілеі і агульны набытак горада». У той жа час улада, згодна з пастановай мяшчан, павінна была акружацца павагай і пашанай з боку жахароў горада. Указвалася, што «кожны просты чалавек павінен прынесці радзе прысягу, што будзе ёй ва ўсім паслухмяны». Мяшчане абавязваліся абараняць бурмістраў, радцаў, лаўнікаў у выпадку нападу на іх «у доме, на рынку, на вуліцы ці дзе б тое ні было», не дапускаць абразы магістрата і г.д.

На органы самакіравання ўскладаліся асноўныя абавязкі па ахове мяшчанскіх вольнасцей ад пасягання на іх з боку як феадалаў, так і любых асоб, на якіх не распаўсюджвалася ўлада магістрата. Клапоцячыся пра павелічэнне гарадской абшчыны, мінскі магістрат адмаўляўся выдаваць сялян-уцекачоў іх былым уладальнікам, супраціўляўся закладанню і пашырэнню феадальных і духоўных юрыдык. Пры гэтым бурмістраў і радцаў не спыняла нават тое, што ў падобных справах маглі быць замешаны, у абыход прывілеяў, магутныя прадстаўнікі каралеўскай адміністрацыі і іх калегі — войты. Так, у 1724 г. кароль польскі і вялікі князь літоўскі Аўгуст II, спасылаючыся на неаднаразовыя скаргі бурмістра, райцаў і лаўнікаў, абвінавачваў старасту і войта мінскага Ігната Завішу ў тым, што ён забіраў мяшчанскія дамы і пляцы, «ламаў» прывілеі, надажества Литовского — Трибунал, но судебный вердикт был опротестован уполномоченным мещан Матиасом Контским. Он заявил, что минчане, по магдебургским нормам, не подлежат ни замковому, ни даже трибунальскому суду. В свою очередь Григорий Тарлецкий предъявил привилей на войтовство, выданный самим монархом. В результате минские мещане блестяще выиграли дело.

Взаимное доверие и уважение между «мескими» властями и широкими кругами мещанства являлись важным условием сохранения стабильности в городе. Поэтому, не ограничиваясь повышением требований к процедуре выборов и отчетности должностных лиц, мещане придавали большое значение юридической поддержке «идиллических» отношений между руководством и простым народом. Так, в 1590 г. общее собрание минчан потребовало от рады «быть верным широким народным массам города, вершить справедливость всем равно – как богатому, так и бедному... ликвидировать несправедливость, сохранять и умножать привилегии и общее достояние города». В то же время власти, согласно с постановлением мещан, должны были окружаться уважением и почтением са стороны жителей города. Указывалось, что «каждый простой человек должен принести раде присягу, что будет ей во всем послушным». Мещане обязывались защищать бурмистров, радцев, лавников в случае нападения на них «в доме, на рынке, на улице или где бы то ни было», не допускать оскорбления магистрата и т.д.

На органы самоуправления возлагались основные обязанности по защите мещанских вольностей от посягательств на них со стороны как феодалов, так и любых лиц, на которых не распространялась власть магистрата. Заботясь об увеличении городской общины, минский магистрат отказывался выдавать крестьян-беглецов их бывшим владельцам, сопротивлялся основанию и распространению феодальных и духовных юридик. При этом бурмистров и радцев

ныя Мінску, пераводзіў мяшчан пад юрысдыкцыю прыватных асоб і вызваляў іх ад падаткаў на карысць горада.

Імкнучыся захаваць хаця б адносную заможнасць усіх членаў гарадской абшчыны, што гарантавала б іх здольнасць да выплаты гарадскіх падаткаў і стабільнасць у горадзе, магістрат Мінска час ад часу рабіў захады па прадухіленню перакладання падатковага цяжару на плечы пэўнай часткі мяшчан. Так, напрыклад, у 1773 г. мінскі магістрат спецыяльнай пастановай патрабаваў «выконваць роўнасць усіх без выключэння жыхароў, абцяжараных падаткамі, у цяперашні цяжкі час і спыніць былую практыку, пры якой незаможныя пакутавалі і пакутуюць ад большых уціскаў, а багацейшыя рознымі шляхамі вызваляліся ад абкладання». У выніку была прынята пастанова размяркоўваць падаткі прапарцыянальна маёмасці плацельшчыкаў.

Важным клопатам магістрата было захаванне інтарэсаў мяшчан у сферы рамяства і гандлю. Для гэтага магістрат сачыў за тым, каб не дапускаць на гарадскі рынак пазацэхавых рамеснікаў («партачоў»), а таксама прыезджых гандляроў і жыхароў юрыдык. Напружаныя адносіны складаліся ў мяшчан і з яўрэйскім насельніцтвам горада, што знайшло адлюстраванне ў шматлікіх судовых справах і прывілеях, выдаваемых вярхоўнай уладай то аднаму, то другому з варагуючых бакоў. Так, у 1579 г. войт, бурмістры і радцы забаранілі Іцку Машэвічу, Мошку Лазаровічу, Іцхаку Ілічу і іншым яўрэям гандляваць і мець крамы ў Мінску. Падобныя крокі прадпрымаліся мінскім магістратам рэгулярна і набылі характар скрытай эканамічнай вайны. У сваю чаргу гарадскія улады, матывуючы паслядоўнасць сваёй пазіцыі, прад'яўлялі яўрэйскай абшчыне сур'ёзныя прэтэнзіі, якія знайшлі адлюстраванне, напрыклад, у скарзе, накіраванай каралю ў 1633 г. Там гаварылася, што яўрэі, у абыход правоў, набываюць у горадзе дамы, пашыраюць сваю маёмасць за кошт гарадской тэрыторыі і ў той жа час не жадаюць плаціць па-

не останавливало даже то, что в подобных делах могли быть замешаны, в обход привилеев, могущественные представители королевской администрации и их коллеги — войты. Так, в 1724 г. король польский и великий князь литовский Август II, ссылаясь на неоднократные жалобы бурмистра, райцев и лавников, обвинял старосту и войта минского Игната Завишу в том, что он забирал мещанские дома и участки, «ломал» привилеи, пожалованные Минску, переводил мещан под юрисдикцию частных лиц и освобождал их от податей в пользу города.

Стремясь сохранить хотя бы относительную зажиточность всех членов городской общины, что гарантировало бы их способность выплачивать городские налоги и стабильность в городе, магистрат Минска время от времени предпринимал попытки по предотвращению переложения налогового бремени на плечи определенной части горожан. Так, например, в 1773 г. минский магистрат специальным постановлением требовал «исполнять равенство всех без исключения жителей, обремененных податями, в теперешнее трудное время и прекратить бывшую практику, при которой неимущие страдали и страдают от больших притеснений, а богатейшие разными путями освобождались от обложения». В результате было принято постановление распределять подати пропорционально имуществу плательщиков.

Важной заботой магистрата было соблюдение интересов мещан в сфере ремесла и торговли. Для этого магистрат следил за тем, чтобы не допускать на городской рынок внецеховых ремесленников («портачей»), а также приезжих торговцев и жителей юридик. Напряженные отношения сложились у мещан и с еврейским населением города, что нашло отражение в многочисленных судебных делах и привилеях, выдаваемых верховной властью то одной, то другой из враждующих сторон. Так, в 1579 г. войт, бурмистры и радцы запретили Ицку Машевичу, Мошку Лазаро-

Лібералізацыя рэлігійнай палітыкі царскага ўрада з 1890 г. і прынящце 17 красавіка 1905 г. закона аб свабодзе веравызнання выклікала незадавальненне мясцовых праваслаўных колаў. У жніўні 1908 г. ў Мінску адбыўся з'езд прадстаўнікоў заходнярускіх праваслаўных брацтваў, які скардзіўся цару, што верацярпімасць вядзе да паланізацыі Заходняга краю. Мінск прызнаваўся важным цэнтрам праваслаўя на захадзе імперыі.

З пачаткам першай сусветнай вайны была ўтворана Мінская ваенная акруга замест скасаванай Віленскай. Пасля спынення наступлення немцаў у кастрычніку 1915 г. на лініі Дзвінск–Браслаў–Паставы–Смаргонь–Баранавічы–Пінск Мінск ператварыўся ў прыфрантавы горад. Штаб Паўночнага фронту знаходзіўся ў Дзвінску, а штаб Заходняга – у Мінску. Ваеннае становішча абумовіла панаванне ў горадзе органаў палітычнай бяспекі і ваеннай контрразведкі. Дзейнасць палітычных партый стала немагчымай. Тым не менш, у гады першай сусветнай вайны Мінск, як і Вільня, стаў цэнтрам беларускага нацыянальнага руху. Бежанцы павялічылі ўдзельную вагу беларусаў сярод мінчан і жыхароў іншых гарадоў Беларусі. Летам 1915 г. ў Мінску адчынілася гарадское аддзяленне створанага ў Вільні Беларускага таварыства па аказанні дапамогі пацярпелым ад вайны, якое аб'ядноўвала 50 чалавек. Яно арганізоўвала для бежанцаў начлежныя прытулкі, платныя і бясплатныя сталоўкі, дапамагала ў працаўладкаванні.

***Пасля звяржэння царызму.*** Як толькі вестка пра перамогу Лютаўскай рэвалюцыі дасягнула Мінска, у ноч з 3 на 4 сакавіка ў горадзе быў створаны Камітэт грамадзянскай бяспекі, які ўзначалілі Б.Самойленка і С.Хржанстоўскі. Часовы орган улады дзейнічаў да моманту перавыбрання гарадской думы (30 ліпеня). Заснаваны 4–8 сакавіка гарадскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў на чале з Б.Позернам абараняў інтарэсы працоўных і вайскоўцаў. Рэальная ўлада ў горадзе належала гу-

зы, которые возникали на основе бывших стачечных касс.

Либерализация религиозной политики царского правительства (с 1890 г.) и принятие закона о свободе вероисповедания (17 апреля 1905 г.) вызвали недовольство местных православных кругов. В августе 1908 г. в Минске состоялся съезд представителей западнорусских православных братств, который жаловался царю, что веротерпимость ведет к полонизации Западного края. Минск признавался важным центром православия на западе империи.

С началом первой мировой войны был образован Минский военный округ вместо упраздненного Виленского. После остановки наступления немцев в октябре 1915 г. на линии Двинск–Браслав–Поставы–Сморгонь–Барановичи–Пинск Минск превратился в прифронтовой город. Штаб Северного фронта находился в Двинске, а штаб Западного – в Минске. Военное положение обусловило господство в городе органов политической безопасности и военной контрразведки. Деятельность политических партий стала невозможной. Тем не менее, в годы первой мировой войны Минск, как и Вильно, стал центром белорусского национального движения. Беженцы увеличили удельный вес белорусов среди минчан, да и жителей других городов Беларуси. Летом 1915 г. в Минске открылось городское отделение созданного в Вильно Белорусского товарищества по оказанию помощи потерпевшим от войны, которое объединяло 50 человек. Оно организовывало для беженцев ночлежные приюты, платные и бесплатные столовые, помогало в трудоустройстве.

***После свержения царизма.*** Как только известие о победе Февральской революции достигло Минска, в ночь с 3 на 4 марта в городе был создан Комитет гражданской безопасности во главе с Б.Самойленко и С.Хржонстовским. Временный орган власти действовал до момента переизбрания городской думы (30 июля). Основанный 4–8 марта го-

бернскаму камісару і каменданту Мінска Б.Самойленку, а таксама гарадскому камісару С.Хржанстоўскаму.

Лютаўская рэвалюцыя дазволіла розным палітычным партыям і грамадскім арганізацыям легальна ажыццяўляць сваю дзейнасць. Мінск ператварыўся ў вядучы палітычны цэнтр Беларусі. Істотнай асаблівасцю яго развіцця стала супрацоўніцтва большасці палітычных сіл у справе падтрымкі Часовага ўрада і забеспячэння правапарадку ў горадзе. Вялікі ўплыў меў абраны на І з'ездзе дэлегатаў войск і тылу Заходняга фронту 7–17 красавіка ў Мінску Франтавы камітэт, які працаваў у будынку на плошчы Свабоды, 4.

Аднавіла сваю дзейнасць БСГ. Яе мінская арганізацыя побач з петраградскай вылучалася сваімі памерамі і ўплывам. Пры падтрымцы грамадскасці горада яна арганізавала ў Мінску 25–26 сакавіка правядзенне І з'езда прадстаўнікоў беларускіх арганізацый і партый. Абраны на з'ездзе Беларускі нацыянальны камітэт (Белнацком, БНК) набыў ролю вышэйшай краёвай установы. Беларускія арганізацыі і партыі, нягледзячы на рознагалоссі, стараліся мець сувязь з Белнацкомам, прызнавалі Мінск цэнтрам Беларусі.

Палітычная ініцыятыва ў горадзе і краі належала арганізацыям агульнарасійскіх палітычных партый – у першую чаргу эсэрам і меншавікам, якія панавалі ва ўсіх уладных структурах горада і краю.

Правал летняга наступлення расійскай арміі 1917 г. выклікаў у грамадскасці Мінска выбух незадаволенасці. Каб падтрымаць Часовы ўрад, у Мінску 15 ліпеня быў створаны Камітэт рэвалюцыйных арганізацый з прадстаўнікоў Саветаў, Франтавога камітэта, Камітэта грамадскай бяспекі, сацыялістычных партый і інш. Мінскія бальшавікі стварылі ў горадзе ўласную арганізацыю і пачалі выдаваць газету «Звязда», але не здолелі істотна паўплываць на пашырэнне сярод мінчан антыўрадавых настрояў. Пазней, 24 жніўня, гарадскія ўла-

родской Совет рабочих и солдатских депутатов во главе с Б.Позерном защищал интересы трудящихся и военных. Реальная власть в городе принадлежала губернскому комиссару и коменданту Минска Б.Самойленко, а также городскому комиссару С.Хржонстовскому.

Февральская революция позволила разным политическим партиям и общественным организациям легально осуществлять свою деятельность. Минск превратился в ведущий политический центр Беларуси. Существенной особенностью его развития стало сотрудничество большинства политических сил в деле поддержки Временного правительства и обеспечения правопорядка в городе. Большое влияние имел избранный на I съезде делегатов войск и тыла Западного фронта 7–17 апреля в Минске Фронтовой комитет, который работал в здании на площади Свободы, 4.

Возобновила свою деятельность БСГ. Ее минская организация наряду с петроградской выделялась своими размерами и влиянием. При поддержке общественности города она организовала в Минске 25–26 марта проведение I съезда представителей белорусских организаций и партий. Избранный на съезде Белорусский национальный комитет (Белнацком, БНК) приобрел роль высшего краевого учреждения. Белорусские организации и партии, несмотря на разногласия, старались поддерживать связь с Белнацкомом, признавали Минск центром Беларуси.

Политическая инициатива в городе и крае принадлежала организациям общероссийских политических партий – в первую очередь эсерам и меньшевикам, которые господствовали во всех властных структурах города и края.

Провал летнего наступления российской армии 1917 г. вызвал у общественности Минска взрыв недовольства. Чтобы поддержать Временное правительство, в Минске 15 июля был создан Комитет революционных организаций из представителей Советов, Фронтового комитета, Комитета общественной безопасности, социалистических партий и др. Минские

ды закрылі бальшавіцкую газету за антыўрадавую прапаганду.

Абвастрэнне палітычнай сітуацыі ў краіне абумовіла скліканне 8–12 ліпеня ў Мінску II з'езда прадстаўнікоў беларускіх партый. З вялікай цяжкасцю дэлегатам удалося паразумецца на платформе неабходнасці адзінага нацыянальнага фронту і абраць замест Беларускага нацыянальнага камітэта Цэнтральную раду беларускіх арганізацый і партый на чале з Я.Лёсікам. Новая ўстанова дзейнічала пераважна як нацыянальна-культурная арганізацыя і зусім мала ўвагі аддавала пытанню аб уладзе.

Калі 27 жніўня – 1 верасня вярхоўны галоўнакамандуючы Расіі Л.Карнілаў спрабаваў ажыццявіць у краіне пераварот, Мінск выступіў у падтрымку Часовага ўрада. Створаны на аснове лаяльных да ўлады структур Часовы рэвалюцыйны камітэт змог захаваць у горадзе грамадскі парадак.

У Мінску і Беларусі барацьбу за ўладу вялі два асноўныя блокі палітычных сіл – ліберальна-буржуазны і рэвалюцыйна-радыкальны (бальшавікі). Польскія палітычныя сілы не выключалі далучэння Мінска ў склад адноўленай польскай дзяржавы. Яўрэйскія партыі дзейнічалі ў рэчышчы агульнарасійскай палітычнай плыні.

15–24 кастрычніка 1917 г. ў Мінску праходзіла пасяджэнне Цэнтральнай рады беларускіх партый і арганізацый. У першы дзень працы пры ўдзеле дэлегатаў з'езда вайскоўцаў-беларусаў Заходняга фронту гэтай арганізацыі быў нададзены характар палітычнага цэнтра Беларусі і яна атрымала назву Вялікая беларуская рада (ВБР). Старшынёй выканкома стаў В.Адамовіч, яго намеснікамі – беларускі паэт Алесь Гарун (А.Прушынскі) і А.Смоліч.

18–24 кастрычніка 1917 г. ў Мінску працаваў з'езд беларусаў-вайскоўцаў Заходняга фронту. Прыехалі прадстаўнікі беларускіх арганізацый Балтыйскага флоту, Румынскага і Паўночнага франтоў. Дэлегаты выказалі гатоўнасць бараніць беларускія землі і ра-

большевики, хотя и создали в городе собственную организацию и начали издавать газету «Звезда», не смогли существенно повлиять на распространение среди минчан антиправительственных настроений. Позднее, 24 августа, городские власти закрыли большевистскую газету за антиправительственную пропаганду.

Обострение политической ситуации в стране обусловило созыв 8–12 июля в Минске II съезда представителей белорусских партий. С большими трудностями делегатам удалось договориться на платформе необходимости единого национального фронта и выбрать вместо Белорусского национального комитета Центральную раду белорусских организаций и партий во главе с И.Лёсиком. Новое учреждение действовало в основном как национально-культурная организация и совсем мало внимания уделяло вопросу о власти.

Когда 27 августа – 1 сентября верховный главнокомандующий России Л.Корнилов пробовал осуществить в стране переворот, Минск выступил в поддержку Временного правительства. Созданный на основе лояльных власти структур Временный революционный комитет смог сохранить в городе общественный порядок. В Минске и Беларуси борьбу за власть вели два основных блока политических сил – либерально-буржуазный и революционно-радикальный (большевики). Польские политические силы не исключали присоединения Минска к восстановленному польскому государству. Еврейские партии действовали в русле общероссийского политического течения.

15–24 октября 1917 г. в Минске проходило заседание Центральной рады белорусских партий и организаций. В первый день работы при участии делегатов съезда военных-белорусов Западного фронта этой организации был придан характер политического центра Беларуси, и она получила название Большая белорусская рада (ББР). Председателем исполкома стал В.Адамович, его заместителями – белорус-

сійскую дэмакратыю, прынялі рэзалюцыю аб пашырэнні беларускіх вайсковых арганізацый і абралі Цэнтральную беларускую вайсковую раду (ЦБВР). Старшынёй яе выканаўчага камітэта стаў С.Рак-Міхайлоўскі. Вялікія надзеі ўскладаліся на Устаноўчы сход, да выбараў якога рыхтавалася ўся краіна.

Працягвалі сваю дзейнасць бальшавікі. Першая паўночна-заходняя абласная канферэнцыя РСДРП(б), што праходзіла ў сярэдзіне верасня, абмеркавала пытанне аб узброеным паўстанні (рашэнне аб яго падрыхтоўцы прыняў VI з'езд партыі бальшавікоў у Петраградзе) і абрала Паўночна-заходні абласны камітэт партыі пад старшынствам А.Мяснікова.

## 2. СТАНАЎЛЕННЕ КАПІТАЛІСТЫЧНАЙ ЭКАНОМІКІ

***Гандаль.*** Транспартнае становішча Мінска не вельмі спрыяла яго эканамічнаму развіццю. Рака Свіслач, на якой размяшчаўся горад, не мела ў пачатку 19 ст. вялікага значэння для гандлю. Перавозкі ажыццяўляліся гужавым транспартам. Сітуацыя змянілася пасля правядзення ў 1871 г. праз Мінск Маскоўска-Брэсцкай чыгункі і асабліва пасля таго, як у 1874 г. яе ў межах мінскага прыгарада перасекла другая магістраль – Лібава-Роменская. Мінск апынуўся на перакрыжаванні дзвюх чыгуначных магістралей і атрымаў надзейную сувязь з Маскоўскім, Польскім і Паўднёвым прамысловымі раёнамі, са збожжавымі украінскімі губернямі і з партамі Балтыйскага мора.

Да 1830-х г. у Мінску праходзілі два веснавыя кірмашы – кантрактны (сакавік) і дзесятуха (на дзесяты дзень пасля Вялікадня, адсюль і назва). Паэней дзелавая актыўнасць зменшылася і ў горадзе застаўся адзін кантрактны кірмаш, які праводзіўся з 25 мая да 25 чэрвеня. На мінскія кірмашы прыязджалі купцы з Варшавы, Кёнігсберга, Данцыга, усіх вялікіх гарадоў Расіі. Яны прадавалі знакамітыя турэцкія шалі, ліёнскі шоўк, сярэбраныя вырабы пе-

ский поэт Алесь Гарун (А.Прушинский) и А.Смолич.

18–24 октября 1917 г. в Минске работал съезд белорусов-военных Западного фронта. Приехали представители белорусских организаций Балтийского флота, Румынского и Северного фронтов. Делегаты высказали готовность защищать белорусские земли и российс-



*Брэсцкі вакзал. Пабудаваны ў 1871 г. Зараз на гэтым месцы пустка каля прыпынку «Інстытут культуры».*

*Брестский вокзал. Построен в 1871 г. Сейчас на этом месте пустырь возле остановки «Институт культуры».*

*Brest station. At present there is a vacant lot near the Institute of Culture stop.*

кую демократию, приняли резолюцию о расширении белорусских военных организаций и избрали Центральную белорусскую военную раду (ЦБВР). Председателем ее исполнительного комитета стал С.Рак-Михайловский. Большие надежды возлагались на Учредительное собрание, к выборам которого готовилась вся страна.

Продолжали свою деятельность большевики. Первая северо-западная конференция РСДРП(б), которая проходила в середине сентября, обсудила вопрос о вооруженном восстании (решение о его подготовке принял VI съезд партии большевиков в Петрограде) и

цярбургскіх майстроў, харкаўскую галантарэю. Мясцовыя купцы дастаўлялі з Масквы, Ніжняга Ноўгарада, Варшавы і Рыгі розныя тканіны, віно, селядцы, вострыя прыправы, металічныя вырабы. Акрамя таго, мінскае купецтва займалася буйным пасрэдніцкім гандлем збожжам, якое дастаўлялася з Украіны, а таксама соллю, што ішла з Крыма. Немалы прыбытак давала скупка ў навакольных маёнтках і вёсках сельскагаспадарчых тавараў для іх адпраўкі за мяжу. У горадзе знаходзіліся буйныя склады пянькі, лёну, воску, мёду, сырых і выробленых скур, шчаціння, канаплянага і льнянога семя, масла, сала, іншых тавараў. Гандлёвыя абароты мінскіх кірмашоў дасягалі ў 30–40-х г. 19 ст. 300–500 тыс. рублёў, аднак былі меншыя ў параўнанні з кірмашовымі абаротамі гарадоў, якія месціліся на паўнаводных рэках.



*Мясныя рады на Нізкім рынку. 1888 г.*
*Мясные ряды на Низком рынке. 1888 г.*
*Rows of butcher's stalls in the Low Market. 1888.*

У 50-х г. 19 ст. кірмашны гандаль у Мінску згортваўся, саступаючы месца стацыянарнаму. Колькасць крам у горадзе вырасла ў 1800–1861 гг. са 124 да 594. У рознічным гандлі сярэдзіны 19 ст. было занята да $^1/_3$ гараджан. Выбар тавараў, праўда, не вызначаўся разнастай-

избрала Северо-западный областной комитет партии под председательством А.Мясникова.

## 2. СТАНОВЛЕНИЕ КАПИТАЛИСТИЧЕСКОЙ ЭКОНОМИКИ

***Торговля.*** Транспортное положение Минска не очень благоприятствовало его экономическому развитию. Река Свислочь, на которой располагался город, не имела в начале 19 в. большого значения в торговле. Перевозки осуществлялись гужевым транспортом. Ситуация изменилась после проведения в 1871 г. через Минск Московско-Брестской железной дороги и особенно пасле того, как в 1874 г. ее в границах минского пригорода пересекла другая магистраль – Либаво-Роменская. Минск оказался на пересечении двух железнодорожных магистралей и получил надежную связь с Московским, Польским и Южным промышленными районами, с хлебными украинскими губерниями и с портами Балтийского моря.

До 1830-х г. в Минске проходили две весенние ярмарки – контрактная (март) и десятуха (на десятый день после Пасхи, отсюда и название). Позднее деловая активность уменьшилась и в городе осталась одна контрактная ярмарка, которая проводилась с 25 мая до 25 июня. На минские ярмарки приезжали купцы из Варшавы, Кенигсберга, Данцига, всех больших городов России. Они продавали знаменитые турецкие шарфы, лионский шелк, серебряные изделия петербургских мастеров, харьковскую галантерею. Местные купцы доставляли из Москвы, Нижнего Новгорода, Варшавы и Риги разные ткани, вино, сельдь, пряности, металлические изделия. Кроме того, минское купечество занималось крупной посреднической торговлей зерном, которое доставлялось из Украины, а также солью, шедшей из Крыма. Немалый доход давала скупка в окрестных имениях и деревнях сельскохозяйственных товаров для их отправки за границу. В городе находились крупные скла-

насцю і вытанчанасцю. У большасці крам гандлявалі прадуктамі харчавання і спіртнымі напіткамі. Гандляры базараў, утрымальнікі заезных двароў арыентаваліся на абслугоўванне простага люду. І таму, калі ў Мінск з усёй губерні з'язджаліся шляхецкія сем'і на сеймікі для абрання органаў саслоўнага самакіравання, то з сабой везлі шматлікую службу, кухню і харчовыя запасы. Рознічны гандаль канцэнтраваўся на Высокім рынку (цяпер плошча Свободы). Лепшыя з гандлёвых крам месціліся ў двухпавярховым каменным Гасціным двары, што стаяў сярод плошчы (стаіць і зараз пасля рэстаўрацыі). Да 1840-х г. штотыднёва і ў перыяд кірмашу таргі праводзіліся на плошчы Новага рынку (цяпер Цэнтральны сквер). Харчовы гандаль вёўся на Ніжнім рынку (цяпер раён вуліцы Нямігі), дзе знаходзіліся мясныя і рыбныя рады і так званыя сундукі, або часовыя крамы. Буйны сельскагаспадарчы базар ладзіўся на рынычнай плошчы Траецкай гары (цяпер раён опернага тэатра).

Да канца 19 ст. Мінск ператварыўся ў важнейшы гандлёвы цэнтр Беларусі. Сярод чыгуначных станцый беларускага рэгіёна ён меў самы значны грузаабарот – 9,3 млн. пудоў у 1899 г. і 20,3 млн. пудоў у 1913 г. Мінск стаў буйнейшым цэнтрам транзітнага гандлю лесам, збожжам і тэкстылем. Горад выконваў функцыі буйнога размеркавальніка тавараў у Мінскай, Магілёўскай і часткова Віцебскай губернях. З-за межаў Беларускага краю па чыгунцы сюды прывозілі хлеб, соль, цукар, чай, селядцы, вінаграднае віно, каменны вугаль, газу, метал, машыны і абсталяванне. Важная роля ў прывозе належала так званым мануфактурным таварам. Паркаль, палатно, напаўшарсцяныя тканіны, хусткі карысталіся тады ў Беларусі ўстойлівым і шырокім попытам. Праз горад у вялікай колькасці ішлі тавары, што выраблялiся ў мясцовым рэгіёне і прызначаліся на ўсерасійскі рынак: прадукты жывёлагадоўлі, агародніна, яблыкі, рыба, канапляны алей, дровы, лес і леды пеньки, льна, воска, меда, сырых и обработанных шкур, щетины, конопляного и льняного семян, масла, сала, других товаров. Торговые обороты минских ярмарок достигали в 30–40-х г. 19 в. 300–500 тыс. рублей, однако были меньше по сравнению с ярмарочными оборотами городов, которые располагались на полноводных реках.




*Паўночны банк (былы гарадскі тэатр) на Саборнай (Свабоды) плошчы. Пачатак 20 ст.*

*Северный банк (бывший городской театр) на Соборной (Свободы) площади. Начало 20 в.*

*The North bank ( the former city theatre) in the Cathedral Square (Liberty Square). The beginning of the 20th century.*

В 50-х г. 19 в. ярмарочная торговля в Минске свертывалась, уступая место стационарной. Количество лавок в городе возросло в 1800–1861 гг. со 124 до 594. В розничной торговле середины 19 в. было занято до $^1/_3$ горожан. Выбор товаров, правда, не отличался разнообразием и изысканностью. В большинстве лавок торговали продуктами питания и спиртными напитками. Торговцы ярмарок, содержатели постоялых дворов ориентировались на обслуживание простого люда. И поэтому, когда в Минск со всей губернии съезжались шляхетские семьи на сеймики для избрания ор-

саматэрыялы, запалкі. Адсюль адпраўляліся і тавары, вытворчасць якіх была наладжана непасрэдна ў горадзе.

З канца 19 ст. даволі інтэнсіўна развіваўся гандаль унутры горада. У 1890 г. ў Мінску былі 583 гандлёвыя ўстановы, гадавы тавараабарот якіх складаў 3,6 млн. рублёў. У 1913 г. колькасць усіх гандлёвых прадпрыемстваў



*Гасцініца «Еўропа». Пачатак 20 ст. Зараз адбудоўваецца занава.*

*Гостиница «Европа». Начало 20 в. Сейчас отстраивается заново.*

*Hotel «Europe». The beginning of the 20th century. In its place there is a boulevard at the corner of Lenin street and Liberty Square.*

дасягнула 1333, а іх тавараабарот павялічыўся да 27,2 млн. рублёў. У пачатку 20 ст. галоўнае месца ў гандлі займалі прамысловыя тавары. На іх долю прыпадала каля палавіны гарадскога тавараабароту. Другое месца належала бакалейным таварам. Затым ішлі сельскагаспадарчыя прадукты, лес і лесаматэрыялы, алкагольныя напіткі, спажыванне якіх вырасла ў Мінску з 1900 да 1913 г. амаль удвая. Горад вылучаўся празмерна густой сеткай пунктаў рознічнага гандлю. Дробныя гандляры з ахвотай збывалі свае тавары жыхарам прылеглых да Мінска сельскіх паселішчаў.

ганов сословного самоуправления, то с собой везли многочисленную службу, кухню и продовольственные запасы. Розничная торговля концентрировалась на Высоком рынке (сейчас площадь Свободы). Лучшие из торговых лавок располагались в двухэтажном каменном Гостином дворе, стоявшем посреди площади (стоит и теперь после реставрации). До 1840-х г. еженедельно и в период ярмарки торги проводились на площади Нового рынка (сейчас Центральный сквер). Торговля продуктами питания велась на Низком рынке (теперь район улицы Немиги), где находились мясные и рыбные ряды и так называемые сундуки или временные лавки. Крупный сельскохозяйственный базар устраивался на рыночной площади Троицкой горы (теперь район оперного театра).

До конца 19 в. Минск превратился в важнейший торговый центр Беларуси. Среди железнодорожных станций белорусского региона он имел самый значительный грузооборот — 9,3 млн. пудов в 1899 г. и 20,3 млн. пудов в 1913 г. Минск стал крупнейшим центром транзитной торговли лесом, зерном и текстилем. Город исполнял функции крупного распределителя товаров в Минской, Могилевской и частично Витебской губерниях. Из-за границ Белорусского края по железной дороге сюда привозили хлеб, соль, сахар, чай, сельдь, виноградное вино, каменный уголь, керосин, металл, машины и оборудование. Важная роль в привозе принадлежала так называемым мануфактурным товарам. Ситец, полотно, полушерстяные ткани, платки пользовались тогда в Беларуси устойчивым спросом. Через город в большом количестве шли товары, которые производились в местном регионе и предназначались для всероссийского рынка: продукты животноводства, овощи, яблоки, рыба, конопляное масло, дрова, лес и лесоматериалы, спички. Отсюда отправлялись и товары, производство которых было налажено непосредственно в городе.

С конца 19 в. довольно интенсивно развивалась торговля внутри города. В

Рэпутацыя Мінска як значнага гандлёвага цэнтра садзейнічала таму, што горад прыцягваў да сябе ўвагу іншагародніх фірм. У сярэдзіне 90-х г. 19 ст. тут мелі агенцтвы і склады 5 акцыянерных таварыстваў (4 маскоўскія і віленскае), а ў 1913 г. – каля 20, у тым ліку 7 з праўленнем у Пецярбургу, 6 – у Маскве, 3 – у Варшаве, 2 – у Вільні і па аднаму з праўленнем у Харкаве і Архангельску. Агульнарасійскія манапалістычныя аб'яднанні кантралявалі ў Мінску продаж металаў і нафтапрадуктаў («Прадамет», «Бр. Нобель», «Мазут»), пецярбургскія акцыянерныя таварыствы – рэалізацыю швейных машын («Кампанія Зінгер») і гумавых вырабаў («Трохвугольнік»), маскоўскія – продаж тканін, парфумы, чаю і часткова гатовага адзення, лесу. Два акцыянерныя таварыствы, што ўзніклі ў металаапрацоўчай прамысловасці Варшавы, пастаўлялі ў Мінск асобныя віды металічных вырабаў і машын. Віленскія акцыянерныя таварыствы кантралявалі кнігагандаль («Лектар») і продаж піва. Важную ролю ў аптовым гандлі (і асабліва ў мануфактурна-галантарэйным) адыгрывалі мясцовыя гандлёвыя дамы. У 1913 г. іх у Мінску было 39. Гандлёвы дом «П. і І. Данішэўскія» меў агенцтва ў Лондане.

З 1906 г. ў горадзе працавала Лясная біржа. Праз два гады пры ёй пачаў ладзіцца лясны кірмаш, які атрымаў назву «Калядны». У 1912 г. мінскія прадпрымальнікі дамагліся пераўтварэння Лясной біржы ў агульнатаварную. Штодзённы гандаль сельскагаспадарчымі таварамі працягваўся на двух буйнейшых рынках – Нізкім і Траецкім. Горад займеў новыя рынкі: Малочны (раён рэстарана «Журавінка») і Конскі (паміж плошчай Я.Коласа і вуліцай Варвашэні). Сельскагаспадарчыя базары і базарчыкі збіраліся на Юбілейнай ці Татарскай плошчы, Ляхаўцы, Ігуменскім тракце, Каломенскай і Маскоўскай вуліцах.

Першая сусветная вайна парушыла гандлёвае жыццё Мінска. Наплыў бе-

1890 г. в Минске были 583 торговых учреждения, годовой товарооборот которых составлял 3,6 млн. рублей. В 1913 г. количество всех торговых предприятий достигло 1333, а их товарооборот увеличился до 27,2 млн. руб. В начале 20 в. главное место в торговле занимали промышленные товары. На их долю приходилось около половины городского товарооборота. Второе место принадлежало бакалейным товарам. Потом шли сельскохозяйственные продукты, лес и лесоматериалы, алкогольные напитки, употребление которых возросло в Минске с 1900 до 1913 г. почти вдвое. Город выделялся густой сеткой точек розничной торговли. Мелкие торговцы охотно сбывали свои товары жителям прилегающих к Минску сельских поселений.

Репутация Минска как значительного торгового центра способствовала тому, что город привлекал к себе внимание иногородних фирм. В середине 90-х г. 19 в. здесь имели агентства и склады 5 акционерных обществ (4 московских и виленское), а в 1913 г. – уже около 20, в том числе 7 с правлением в Петербурге, 6 – в Москве, 3 – в Варшаве, 2 – в Вильно и по одному с правлением в Харькове и Архангельске. Общероссийские монополистические объединения контролировали в Минске продажу металлов и нефтепродуктов («Продамет», «Бр. Нобель», «Мазут»), петербургские акционерные общества – реализацию швейных машин («Компания Зингер») и резиновых изделий («Треугольник»), московские – продажу тканей, парфюмерии, чая и частично готовой одежды, леса. Два акционерных общества, возникших в металлообрабатывающей промышленности Варшавы, поставляли в Минск отдельные виды металлических изделий и машин. Виленские акционерные общества контролировали книготорговлю («Лектор») и продажу пива. Важную роль в оптовой торговле (и особенно в мануфактурно-галантерейной) играли местные торговые дома. В 1913 г. их было в Минске

жанцаў і вайскоўцаў быў настолькі вялікі, што горад не спраўляўся з назапашваннем неабходных прадуктаў харчавання. Становішча ўскладнялася занядадам сельскай гаспадаркі, разваламтранспарту, безадказнасцю царскай адміністрацыі.

***Прамысловасць.*** У 1800 г. больш за $^1/_3$ амаль сямітысячнага гарадскога насельніцтва займалася рамесніцтвам. Да 1890 г. захоўвалася цэхавая арганізацыя. Асноўную масу рамеснікаў складалі шаўцы і краўцы. Славіліся сваімі вырабамі капялюшнікі. Пасля адмены прыгону ў 1861 г. эканамічнае жыццё ў горадзе ажывілася, але росквіту прамысловасць не дасягнула. Амаль да канца 19 ст. Мінск заставаўся пераважна рамесным горадам з асобнымі больш-менш буйнымі мануфактурамі, дзе выраблялася палатно, апрацаваныя скуры (занятак татар), свечкі, тытунь. Існавала некалькі піваварняў, медаварняў, пякарняў, цагельняў, лесапільняў.

Індустрыялізацыя Мінска пачалася ў канцы 19 – пачатку 20 ст. У 1895 г. ў горадзе налічвалася 18 фабрык і заводаў і столькі ж мануфактур. У 1913 г. тут дзейнічала ўжо 77 фабрык і заводаў, 27 мануфактур. Фабрычныя і мануфактурныя прадпрыемствы складалі адносна буйную прамысловасць Мінска. Калі ў 1895 г. на іх было занята 1,4 тыс. рабочых і выраблялася прадукцыі на 1,9 млн. рублёў, то ў 1913 г. – адпаведна 5,1 тыс. рабочых і 11,5 млн. рублёў. Да пачатку першай сусветнай вайны Мінск ператварыўся ў буйнейшы для таго часу прамысловы цэнтр Беларусі.

Прамысловая вытворчасць спецыялізавалася на перапрацоўцы мясцовай сыравіны: сельскагаспадарчых прадуктаў, мінеральных выкапняў, драўніны. Напярэдадні першай сусветнай вайны нароўні з харчовай шырокае развіццё атрымалі абутковая і шпалерная прамысловасць, вытворчасць будаўнічых матэрыялаў і шкла. Прадукцыя мінскіх гарбарных, абутковых, мылаварных заводаў знайшла рынак збыту на Украіне, Каўказе, у Паволжы, Сібіры, Турке-

39. Торговый дом «П. и И. Данишевские» имел агентство в Лондоне.

С 1906 г. в городе работала Лесная биржа. Через два года при ней начала действовать лесная ярмарка, которая получила название «Колядная». В 1912 г минские предприниматели добились преобразования Лесной биржи в общетоварную. Ежедневная торговля сельскохозяйственными товарами продолжалась на двух крупнейших рынках – Низком и Троицком. Город приобрел новые рынки: Молочный (район ресторана «Журавинка») и Конский (между площадью Я.Коласа и улицей Варвашени). Сельскохозяйственные базары и базарчики собирались на Юбилейной или Татарской плошади, Ляховке, по Игуменскому тракту, Коломенской и Московской улицам.

Война нарушила торговую жизнь Минска. Наплыв беженцев и военных был настолько велик, что город не справлялся с накоплением необходимых продуктов питания. Положение усложнялось упадком сельского хозяйства, развалом транспорта, безответственностью царской администрации.

***Промышленность.*** В 1800 г. более $^1/_3$ почти семитысячного городского населения занималось ремесленичеством. До 1890 г. сохранялась цеховая организация. Основную массу ремесленников составляли портные и сапожники. Славились своими изделиями шапочники. После отмены крепостного права в 1861 г. экономическая жизнь в городе оживилась, но расцвета промышленности не наступило. Почти до конца 19 в. Минск оставался преимущественно ремесленным городом с отдельными более-менее крупными мануфактурами, где изготавливалось полотно, обработанные шкуры (занятие главным образом татар), свечи, табак. Существовало несколько пивоваренных, медоваренных, кирпичных заводов, пекарен, лесопилок.

Индустриализация Минска началась в конце 19 – начале 20 в. В 1895 г. в городе насчитывалось 18 фабрик и заводов и столько же мануфактур. В 1913 г.

станскім краі, часткова – у Маскве і Варшаве, вырабы мінскіх шклозаводаў даставляліся ў Палтаву, Вільню, Маскву, дрожджы – у Польшчу.

Хутка рос попыт на сельскагаспадарчыя прылады, металічныя вырабы бытавога прызначэння, на абсталяванне для фабрык і заводаў, што прывяло да арганізацыі ў канцы 19 – пачатку 20 ст. чыгуналіцейнай, машынабудаўнічай і металаапрацоўчай вытворчасці. Буйнейшыя заводы (Кашарскі, Вакзальны) належалі таварыству «Якабсон, Ліфшыц і К°». Працавалі чыгуначныя майстэрні. Металаапрацоўчая галіна стала вядучай у гарадской прамысловасці. Разам з Пінскам, Гомелем і Віцебскам Мінск з'яўляўся адным з цэнтраў металаапрацоўчай прамысловасці Беларусі. У ім сканцэнтраваліся 21,8% рабочыхметалістаў. Дзякуючы развіццю машынабудаўнічай вытворчасці горад актыўна ўплываў на распаўсюджванне фабрычных форм прамысловасці ў сельскай мясцовасці. Практычна пры ўсіх 5 машынабудаўнічых заводах Мінска працавалі тэхнічныя бюро і канторы. Выконваючы заказы прадпрымальнікаў, яны забяспечвалі будаўніцтва і рамонт млыноў, лесапілак, маслабойных, крухмаль-




*Фірменны бланк таварыства «Якабсон, Ліфшыц і К°».*
*Фирменный бланк товарищества «Якобсон, Лифшиц и К°».*
*A letterhead of the company «Yakobson, Lifshits & C°».*

здесь действовало уже 77 фабрик и заводов, 27 мануфактур. Фабричные и мануфактурные предприятия составляли относительно крупную промышленность Минска. Если в 1895 г. на них было занято 1,4 тыс. рабочих и изготовлялось продукции на 1,9 млн. рублей, то в 1913 г. – соответственно 5,1 тыс. рабочих и 11,5 млн. рублей. К началу первой мировой войны Минск превратился в крупнейший для того времени промышленный центр Беларуси.

Промышленное производство специализировалось на переработке местного сырья: сельскохозяйственных продуктов, минеральных ископаемых, древесины. Накануне первой мировой войны наряду с пищевой широкое развитие получила обувная и обойная промышленность, производство стройматериалов и стекла. Продукция минских кожевенных, обувных, мыловаренных заводов нашла рынок сбыта на Украине, Кавказе, в Поволжье, Сибири, Туркестанском крае, частично – в Москве и Варшаве, изделия минских стеклозаводов доставлялись в Полтаву, Вильно, Москву, дрожжи – в Польшу.

Быстро увеличивавшийся спрос на сельскохозяйственные орудия труда,

ных, вінакурных заводаў, мантаж на прамысловых прадпрыемствах рухавікоў, помпаў, іншых тэхнічных прыстасаванняў, устаноўку электраасвятлення.

Дробная вытворчасць развівалася пераважна за кошт пашырэння сферы паслуг. У 1895 г. ў Мінску працавала 5 тыс. рамеснікаў, у 1913 г. – 7,2 тыс. Шаўцы, краўцы, мадысткі, капялюшнікі, пальчатнікі складалі 40,6% ад усіх занятых рамяством (1895). Рамесніцкія вырабы часта паспяхова канкуравалі з фабрычнымі, бо былі больш танныя, і карысталіся шырокім попытам у сялян.



*Вуліца Казьмадзям'янаўская – адзіная вуліца Мінска 19 ст., забудаваная выключна камяніцамі. Зараз тэрыторыя паміж Свята-Духаўскім саборам і ўваходам у станцыю метро «Няміга». Фота 1930 г.*

*Улица Козьмодемьяновская – единственная улица Минска 19 в., застроенная исключительно каменными домами. Сейчас территория между Свято-Духовским собором и входом на станцию метро «Немига». Фото 1930 г.*

*Kozmodemianovskaya street, the only street of 19th century Minsk which is built up exclusively with the stone buildings. At present there is a territory between the Holy Ghost Cathedral and the Nemiga metro station entrance. Photo of 1930.*

З пачаткам вайны прамысловыя прадпрыемствы згортвалі вытворчасць з-за недахопу рабочай сілы, сыравіны і цяжкасцей збыту. Колькасць рамеснікаў

металлические изделия бытового назначения, на оборудование для фабрик и заводов вызвал появление в конце 19 – начале 20 в. чугунолитейного, машиностроительного производства и металлообработки. Крупнейшие заводы (Кошарский, Вокзальный) принадлежали товариществу «Якобсон, Лифшиц и К°». Работали железнодорожные мастерские. Металлообрабатывающая отрасль стала ведущей в городской промышленности. Минск наряду с Пинском, Гомелем и Витебском являлся одним из центров металлообрабатывающей промышленности Беларуси. В нем сосредоточивалось 21,8% рабочих-металлистов. Благодаря развитию машиностроения город активно влиял на распространение фабричных форм промышленности в сельской местности. Практически при всех 5 машиностроительных заводах Минска работали технические бюро и конторы. Выполняя заказы предпринимателей, они обеспечивали строительство и ремонт мельниц, лесопилок, маслобойных, крахмальных, винокуренных заводов, монтаж на промышленных предприятиях двигателей, насосов и других технических приспособлений, устройство электроосвещения.

Мелкое производство развивалось главным образом за счет расширения сферы услуг. В 1895 г. в Минске работало 5 тыс. ремесленников, в 1913 г. – 7,2 тыс. Сапожники, портные, модистки, шляпники, перчаточники составляли 40,6% всех занятых ремеслом (1895 г.). Ремесленные изделия часто успешно конкурировали с фабричными, так как были более дешевыми и пользовались широким спросом у крестьян.

С началом войны промышленные предприятия свертывали производство из-за недостатка рабочей силы, сырья и трудностей реализации. Количество ремесленников резко сократилось. Приближение фронта вызвало вывоз промышленного оборудования в глубь России. До конца 1915 г. из Минска было эвакуировано 11 крупнейших предприятий. Стабилизация линии фронта при-

рэзка скарацілася. Набліжэнне фронту выклікала вываз прамысловага абсталявання ў глыб Расіі. Да канца 1915 г. з Мінска было эвакуіравана 11 буйнейшых прадпрыемстваў. Стабілізацыя лініі фронту спыніла эвакуацыю. Узмацніўся перавод мясцовай прамысловасці на вытворчасць тавараў для патрэб вайны. У Мінску разгортваліся шматлікія тылавыя службы, артылерыйскія, аўтамабільныя, чыгуначныя і авіяцыйныя майстэрні. Салдаты-франтавікі добра ведалі выраблeныя ў Мінску маскі-акуляры і сухары.

***Крэдыт.*** Гаспадарамі становішча на мясцовым крэдытным рынку ў пачатку 19 ст. выступалі ліхвяры, якія бралі да 60% гадавых. Па меры развіцця гандлёвых абаротаў ліхвяры прыступалі да ўліку гандлёвых вэксаляў і называлі сябе дыскантэрамі (прыватныя асобы, якія займаліся ўлікам вэксальных абавязацельстваў). Некаторыя станавіліся ўладальнікамі банкірскіх кантор. Развіццё крэдытных кааператываў паступова падрывала дыскантэрны промысел.

У 1870-х г. на беларускім рынку былі назапашаны значныя вольныя грашовыя сродкі, сканцэнтраваныя галоўным чынам у Мінску. У 1873 г. адкрыўся Мінскі камерцыйны банк – першы ў Беларусі, а ў 1880-х г. у горадзе пачалі дзейнічаць аддзяленні агульнарасійскіх банкаў. Да канца 19 ст. быў створаны шэраг крэдытных таварыстваў і ашчадных кас. Мінск з'яўляўся тады буйнейшым крэдытным цэнтрам так званага Паўночна-Заходняга краю (Беларусь і Літва). Такога становішча ён дасягнуў таму, што забяспечваў грашовымі сродкамі фактычна ўвесь лясны гандаль Беларусі з Украінай і часткова з Германіяй і Англіяй, на фінансаванне якога ў мінскія аддзяленні банкаў сцякаліся капіталы з усёй краіны. Акрамя таго, буйны банкаўскі капітал выяўляў вялікую зацікаўленасць продажам зямлі. Вялікае пашырэнне атрымаў іпатэчны крэдыт.

Банкаўскай пазыкай маглі карыстацца толькі буйныя прадпрымальнікі, дыскантэры, банкірскія канторы, а так-

остановила эвакуацию. Усилился перевод местной промышленности на производство товаров для нужд войны. В Минске развертывались многочисленные тыловые службы, артиллерийские, автомобильные, железнодорожные и авиационные мастерские. Солдаты-фронтовики хорошо знали изготовленные в Минске маски-очки и сухари.

***Кредит.*** Хозяевами положения на местном кредитном рынке в начале 19 в. выступали ростовщики, взимавшие до 60% годовых. По мере развития торговых оборотов ростовщики приступали к учету торговых векселей и называли себя дисконтерами (частные лица, занимавшиеся учетом вексельных обязательств). Некоторые становились владельцами банкирских контор. Развитие кредитных кооперативов постепенно подрывало дисконтерный промысел.

В 1870-х г. на белорусском рынке были накоплены значительные свободные денежные средства, сконцентрированные главным образом в Минске. В 1873 г. открылся Минский коммерческий банк – первый в Беларуси, а в 1880-х г. в городе начали действовать отделения общероссийских банков. До конца 19 в. был создан ряд кредитных товариществ и сберкасс. Минск являлся тогда крупнейшим кредитным центром так называемого Северо-Западного края (Беларусь и Литва). Такого положения он достиг потому, что обеспечивал денежными средствами фактически всю лесную торговлю Беларуси с Украиной и частично с Германией и Англией, на финансирование которой в минские отделения банков стекались капиталы со всей страны. Кроме того, крупный банковский капитал обнаруживал большую заинтересованность продажами земли. Большое распространение получил ипотечный кредит.

Банковским кредитом могли пользоваться только крупные предприниматели, дисконтеры, банкирские конторы, а также общества взаимного кредита, служившие посредниками между банками и мелким производством, между банка-

сама таварыствы ўзаемнай пазыкі, якія служылі пасрэднікамі паміж банкамі і дробнай вытворчасцю, паміж банкамі і рознічным гандлем. У 1913 г. ў Мінску налічваліся 4 таварыствы ўзаемнай пазыкі, 11 дыскантэраў і ўладальнікаў банкірскіх кантор. У 1913 г. абароты 9 таварыстваў узаемнай пазыкі Віцебска, Пінска, Магілёва, Бабруйска, Гомеля



*Жылы дом канца 18 ст. на Валоцкай (Інтэрнацыянальнай) вуліцы. Знаходзіўся насупраць сядзібы Ваньковічаў. Фота 1933 г.*

*Жилой дом конца 18 в. на Волоцкой (Интернациональной) улице. Находился напротив усадьбы Ваньковичей. Фото 1933 г.*

*A dwelling house of the end of the 18th century in Volotskaya (Internatsionalnaya) street. It was situated opposite the Vankoviches' mansion. Photo of 1933.*

складалі 127,6 млн. рублёў, у той час як абароты толькі 2 мінскіх таварыстваў – 112,8 млн. Захоўвалася прастора і для дзейнасці ліхвяроў. Яны фінансавалі лясны гандаль, удзельнічалі ў спекулятыўных здзелках вакол продажу размешчаных пераважна ў Мінскай губерні зямельных уладанняў княгіні Гагенлоэ, гандлявалі грашыма па ўсёй Расіі, але ў асабліва моцнай залежнасці ад сябе трымалі дробных прадпрымальнікаў горада.

У сувязі з пераарыентацыяй ляснога гандлю з украінскага на заходні ры-

ми и розничной торговлей. В 1913 г. в Минске насчитывались 4 общества взаимного кредита, 11 дисконтеров и владельцев банкирских контор. В 1913 г. обороты 9 обществ взаимного кредита Витебска, Пинска, Могилева, Бобруйска, Гомеля составляли 127,6 млн. рублей, в то время как обороты только 2 минских обществ – 112,8 млн. Сохранялось пространство и для деятельности ростовщиков. Они финансировали лесную торговлю, участвовали в спекулятивных сделках вокруг продажи расположенных преимущественно в Минской губернии земельных владений княгини Гогенлоэ, торговали деньгами по всей России, но в особенно крепкой зависимости от себя держали мелких предпринимателей города.

В связи с переориентацией лесной торговли с украинского на западный рынок банковский кредит в Минске все более направлялся в промышленность и сельское хозяйство. Так, минской банкирской конторе Поляка и Вейсбрема принадлежали фанерный и 2 лесопильных завода в Старых Дорогах. В июне 1905 г. при минском отделении Северного банка был создан «Комитет спичечных фабрикантов Западного края». Реализация белорусских спичек оказалась в руках объединения банковских магнатов с крупными владельцами спичечных фабрик. Это позволило им установить монопольные цены и вытеснить из местного рынка, а также рынка некоторых других районов Российской империи фабрикантов внутренних губерний России. Тогда же в Москве образовалось аналогичное объединение, которое через два года слилось с минским комитетом спичечных фабрикантов в общероссийское под названием «Русское общество спичечной торговли».

В качестве важного кредитного центра Минск привлекал к себе внимание разных общероссийских монополий. Здесь, в частности, находилось представительство крупного монополистического объединения «П. и И. Данишевские», контролировавшего в России смо-

нак банкаўская пазыка ў Мінску ўсё больш накіроўвалася ў прамысловасць і сельскую гаспадарку. Так, мінскай банкірскай канторы Поляка і Вейсбрэма належалі фанерны і два лесапільныя заводы ў Старых Дарогах. У чэрвені 1905 г. пры мінскім аддзяленні Паўночнага банка быў створаны «Камітэт запалкавых фабрыкантаў Заходняга краю». Рэалізацыя беларускіх запалак апынулася ў руках аб'яднання банкаўскіх магнатаў з буйнымі ўладальнікамі запалкавых фабрык. Гэта дазволіла ім устанавіць манапольныя цэны і выцесніць з мясцовага рынку, а таксама з рынку некаторых іншых раёнаў Расійскай імперыі, фабрыкантаў унутраных губерняў Расіі. Тады ж у Маскве ўзнікла аналагічнае аб'яднанне, якое праз два гады злілося з мінскім камітэтам запалкавых фабрыкантаў у агульнарасійскае пад назвай «Рускае таварыства запалкавага гандлю».

У якасці важнага пазыковага цэнтра Мінск прыцягваў да сябе ўвагу розных агульнарасійскіх манаполій. Тут, у прыватнасці, знаходзіліся прадстаўніцтва буйнога манапалістычнага аб'яднання «П. і І. Данішэўскія», якое кантралявала ў Расіі смалакурную вытворчасць, і праўленне фірмы «Прадакон», якому падначальваліся віленскія, брэсцкія і адэскія гаспадары фабрык па вырабе канвертаў.

***Гарадская гаспадарка.*** У першай палове 19 ст. асноўнай крыніцай даходаў гарадскога бюджэту былі паступленні ад арэнднай платы за карыстанне муніцыпальнымі землямі. Гарадскія сродкі траціліся на арганізацыю ваенных пастояў, утрыманне царскай адміністрацыі і органаў гарадскога самакіравання. Невялікая рэшта заставалася на добраўпарадкаванне горада – пераважна рамонт вуліц, іх газавае асвятленне.

Рынкавыя адносіны пашыраліся ў гарадской гаспадарцы вельмі марудна. Да сярэдзіны 19 ст. гарадская дума ўсё больш звярталася да паслуг падрадчыкаў, але любое рашэнне гарадскога кіравання мог прыпыніць губернатар. Ён жа

локуренное производство, и правление фирмы «Продакон», которому подчинялись виленские, брестские и одесские владельцы конвертных фабрик.

***Городское хозяйство.*** В первой половине 19 в. основным источником доходов городского бюджета были поступления от арендной платы за пользование муниципальными землями. Городские средства тратились на организацию военных постоев, содержание царской администрации и органов городского самоуправления. Небольшой остаток предназначался на благоустройство города – преимущественно на ремонт улиц, их керосиновое освещение.



*Так выглядала галоўная вуліца Мінска Захар'еўская ў 1914 г. Яе шырыня – 22 м. Цяпер праспект Незалежнасці (шырыня 48 м) каля кнігарні «Цэнтральная».*

*Так выглядела главная улица Минска Захарьевская в 1914 г. Ее ширина – 22 м. Ныне проспект Независимости (ширина 48 м) возле книжного магазина «Центральный».*

*The view of the main street in Minsk, Zakharievskaya, in 1914. Its width was 22 m. Now it is Independence Avenue (its width is 48 m) near the bookshop «Central».*

Рыночные отношения распространялись в городском хозяйстве очень медленно. К середине 19 в. городская дума все более обращалась к услугам подрядчиков, но любое решение городского управления мог приостановить губерна-

зацвярджаў каштарысы даходаў і расходаў горада. Пасля далучэння Мінска да агульнарасійскай чыгуначнай сеткі капіталізацыя гарадской гаспадаркі паскорылася. У 1873 г. горад займеў уласны водаправод. У перыяд 1890–1914 гг., які французы назвалі «цудоўнай эпохай», здабыткі гарадской цывілізацыі даволі хутка даходзілі і да мінчан: веласіпед



*Перон Віленскага вакзала. Цяпер станцыя Мінск-Пасажырскі. Пачатак 20 ст.*

*Перрон Виленского вокзала. Ныне станция Минск-Пассажирский. Начало 20 в.*

*Vilnia station platform. Now it is Minsk – Passenger station. The beginning of the 20th century.*

(1890), конна-чыгуначная дарога (1892), электраасвятление (1895), тэлефон (1896), першы аўтамабіль (1906), матацыклы і заасфальтаваныя вуліцы (1910). У 1890-х г. і ў пачатку 20 ст. назіраўся будаўнічы ўздым. Назапашаныя ў лясным гандлі капіталы ўкладваліся ў нерухомую маёмасць. Будаваліся шматпавярховыя камяніцы. У самай высокай з іх – шасціпавярховым атэлі «Еўропа» – быў устаноўлены ліфт (1908).

Мінск меў буйнейшы ў Беларусі гарадскі бюджэт. Гарадская гаспадарка і паступленні ад падаткаў давалі яму ў 1890–1892 гг. 343 тыс. рублёў прыбытку, а ў 1911–1912 гг. – 1079 тыс. рублёў. Больш як палова гэтых сум ішла на

тор. Он же утверждал сметы доходов и расходов города. После включения Минска в общероссийскую железнодорожную сеть, капитализация городского хозяйства ускорилась. В 1873 г. город получил собственный водопровод. В период 1890–1914 гг., названный французами «чудесной эпохой», достижения городской цивилизации довольно быстро доходнли и до минчан: велосипед (1890), конно-железная дорога (1892), электроосвещение (1895), телефон (1896), первый автомобиль (1906), мотоциклы и заасфальтированные улицы (1910). В 1890-х г. и в начале 20 ст. наблюдался строительный бум. Накопленные в лесной торговле капиталы вкладывались в иедвижимую собственность. Строились многоэтажные каменные дома. В самом высоком – шестиэтажиой гостинице «Европа» – был установлен лифт (1908).

Минск имел крупнейший в Беларуси городской бюджет. Городское хозяйство и поступления от налогов давали ему в 1890–1892 гг. 343 тыс. рублей прибыли, а в 1911–1912 г. – 1079 тыс. рублей. Более половины этих сумм шло на содержание правительственых учреждений, войск, полиции, городского управлеиия, на погашение кредита и уплату государственных налогов. Перечисленные расходы являлись обязательными. Город мог иаправить свои средства на благоустройство, образование, медицинскую помощь, благотворительность, на содержание городского имущества и предприятий только после исполнения обязательиых расходов. Поэтому Минск постоянно ощущал финансовые трудности. Долг его частным банкам увеличился со 146 тыс. рублей в 1890 г. до 2 млн. рублей в 1914 г.

## 3. ГОРОДСКОЙ ПЕЙЗАЖ: ТЕРРИТОРИЯ И ЗАСТРОЙКА

***Площадь города.*** Период с конца 18 до начала 20 в. характерен значительным ростом территории города. Если в 1800 г. площадь Минска в пределах городской черты составляла около 600 га,

ўтрыманне ўрадавых устаноў, войск, паліцыі, гарадскога кіравання, на пагашэнне пазыкі і выплату дзяржаўных падаткаў. Пералічаныя выдаткі з'яўляліся абавязковымі. Горад мог накіроўваць свае сродкі на добраўпарадкаванне, адукацыю, медыцынскую дапамогу, дабрачыннасць, на ўтрыманне гарадской маёмасці і прадпрыемстваў толькі пасля выканання абавязковых выдаткаў. Таму Мінск пастаянна адчуваў фінансавыя цяжкасці. Доўг яго прыватным банкам павялічыўся з 146 тыс. рублёў у 1890 г. да 2 млн. рублёў у 1914 г.

### 3. ГАРАДСКІ ПЕЙЗАЖ: ТЭРЫТОРЫЯ І ЗАБУДОВА

***Плошча горада.*** Перыяд з канца 18 да пачатку 20 ст. адметны значным ростам тэрыторыі горада. Калі ў 1800 г. плошча Мінска ў гарадскіх межах складала каля 600 га, то ў 1891 г. – 1858 га, а ў 1913 г. – ужо 5921 га. Пад забудовай у 1800 г. было толькі 305 га, пад лесам – 460 га, а астатняя тэрыторыя служыла для агародніцтва і земляробства. У межах горада сеялі бульбу, жыта, авёс, іншыя збожжавыя культуры. Гарадская забудова пашыралася, але павольней, чым агульная плошча горада. У 1845 г. гарадскія кварталы займалі 400 га, у 1873 г. – 493 га.

Значнае павелічэнне плошчы Мінска на працягу 19 ст., і асабліва ў пачатку 20 ст., было выклікана, з аднаго боку, эканамічнай неабходнасцю будаўніцтва новых жылых кварталаў, а з другога – жаданнем гарадскіх улад уключыць у гарадскую мяжу муніцыпальныя землі, размешчаныя звонку (у павеце), каб павялічыць іх вартасць пры здачы ў арэнду. Вялікую зацікаўленасць у пашырэнні гарадской плошчы выяўлялі як яўрэйскае насельніцтва, якое не мела права сяліцца і набываць землі па-за гарадской мяжой, так і асобы каталіцкай веры, якія таксама да 1905 г. абмяжоўваліся ў набыцці сельскагаспадарчых угоддзяў, а таму ахвотна набывалі гарадскія пляцы. Хуткае змяненне і неакрэсленасць дакладных межаў горада спараджала шмат

то в 1891 г. – 1858 га, а в 1913 г. – уже 5921 га. Под застройкой в 1800 г. было только 305 га, под лесом 460 га, а остальная территория служила для огородничества и земледелия. В пределах города сеяли картошку, рожь, овес, другие зерновые культуры. Городская застройка расширялась, но медленней, чем общая



*Гарадскі тэатр, пабудаваны ў 1890 г. Сёння – Нацыянальны тэатр імя Янкі Купалы.*

*Городской театр, построенный в 1890 г. Сегодня – Национальный театр имени Янки Купалы.*

*The municipal theatre, built in 1890. At present it is the National Yanka Kupala theatre.*

площадь города. В 1845 г. городские кварталы занимали 400 га, в 1873 г. – 493 га.

Значительное увелнчение площади Минска на протяжении 19 в. и особенно в начале 20 в. было вызвано, с одной стороны, экономической необходимостью строительства новых жилых кварталов, а с другой — желанием городских властей включнть в городскую черту муниципальные земли, расположенные вне города (в повете), чтобы увеличить их ценность при сдаче в аренду. Большую заинтересованность в расширении городской площади проявляли как еврейское население, которое не имело права селиться и приобретать земли вне городской черты, так и лица католичес-

спрэчных спраў паміж гарадскімі ўладамі і жыхарамі прыгарадаў.

Для зручнасці работы паліцыі ўся тэрыторыя горада падзялялася на паліцэйскія часткі, што можна параўнаць з сучасным падзелам на адміністрацыйныя раёны. Да 1864 г. існавалі дзве паліцэйскія часткі, у 2-й палове 1860-х г. была заснавана трэцяя, а ў выніку пашырэння тэрыторыі Мінска ў 1881 і 1899 гг. – адпаведна чацвёртая і пятая.

***Планіровачная структура.*** У канцы 18 – пачатку 19 ст. ў Мінску захоўвалася планіровачная структура 16–17 ст.: радыяльна-веерная вулічная сістэма, калі вуліцы адыходзілі ад цэнтра ў напрамку выездаў з горада. Асаблівасцю гэтай планіровачнай сістэмы ў Мінску было існаванне тут дзвюх цэнтральных плошчаў: Нізкага рынку (плошча 8 Сакавіка) і Высокага рынку (плошча Свабоды). Асноўную транзітную нагрузку несла плошча Нізкага рынку: на ёй сыходзіліся дарогі з Барысава, Вільні, Койданава, Магілёва, Ракава. Да плошчы Высокага рынку вяла дарога з Ігумена і адгалінаванне ад дарогі з Койданава. Галоўны дыяметр Мінска, які перасякаў горад з захаду на ўсход, складаўся з Нямігскай вуліцы, Школьна-Нямігскай (Няміга ад Петрапаўлаўскай царквы да моста цераз Свіслач), плошчы Нізкага рынку і вуліцы Траецкай (пачатак вуліцы Багдановіча). Таксама важнай для горада была вуліца Юр'еўская (Ракаўская), якая пераходзіла за горадам у Ракаўскую дарогу, а таксама Зыбіцкая (Гандлёвая), што ішла ад Нізкага рынку ўздоўж Свіслачы. Вуліца Школьная (эстакада праспекта Пераможцаў) і Казьмадзям'янаўская (пешаходная сцежка ад станцыі метро «Няміга» да Кафедральнага сабора) злучалі дзве галоўныя плошчы Мінска. Некалькі вуліц промнямі разыходзіліся ад плошчы Высокага рынку: Койданаўская (Рэвалюцыйная), Зборавая і Валоцкая (заходні і ўсходні адрэзкі Інтэрнацыянальнай), Францысканская (Леніна), Дамініканская (Энгельса), Бернардынская (Кірылы і Мяфодзія).

кого вероисповедания, которые также до 1905 г. ограничивались в купле сельскохозяйственных угодий, а потому охотно приобретали городские участки. Быстрое изменение и неопределенность точных границ города порождали много спорных дел между городскими властями и жителями пригородов.

Для удобства работы полиции вся территория города делилась на полицейские части, что можно сравнить с современным делением на административные районы. До 1864 г. существовали две полицейские части, во 2-й половине 1860-х г. была основана третья, а в результате увеличения территории Минска в 1881 и 1899 гг. – соответственно четвертая и пятая.

***Планировочная структура.*** В конце 18 – начале 19 в. в Минске сохранялась планировочная структура 16–17 вв.: радиально-веерная уличная система, когда улицы отходили от центра в направлении выездов из города. Особенностью этой планировочной структуры в Минске было существование здесь двух центральных площадей: Низкого рынка (площадь 8 марта) и Высокого рынка (площадь Свободы). Основную транзитную нагрузку несла площадь Низкого рынка: на ней сходились дороги из Борисова, Вильно, Койданово, Могилева, Ракова. К площади Высокого рынка вела дорога из Игумена и ответвление от дороги из Койданово. Главный диаметр Минска, который пересекал город с запада на восток, состоял из Немигской улицы, Школьно-Немигской (Немига от Петропавловской церкви до моста через Свислочь), площади Низкого рынка и улицы Троицкой (начало улицы Богдановича). Также важной для города была улица Юрьевская (Раковская), которая переходила за городом в Раковскую дорогу, а также Зыбицкая (Торговая), что шла от Низкого рынка вдоль Свислочи. Улица Школьная (эстакада проспекта Победителей) и Козьмодемьяновская (пешеходная дорожка от станции метро «Немига» до Кафедрального собора) соединяли две глав-

Адразу пасля ўваходжання Мінска ў склад Расійскай імперыі пры актыўным удзеле мінскага губернскага архітэктара Ф.Крамера быў распрацаваны і ў 1800 г. прыняты першы праектны план развіцця горада. Рэгулярныя планы таксама распрацоўваліся ў 1809, 1817, 1858, 1873, 1890 і 1896 гг. Кожны новы план фіксаваў здзейсненыя змены і прадугледжваў далейшае развіццё і ўпарадкаванне горада.

Удасканальванне планіровачнай структуры, згодна з планам 1800 г., распачалося са знішчэння рэштак земляных умацаванняў, што абкружалі Мінск з захаду, поўдня і ўсходу, выпраўлення і прывядзення да геаметрычна выразнай сістэмы старой вулічнай сеткі. Новая жылая забудова размяшчалася за мяжой былых умацаванняў у паўднёвым напрамку ўздоўж Свіслачы (па цячэнні). Такі напрамак росту гарадской забудовы быў выбраны з-за таго, што, па-першае, у гэтым напрамку знаходзіўся вялікі ўзгорак, зручны для жылога будаўніцтва па санітарных прычынах, і па-другое, тут, у лукавіне Свіслачы, было выбрана месца будаўніцтва казармаў для пастаяннага размяшчэння ў Мінску Растоўскага мушкецёрскага палка Смаленскай дывізіі. Жылыя кварталы гэтага раёна мелі прамавугольную форму і выразную геаметрычную сетку вуліц, якая была створана за кошт працягу ў паўднёвым напрамку вуліц Дамініканскай, Францысканскай і Феліцыянаўскай (Камсамольская), траса якой была выпрамлена з некалькіх крывых завулкаў. Паралельна была пракладзена Кашарская вуліца (Чырвонаармейская), якая злучыла вайсковыя казармы (па польску – кашары) з новазапраектаванай плошчай – Новым рынкам, што стала больш вядома пад назвай «Новамейская» (плошча Новага горада; сёння – Тэатральны сквер каля Купалаўскага тэатра). Перпендыкулярна гэтым вуліцам былі праведзены 3 новыя: Магазінная (Кірава ад Свярдлова да Купалы), якая атрымала назву ад размешчаных непадалёк новых правіянцкіх магазінаў-ные площади Минска. Несколько улиц лучами расходились от площади Высокого рынка: Койдановская (Революционная), Сборовая и Волоцкая (западный и восточный отрезки Интернациональной), Францисканская (Ленина), Доминиканская (Энгельса), Бернардинская (Кирилла и Мефодия).

Сразу после вхождения Минска в состав Российской империи при активном участии минского губернского архитектора Ф.Крамера был разработан и в 1800 г. принят первый проектный план развития города. Регулярные планы также разрабатывались в 1809, 1817, 1858, 1873, 1890 и 1896 гг. Каждый новый план фиксировал осуществленные изменения и предусматривал дальнейшее развитие и благоустройство города.

Усовершенствование планировочной структуры, согласно с планом 1800 г., началось с ликвидации остатков земляных укреплений, что окружали Минск с запада, юга и востока, исправления и приведения к геометрически выразительной системе старой уличной сети. Новая жилая застройка размещалась за пределами бывших укреплений в южном направлении вдоль Свислочи (по течению). Такое направление роста городской застройки было выбрано потому, что, во-первых, в этом направлении находился большой холм, удобный для жилого строительства по санитарным причинам, и, во-вторых, здесь, в излучине Свислочи было выбрано место строительства казарм для постоянного размещения в Минске Ростовского мушкетерского полка Смоленской дивизии. Жилые кварталы этого района имели прямоугольную форму и выразительную геометрическую сеть улиц, которая была создана за счет продолжения в южном направлении улиц Доминиканской, Францисканской и Фелициановской (Комсомольская), трасса которой была выпрямлена из нескольких кривых переулков. Параллельно была проложена Кошарская улица (Красноармейская), которая соединила военные

складоў, Лошыцкая (К.Маркса) і Захараўская (праспект Незалежнасці ад Камсамольскай да цырка). Апошняя стала галоўным дыяметрам Мінска, бо злучыла новыя трасы Барысаўскай і Койданаўскай дарог і фактычна стала шашой Масква – Варшава. Вуліца атрымала па тым часе значныя габарыты – 18–22 м. Намаганнямі першага грама-



*Татарская мячэць. Пачатак 20 ст. Зараз на гэтым месцы рэстаран гасцініцы «Юбілейная».*

*Татарская мечеть. Начало 20 в. Ныне на этом месте ресторан гостиницы «Юбилейная».*

*The Tatar mosque. The beginning of the 20th century. Now it is the hotel «Yubileynaya» restraunt.*

дзянскага губернатара Мінскай губерні Захара Карнеева ў 1800 г. на Захараўскай (вуліца названа, відавочна, у гонар губернатара) быў закладзены Гарадскі сад, у пачатку 20 ст. таксама вядомы як Губернатарскі (парк імя Горкага).

У 1817 г. быў распрацаваны новы праектны план, па якім асноўнай горадабудаўнічай воссю з'яўлялася рака Свіслач, а гарадская забудова размяшчалася шырокай паласой па яе абодвух берагах. Пасля пажару 1809 г., які знішчыў усю левабярэжиую частку горада, пачалося ўрэгуляванне планіровачиай структуры гэтай часткі Мінска

казармы (по-польски – кошары) с запроектированной площадью – Новым рынком, что стала более известной под названием «Новомейская» (площадь Нового города; сегодня – Театральный сквер около Купаловского театра). Перпендикулярно этим улицам были проведены 3 новые: Магазинная (Кирова от Свердлова до Купалы), которая получила название от расположенных неподалеку новых провиантских магазинов-складов, Лошицкая (К.Маркса) и Захаровская (проспект Независимости от Комсомольской до цирка). Последняя стала главным диаметром Минска, ибо соединила новые трассы Борисовской и Койдановской дорог и фактически стала шоссе Москва–Варшава. Улица получила по тем временам значительные габариты – 18–22 м. Усилиями первого гражданского губернатора Минской губернии Захара Корнеева в 1800 г. на Захаровской (улица названа явно в честь губернатора) был заложен Городской сад, в начале 20 ст. также известный как Губернаторский (парк имени Горького).

В 1817 г. был разработан новый проектный план, по которому основной градостроительной осью являлась река Свислочь, а городская застройка размещалась широкой полосой по ее обоим берегам. После пожара 1809 г., который уничтожил всю левобережную часть города, началось урегулироваиие планировочной структуры этой части Минска согласно с планами 1809 и 1817 гг. Центром левобережного Минска стала новая площадь, которая получила название в честь предместья, где была запроектирована, — Троицкая (площадь Парижской коммуны возле оперного театра). Главиой улицей оставалась Троицкая (с середины 19 – Александровская). Была создана прямоугольная сеть новых улиц: Егоровская (Купалы), Старовиленская, Николаевская (Кропоткина), Плебанская (Куйбышева), Старостинская слобода (с 1866 г. Старослободская, сейчас – Сторожевская), Сторожевская (Киселева).

згодна з планамі 1809 і 1817 гг. Цэнтрам левабярэжнага Мінска стала новая плошча, якая атрымала назву ў гонар прадмесця, дзе была запраектавана, – Траецкая (плошча Парыжскай камуны каля опернага тэатра). Галоўнай вуліцай засталася Траецкая (з сярэдзіны 19 ст. – Аляксандраўская). Была створана прамавугольная сетка новых вуліц: Ягораўская (Купалы), Старавіленская, Мікалаеўская (Крапоткіна), Плябанская (Куйбышава), Старосцінская слабада (з 1866 г. Старaслабодская, зараз – Старажоўская), Старажоўская (Кісялёва).

У 40-я г. 19 ст. гандаль з Новамейскай плошчы быў перанесены на іншае месца (квартал паміж сучаснымі вуліцамі Валадарскага, К.Маркса, Камсамольскай і Кірава), а замест закрытых яўрэйскіх могілак (стадыён «Дынама») улады прапанавалі закласці новыя на ўскраіне горада (паміж сучаснай вуліцай Ленінградскай і плошчай Незалежнасці). Чарговы праектны план 1858 г. зафіксаваў гэтыя змены, аднак у астатнім мала чым адрозніваўся ад папярэдняга.

Будаўніцтва праз Мінск Маскоўска-Брэсцкай (1871 г.) і Лібава-Роменскай (1873 г.) чыгунак унесла ў горадабудаўніцтва значныя карэктывы, што прывяло да прыняцця новага праектнага плана (1873 г.). Яўрэйскія могілкі і базар апынуліся якраз паміж двума вакзаламі і горадам, а таму іх хутка закрылі. На іх месцы былі запраектаваны некалькі вуліц (цяпер – Бабруйская, Ленінградская, Свярдлова), а новыя могілкі для пахавання яўрэяў зноў прыйшлося пераносіць ў больш аддаленае месца (сёння сквер на вуліцы Сухой). Горад пачаў імкліва расці ў паўднёва-заходнім напрамку. Улады не паспявалі сачыць за праўядзеннем новых вуліц і ўзвядзеннем пабудоў, а потым доўга і часта безвынікова судзіліся з парушальнікамі.

Новы праектны план Мінска (1890 г.) прадугледжваў доўгатэрміновую перспектыву – у ім акрамя ўжо існуючай забудовы былі запраектаваны дзесяткі новых вуліц на ўскраінах. Аднак шмат-

В 40-е г. 19 в. торговля с Новомейской площади была перенесена на другое место (квартал между современными улицами Володарского, К.Маркса, Комсомольской и Кирова), а вместо закрытого еврейского кладбища (стадион «Динамо») власти предложили заложить новое на окраине города (между современной улицей Ленинградской и




*Мост у Гарадскім садзе (парк імя М.Горкага). Пачатак 20 ст.*

*Мост в Городском саду (парк имени М.Горького). Начало 20 в.*

*A bridge in the city garden (The Gorky park). The beginning of the 20th century.*

площадью Независимости). Очередной проектный план 1858 г. зафиксировал эти изменения, но в остальном мало чем отличался от предыдущего.

Строительство через Минск Московско-Брестской (1871 г.) и Либаво-Роменской (1873 г.) железных дорог внесло в градостроительство значительные коррективы, что привело к принятию нового проектного плана (1873 г.). Еврейское кладбище и рынок оказались как раз между двумя вокзалами и городом, а потому их вскоре закрыли. На их месте было запроектировано несколько улиц (теперь – Бобруйская, Ленинградская, Свердлова), а новое еврейское

лікія памылкі прымусілі гарадскіх улад прыступіць да стварэння новага плана, які быў завершаны ў 1896 г. Гэтым планам карысталіся пры правядзенні новых вуліц на працягу наступных 20 гадоў, хоць і ў ім хапала памылак і недарэчнасцей.

***Архітэктура.*** Адміністрацыйным цэнтрам Мінска з'ўлялася плошча Высокага рынку. Яна ўяўляла сабой вялікі прамавугольнік, па перыметры якога размяшчаліся культавыя будынкі і дамы заможных гараджан, а ў цэнтры – ратуша і вялікі гасціны двор. У будынку былой езуіцкай школы (цяпер у гэтым пераробленым да непазнавальнасці будынку – музычны ліцэй) размясцілася рэзідэнцыя губернатара. Побач, у сценах былога езуіцкага калегіума, знаходзіліся Прысутныя месцы – «офісы» губернскіх чыноўнікаў, а ў памяшканнях ратушы – гарадская ўправа і паліцыя. У перабудаваным у стылі класіцызму будынку мужчынскага базільянскага манастыра (Дом прафсаюзаў Мінскай вобласці) месцілася дваранская школа, якая ў 1803 г. набыла статус губернскай гімназіі.

У канцы 18 – першай палове 19 ст. ў архітэктуры Мінска панаваў класіцызм. Па праектах губернскага архітэктара Ф.Крамера ў гэтым стылі былі перабудаваны для імперскіх патрэб будынкі ратушы, вялікага гасцінага двара, базыльянскага манастыра, узведзены малы гасціны двор. Новы губернскі архітэктар М.Чахоўскі працягваў традыцыю свайго папярэдніка. Пры ім на плошчы Высокага рынку замест драўляных былі пабудаваны каменныя гандлёвыя рады «Віленчукі», ці Пабернардзінскія крамы. Сапраўднай вяхой у архітэктуры горада было знаходжанне на пасадзе губернскага архітэктара К.Хрышчановіча. Па яго праектах, вытрыманых у «класічным» стылі, у сярэдзіне стагоддзя былі ўзведзены вайсковы шпіталь (зараз – корпус Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі), духоўная семінарыя (цяпер – Сувораўскае вучылішча), губернская гімназія. Гімназія на Высокім рынку была перабудавана пад

кладбище пришлось перенести в более отдаленное место (сегодня сквер на улице Сухой). Город начал стремительно расти в юго-западном направлении. Власти не успевали следить за проведением новых улиц и возведением построек, а потом долго и часто безрезультатно судились с нарушителями.

Новый проектный план Минска (1890 г.) предусматривал долговременную перспективу – в нем кроме уже существовавшей застройки были запроектированы десятки новых улиц на окраинах. Однако многочисленные ошибки заставили городские власти приступить к созданию нового плана, который был завершен в 1896 г. Этим планом пользовались при проведении новых улиц на протяжении следующих 20 лет, хотя и в нем хватало ошибок и несуразностей.

***Архитектура.*** Административным центром Минска являлась площадь Высокого рынка. Она представляла собой большой прямоугольник, по периметру которого размещались культовые здания и дома зажиточных горожан, а в центре – ратуша и большой гостиный двор. В здании бывшей иезуитской школы (теперь в этом перестроенном до неузнаваемости здании – музыкальный лицей) разместилась резиденция губернатора. Рядом, в стенах бывшего иезуитского коллегиума, находились Присутственные места – «офисы» губернских чиновников, а в помещениях ратуши – городская управа и полиция. В перестроенном в стиле классицизма здании мужского базилианского монастыря (Дом профсоюзов Минской области) помещалась дворянская школа, которая в 1803 г. получила статус губернской гимназии.

В конце 18 – первой половине 19 в. в архитектуре Минска господствовал классицизм. По проектам губернского архитектора Ф.Крамера в этом стиле были перестроены для имперских нужд здания ратуши, большого гостиного двора, базилианского монастыря, возведен малый гостиный двор. Новый губернский архитектор М.Чеховский продол-

прысутныя месцы, а Траецкі уніяцкі манастыр – пад губернскую бальніцу.

У 1800 г. ў Мінску было толькі 39 «камяніц» і 993 драўляныя жылыя дамы. Пасля пажару 1835 г., калі быў знішчаны амаль увесь Мінск, гарадскія ўлады прынялі рашэнне драўляныя дамы болей не будаваць у цэнтральнай частцы горада. У 1917 г. ў Мінску налічвалася больш за 3000 мураваных будынкаў, з якіх на сёння захавалася менш за 200.

У цэнтры горада другой паловы 19 ст. пераважалі 2–3-павярховыя мураваныя будынкі, якія прыносілі сваім гаспадарам даход у выглядзе кватэрплаты. Шмат «даходных дамоў» было пабудавана ў самым папулярным у канцы 19 – пачатку 20 ст. стылі мадэрн. Некаторыя з іх захаваліся: два дамы на плошчы Незалежнасці, на вуліцы К.Маркса, 30 і інш. На сучаснай вуліцы Кірава знаходзіцца даходны дом Кастравіцкай (насупраць касы стадыёна «Дынама»), у якім на першым паверсе размяшчалася ўпраўленне Лібава-Роменскай чыгункі. На ўскраінах Мінска будаваліся драўляныя хаты, у якіх можна было зняць кватэру за меншую плату.

На былой Навамейскай плошчы ў 1872 г. быў адкрыты Аляксандраўскі (Тэатральны) сквер, а крыху пазней, у 1874 г. там у гонар пабудовы водаправода зрабілі першы фантан – «Амур з лебедзем». Побач са скверам знаходзілася лютэранская кірха (1846) і Архірэйскае падвор'е, а ў самім скверы ў 1890 г. быў пабудаваны Гарадскі тэатр (цяпер Нацыянальны тэатр Я.Купалы).

Характэрнай адметнасцю архітэктуры Мінска 19 ст. стала будаўніцтва праваслаўных цэркваў у рэтраспектыўнарускім стылі, што не было раней тыпова для беларускіх земляў. Шмат мясцовых храмаў перабудоўвалася. Напрыклад, Свята-Духаўскую уніяцкую царкву на працягу аднаго стагоддзя перабудавалі ажно двойчы. Над праваслаўнай Петрапаўлаўскай царквой надбудавалі званіцу ў псеўдарускім стылі. У 1857 г. была знесена мінская ратуша, побач з

жал традицию своего предшественника. При нем на площади Высокого рынка вместо деревянных были построены каменные торговые ряды «Виленчуки», или Побернардинские лавки. Настоящей вехой в архитектуре города было нахождение на должности губернского архитектора К.Хрищеновича. По его проектам, выдержанным в «классическом» стиле, в середине столетия были возведены военный госпиталь (ныне – корпус Национального музея истории и культуры Беларуси), духовная семинария (ныне – Суворовское училище), губернская гимназия. Гимназия на Высоком рынке была перестроена под присутственные места, а Троицкий униатский монастырь – под губернскую больницу.

В 1800 г. в Минске было только 39 каменных и 993 деревянных жилых дома. После пожара 1835 г., когда был уничтожен почти весь Минск, городские власти приняли решение деревянные дома больше не строить в центральной части города. В 1917 г. в Минске насчитывалось более 3000 каменных зданий, из которых на сегодня сохранилось менее 200.

В центре города второй половины 19 в. преобладали 2–3-этажные каменные здания, которые приносили своим хозяевам доход в виде квартплаты. Много «доходных домов» было построено в самом популярном в конце 19 – начале 20 ст. стиле модерн. Некоторые из них сохранились: два дома на площади Независимости, на улице К.Маркса, 30 и др. На современной улице Кирова находится доходный дом Костровицкой (напротив кассы стадиона «Динамо»), в котором на первом этаже размещалось управление Либаво-Роменской железной дороги. На окраинах Минска строились деревянные хаты, в которых можно было снять квартиру за меньшую плату.

На бывшей Новомейской площади в 1872 г. был открыт Александровский (Театральный) сквер, а чуть позже, в 1874 г., там в честь постройки водопровода возвели первый фонтан – «Амур с

якой быў высечаны і сквер з пірамідальных таполяў. Праўда, сквер у канцы стагоддзя аднавілі і паставілі там у 1900 г. помнік Аляксандру II. Палітыка распаўсюджвання ў архітэктуры рускага стылю асабліва ўзмацнілася пасля паўстання 1863–1864 гг. Пасля падаўлення паўстання жаночы бернардзінскі манастыр перадалі праваслаўным (цяпер тут Кафедральны сабор), а мужчынскі перарабілі пад гаўптвахту і архіў.



*Касцёл св. Сымона і Алены. Пабудаваны ў 1910 г. Выгляд з вуліцы Базарнай (пешаходны праход ад вуліцы Ленінградскай да плошчы Незалежнасці).*

*Костел св. Симеона и Елены. Построен в 1910 г. Вид с улицы Базарной (пешеходный проход от улицы Ленинградской до площади Независимости).*

*The Catholic church of SS. Simeon and Helena. Built in 1910. A view from Bazarnaya street (a footpath from Leningradskaya street to Independence Square).*

***Вуліцы і іх назвы.*** У 1866 г. «Минские губернские ведомости» паведамілі, што 17 вуліц і завулкаў Мінска змянілі свае назвы. Гэта была спроба абмежавання каталіцкага, «польскага» ўплыву. Францысканская (Леніна) стала Губернатарскай, напэўна таму, што на ёй знаходзіўся дом губернатара, Феліцыянаўская (Камсамольская) – Багадзельнай, бо там месцілася гарадская багадзельня, Зборавая (заходняя частка Інтэрнацыянальнай) – Турэмнай, таму што злучала

лебедем». Рядом со сквером находилась лютеранская кирха (1846) и Архиерейское подворье, а в самом сквере в 1890 г. был построен Городской театр (ныне Национальный театр имени Я.Купалы).

Характерным отличием архитектуры Минска 19 ст. стало строительство православных церквей в ретроспективно-русском стиле, что не было ранее типично для белорусских земель. Многие местные храмы перестраивались. Например, Свято-Духовскую униатскую церковь на протяжении одного столетия перестраивали дважды. Над православной Петропавловской церковью надстроили звонницу в псевдорусском стиле. В 1857 г. была снесена минская ратуша, рядом с которой был вырублен и сквер из пирамидальных тополей. Правда, сквер в конце столетия восстановили и поставили там в 1900 г. памятник Александру II. Политика распространения в архитектуре русского стиля особенно усилилась после восстания 1863–1864 гг. После подавления восстания женский бернардинский монастырь передали православным (ныне здесь Кафедральный собор), а мужской переделали под гауптвахту и архив.

***Улицы и их названия.*** В 1866 г. «Минские губернские ведомости» сообщили, что 17 улиц и переулков Минска сменили свои названия, что было попыткой ограничить католическое, «польское» влияние. Францисканская (Ленина) стала Губернаторской, наверное, потому, что на ней находился дом губернатора, Фелициановская (Комсомольская) – Богодельной, ибо там находилась городская богадельня, Сборовая (западная часть Интернациональной) – Тюремной, потому что соединяла город с тюремным замком. В народе этот замок называли Пищаловским, потому что построил его помещик Пищалло по проекту М.Чеховского в предместье Романово в 1825 г. Старые названия Минска медленно, но неуклонно уступали место новым, хотя еще в конце 19 ст. сами чиновники путались в названиях улиц – что тут говорить о простых жителях.

горад з турэмным замкам. У народзе гэты замак называлі Пішчалаўскім, бо пабудаваў яго памешчык Пішчала па праекце М.Чахоўскага ў прадмесці Раманава ў 1825 г. Старыя назвы Мінска павольна, але няўхільна саступалі месца новым, хоць яшчэ ў канцы 19 ст. самі чыноўнікі блыталіся ў назвах вуліц – што тут казаць пра простых жыхароў.

Некаторыя з вуліц мелі па некалькі назваў: Ракаўскую называлі і Юр'еўскай і Новафранцысканскай, Траецкую (Багдановіча) – Новааляксандраўскай, Шпітальнай, а з сярэдзіны 19 ст. Аляксандраўскай. Некаторыя вуліцы за кароткі тэрмін «здолелі» паслядоўна змяніць шэраг найменняў: Лошыцкая (К.Маркса) з 1866 г. стала Базарнай, а з 1870-х г., калі базар перанеслі на іншае месца, атрымала назву Падгорнай. Сучасная вуліца Берсана, якая забудоўвалася з 80-х г. 19 ст. драўлянымі хаткамі, першапачаткова звалася Затурэмным завулкам, бо знаходзілася за турмой. У канцы 19 – пачатку 20 ст. – гэта ўжо Трубная вуліца. Тэрмін «труба» раней азначаў рэчышча невялікай рэчкі. І тут (цяпер вуліца Берсана), відаць, некалі працякаў ручай, які ўпадаў у Нямігу. Старую Койданаўскую дарогу (вуліца Мяснікова) у першай палове 19 ст. называлі таксама «Каралеўскім шляхам», пазней – вуліцай Раманаўскай, Койданава-Раманаўскай, Маскоўскай, а з канца 19 ст. – Нова-Маскоўскай.

З 1852 г. да 1911 г. колькасць вуліц і завулкаў вырасла ад 42 да 305. Новыя вуліцы часта атрымлівалі найменні па назвах тых мясцін, куды яны скіроўваліся, – Брылеўская (цяпер на месцы фальварка Брылевічы вуліца Дружба), Даўгабродская (Казлова), Ігуменскі тракт (Маякоўскага); па найменнях прадмесцяў, у якіх пралягалі, – Залатагорская (Чырвоназоркавая), Пляшчанская (Р.Люксембург), Верхне- і Ніжне-Ляхаўская (Беларуская і Кастрычніцкая); па назвах прафесій іх жыхароў – Бондараўская (Гікалы), Шорная. Часта вуліцы называліся па аб'ектах, якія на іх знаходзіліся, – Вакзальная, Шпі-

Некоторые из улиц имели по несколько названий: Раковскую называли и Юрьевской и Новофранцисканской, Троицкую (Богдановича) – Новоалександровской, Госпитальной, а с середины 19 в. Александровской. Некоторые улицы за короткое время «сумели» последовательно сменить ряд имен: Лошицкая (К.Маркса) с 1866 г. стала Базарной, а с 1870-х г., когда рынок перенесли на другое место, получила название Подгорной. Современная улица Берсона, которая застраивалась с 80-х г. 19 в. деревянными домиками, первоначально называлась Затюремным переулком, ибо находилась за тюрьмой. В конце 19 – начале 20 в. – это уже Трубная улица. Термин «труба» ранее означал русло небольшой речки. И здесь (теперь улица Берсона), видимо, когда-то протекал ручей, впадавший в Немигу. Старую Койдановскую дорогу (улица Мясникова) в первой половине 19 в. называли также «Королевским шляхом», позже – улицей Романовской, Койданово-Романовской, Московской, а с конца века – Ново-Московской.

С 1852 г. до 1911 г. количество улиц и переулков выросло с 42 до 305. Новые улицы часто получали наименования тех местностей, куда они вели, – Брилевская (ныне на месте фольварка Брилевичи улица Дружба), Долгобродская (Козлова), Игуменский тракт (Маяковского); по наименованиям предместий, в которых находились, – Золотогорская (Краснозвездная), Плещанская (Р.Люксембург), Верхне- и Нижне-Ляховская (Белорусская и Октябрьская); по названиям профессий их жителей – Бондаревская (Гикало), Шорная. Нередко улицы назывались по объектам, которые на них находились, – Вокзальная, Госпитальная (Фрунзе). Во времена Российской империи улицы Минска только дважды назывались в честь конкретных личностей. В 1882 г. городские власти переименовали улицу Батальонную (до 1866 – Кошарская, сейчас – Красноармейская) в Скобелевскую в честь героя русско-турецкой войны генерала Скобелева, а в начале 20

тальная (Фрунзе). У часы Расійскай імперыі вуліцы Мінска толькі двойчы называліся ў гонар канкрэтных асоб. У 1882 г. гарадскія ўлады перайменавалі вуліцу Батальённую (да 1866 – Кашарская, зараз – Чырвонаармейская) у Скобелеўскую ў гонар героя руска-турэцкай вайны генерала Скобелева, а ў пачатку 20 ст. новую вуліцу чыгуначнага раёна назвалі Пушкінскай (цяпер Фізкультурная).

Новых вуліц было шмат, бо горад хутка рос. Таму непазбежна з'яўляліся дзесяткі аднатыповых, недарэчных назваў, такіх як Андрэеўская, Вяземская, Іванаўская, Загарадная, Самарская, Сяргееўская, Уфімская. У служачых гарадской управы часам не хапала фантазіі. У 1911 г. былі 2 Безымянныя вуліцы і ажно 19 Безымянных завулкаў! Сістэма нумарацыі будынкаў прыжывалася цяжка. Звычайна людзі паведамлялі хатні адрас наступным чынам: «Жыву ў Добрых Мыслях, на Маскоўскай вуліцы ў доме (прозвішча ўладальніка)». Шыльды на мінскіх вуліцах з'явіліся толькі ў пач. 20 ст., таму, шукаючы патрэбны дом дзесьці ва Уборках, можна было праблукаць не адзін дзень.

***Прадмесці.*** Традыцыйнымі арыенцірамі для гараджан выступалі назвы гарадскіх прадмесцяў. Лавы – так называлі гандлёвае прадмесце паміж вуліцай Зыбіцкай (з 1866 г. – Балотная, зараз Гандлёвая) і Свіслаччу, дзе канцэнтраваўся гандаль малочнымі вырабамі. Тут жа быў Лаўскі мост (насупраць выставачнага павільёна «Белэкспа»), на якім збіралася гарадская бяднота ў пошуках якой-небудзь працы. Гэты раён Мінска найбольш пакутаваў падчас вясновых разліваў Свіслачы і маленькай, схаванай ад вачэй пад драўляным насцілам вуліцы, легендарнай Нямігі. Ускладнялі становішча кожную вясну Плябанскія млыны, якія знаходзіліся на Свіслачы там, дзе сёння сквер Я.Купалы. У 1893 г. гарадскія ўлады прынялі рашэнне аб зносе плаціны, але ўладальнікі млыноў гэтаму перашкодзілі.

На поўнач ад Замчышча (пачатак праспекта Пераможцаў) знаходзілася

в. новую улицу железнодорожного поселка назвали Пушкинской (теперь Физкультурная).

Новых улиц было много, потому что город быстро рос. По этой причине неизбежно появлялись десятки однотипных, бессмысленных названий, таких как Андреевская, Вяземская, Ивановская, Загородная, Самарская, Сергеевская, Уфимская. У служащих городской управы иногда не хватало фантазии. В 1911 г. были 2 Безымянные улицы и даже 19 Безымянных переулков! Система нумерации домов приживалась тяжело. Обычно люди сообщали домашний адрес следующим образом: «Живу в Добрых Мыслях, на Московской улице в доме (фамилия владельца)». Таблички на минских улицах появились только в начале 20 в., поэтому в поисках нужного дома где-нибудь в Уборках можно было проблуждать не один день.

***Предместья.*** Традиционными ориентирами для горожан выступали названия городских предместий. Лавы – так называли торговое предместье между улицей Зыбицкой (с 1866 – Болотная; ныне Торговая) и Свислочью, где концентрировалась торговля молочными продуктами. Здесь же был Лавский мост (напротив выставочного павильона «Белэкспо»), на котором собиралась городская беднота в поисках какой-нибудь работы. Этот район Минска более всего страдал во время весенних разливов Свислочи и маленькой, спрятанной от глаз под деревянным настилом улицы, легендарной Немиги. Усложняли положение каждую весну Плебанские мельницы, которые находились на Свислочи там, где сегодня сквер Я.Купалы. В 1893 г. городские власти приняли решение о сносе плотины, но владельцы мельниц этому воспрепятствовали.

На север от Замчища (начало проспекта Победителей) находилась Татарская слобода. Ее жители – татары – занимались огородничеством и хлеборобством. На фоне почти полностью деревянной и одноэтажной застройки этой части города выделялась каменная ме-

Татарская слабада. Яе жыхары – татары – займаліся агародніцтвам, хлебаробствам, скураным промыслам. На фоне амаль поўнасцю драўлянай і аднапавярховай забудовы гэтай часткі горада вылучалася каменная мячэць (пабудавана ў 1902 г., знесена ў 1962 г.). Паводле даных за 1869 г., у Татарскай слабадзе існавалі Уваскрасенская вуліца (зараз вуліца Вызвалення), 2-я Татарская Балотная, ці Вялікая, вуліца (вуліца Дзімітрава), Татарская Глухая вуліца (частка вуліцы Мельнікайте каля праспекта Пераможцаў), Татарская Людамонцкая (сення на месцы колішняй вуліцы – праспект Пераможцаў ад Палаца спорту да вуліцы Дразда) і Татарскі Замячэтны завулак. Тэрыторыю балоцістай нізіны паміж слабадой і Свіслаччу займалі татарскія агароды, з якіх садавіна і гародніна паступала на гарадскія рынкі. Гэтая мясцовасць так і называлася – Татарскія агароды.

Траецкай гарой называлі вялікую па плошчы мясцовасць на левым беразе Свіслачы, абмежаваную сучаснымі вуліцамі Старавіленскай і Камуністычнай. Назва прадмесця паходзіць ад царквы Св. Тройцы, якая калісьці там існавала. На Траецкай гары знаходзілася самая вялікая гандлёвая плошча горада, куды сяляне з навакольных вёсак прывозілі на продаж сельскагаспадарчую прадукцыю. Побач, у будынках былога Траецкага Узнясенскага манастыра, знаходзілася губернская бальніца – сучасная 2-я гарадская. У 1844 г. паводле праекта архітэктара К.Хрышчановіча быў узведзены будынак духоўнай семінарыі, у якім сёння знаходзіцца Сувораўскае вучылішча. А жаночае епархіяльнае вучылішча стаяла якраз на месцы будынка Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, што на вуліцы Куйбышава (старадаўняй Плябанскай).

Староcцінская слабада знаходзілася за Траецкай гарой, паміж Свіслаччу і вуліцай Міхайлаўскай (Камуністычнай). Хутчэй за ўсё гэтая мясціна яшчэ раней была дзяржаўным маёнткам, які складаў кармленне службовай асобы

четь (построена в 1902, снесена в 1962). По данным 1869 г., в Татарской слободе существовали Воскресенская улица (ныне улица Освобождения), 2-я Татарская Болотная, или Большая, улица (Димитрова), Татарская Глухая улица (часть улицы Мельникайте возле проспекта Победителей), Татарская Людамонтская (ныне на месте прежней улицы – проспект Победителей от Дворца спорта до улицы Дрозда) и Татарский Замечетный переулок. Территорию болотистой низины между слободой и Свислочью занимали татарские огороды, откуда овощи и фрукты поступали на городские рынки. Эта местность так и называлась – Татарские огороды.

Троицкой горой называли большую по площади местность на левом берегу Свислочи, ограниченную современными улицами Старовиленской и Коммунистической. Название предместья происходит от церкви Св. Троицы, которая когда-то там существовала. На Троицкой горе находилась самая большая в городе торговая площадь, куда крестьяне из близлежащих деревень привозили на продажу сельскохозяйственную продукцию. Рядом, в зданиях бывшего Троицкого Вознесенского монастыря, находилась губернская больница – современная 2-я городская. В 1844 г. по проекту К.Хрищеновича было возведено здание духовной семинарии, в котором сегодня находится Суворовское училище. А женское епархиальное училище стояло как раз на месте здания Министерства обороны Республики Беларусь, что на улице Куйбышева (старинной Плебанской).

Старостинская слобода находилась за Троицкой горой, между Свислочью и улицей Михайловской (Коммунистической). Скорее всего, эта местность ранее была государственным поместьем, которое составляло кормление служебного лица ВКЛ, минского старосты, который возглавлял минский замковый суд. Эта версия происхождения названия подтверждается тем, что Старостинская слобода была в списке минских

ВКЛ, мінскага старасты, што ўначальваў мясцовы замкавы суд. Гэта версія паходжання назвы пацвярджаецца тым, што Старосцінская слабада была ў ліку мінскіх вуліц з «польскімі» назвамі, якія ўлады ў 1866 г. перайменавалі. Старосцінская слабада атрымала назву Старой слабады, але старая назва яшчэ доўга не саступала месца наватвору, часта сустракалася нават у афіцыйных дакументах і канчаткова сыйшла ў небыццё толькі ў пачатку 20 ст. Вуліца Стараслабадская праіснавала да сярэдзіны 80-х г. 20 ст., калі на яе месцы пабудавалі вялізны белы гмах з магазінам «Панарама», а ў 1999 г. адкрылі помнік А.Пушкіну.

На поўнач ад Старосцінскай слабады знаходзілася прадмесце Пярэспа. Назва паходзіць ад рэчкі Пярэспы, што выцякала з Камароўскага балота і ўлучалася ў Свіслач паміж сучасным спорткомплексам «Дынама» і мастом цераз раку на вуліцы Ерусалімскай. Менавіта там, у вусці Пярэспы, паводле падання, магутны волат Менеск пабудаваў калісьці вадзяны млын. Слова «пярэспа» азначае перасып — насып, які зрабілі каля мастка праз рэчку Пярэспу (зараз – рог вуліц Варвашэні і Даўмана) на шляху Старавіленскага тракту. У дакументах 17–18 ст. згадваецца фальварак Пярэспа, а ў сярэдзіне 19 ст. пад гэтай назвай разумелі тэрыторыю на поўнач ад вуліцы Міхайлаўскай (Камуністычнай), паміж вуліцай Мікалаеўскай (Крапоткіна) і Свіслаччу. У 1797 г. на Пярэспе адкрылі праваслаўныя могілкі, пазней пабудавалі царкву Марыі Магдаліны (1847).

Недалёка ад Пярэспаўскіх могілак на ўскрайку тагачаснага горада знаходзілася вартаўнічая застава (яна месцілася на рагу вуліц Багдановіча і Кісялёва), ад якой пачынаўся Старавіленскі тракт. Паступова гарадская забудова наблізілася да заставы (тут ужо ў 1863 г. стаяў драўляны дом А.Кандратовіча), а сама мясцовасць была пазначана як Старажоўка. Праз некалькі год узнік Старажоўскі завулак, пазней – Старажоў-

улиц с «польскими» наименованиями, которые власти в 1866 г. переименовали. Старостинская слобода получила название Старой слободы, но старое имя еще долго не уступало место новому, часто встречалось даже в официальных документах и окончательно ушло в небытие только в начале 20 ст. Улица Старослободская просуществовала до середины 80-х г. 20 ст., когда на ее месте построили громадную белую высотку с магазином «Панорама», а в 1999 г. открыли памятник А.Пушкину.

На север от Старостинской слободы находилось предместье Переспа. Название происходит от речки Переспы, которая вытекала из Комаровского болота и впадала в Свислочь между современным спорткомплексом «Динамо» и мостом через реку на улице Иерусалимской. Именно там, в устье Переспы, по легенде, могущественный силач Менеск построил когда-то водяную мельницу. Слово «переспа» означает пересыпь, насыпь, которую сделали около мостика через речку Переспу (сейчас – угол улиц Варвашени и Даумана) на пути Старовиленского тракта. В документах 17–18 вв. упоминается фольварк Переспа, а в середине 19 ст. под этим названием подразумевали территорию на север от улицы Михайловской (Коммунистической), между улицей Николаевской (Кропоткина) и Свислочью. В 1797 г. на Переспе открыли православное кладбище, позже построили церковь Марии Магдалины (1847).

Недалеко от Переспенского кладбища на окраине тогдашнего города находилась сторожевая застава (она находилась на углу улиц Богдановича и Киселева), от которой начинался Старовиленский тракт. Постепенно городская застройка приближалась к заставе (тут уже в 1863 г. стоял деревянный дом А.Кондратовича), а сама местность была обозначена как Сторожевка. Через несколько лет возник Сторожевский переулок, позже – Сторожевская улица (Киселева). В том районе, на углу улиц Александровской и Сторожевской в се-

ская вуліца (Кісялёва). У тым раёне, на рагу Аляксандраўскай і Старажоўскай у сярэдзіне 60-х г. 19 ст. А.Фрумкіным быў пабудаваны бровар, вядомы сёння пад назвай «Аліварыя».

У 1812 г. на ростанях Барысаўскага і Лагойскага трактаў, там, дзе сёння стаіць помнік Я.Коласу, была вёска Камароўка. Яна атрымала назву ад суседняга балота (тэрыторыя, абмежаваная вуліцамі Харужай, Гая, Някрасава і Куйбышава) і Камароўскага лесу, які прасціраўся ва ўсходнім напрамку ад Мінска. Батанічны сад і Парк Чэлюскінцаў – гэта ўсё, што засталося ад некалі вялікага Камароўскага лесу, які належаў сям'і Ваньковічаў. Горад наступаў: драўляныя хаткі спачатку ўзніклі ўздоўж Барысаўскага тракту (праспект Незалежнасці), затым побач з Камароўскім балотам – і нарадзілася прадмесце Камароўка. Часта ў пачатку 20 ст. мяшчане адрознівалі Старую Камароўку (плошча Я.Коласа, бульвар Луначарскага, вуліца Красная) ад Новай Камароўкі (паміж вуліцамі Варвашэні і Харужай).

Не так далёка ад Камароўкі знаходзіўся самы вялікі ўзгорак у акрузе – Залатая Горка (рог вуліцы Казлова і праспекта Незалежнасці). Існуюць цікавыя версіі паходжання гэтай назвы. Па адной з іх, такую назву горка атрымала з-за кляновага гаю, што рос на ёй. Увосень усё лісце станавілася залатым і горку было відаць здалёк, яна вабіла вока і стала месцам адпачынку гараджан, якія і назвалі яе Залатой Горкай. Другая версія тлумачыць паходжанне назвы тым, што быццам бы ў гэтай мясціне знаходзілі шмат залатых скарбаў. Паводле іншай легенды, аднойчы ў горад прыйшоў мор, забраўшы не адну сотню чалавечых жыццяў. Пасля адпявання памерлых святар зняў сваю рызу, паклаў на зямлю і кінуў на яе залатую манетку. Кожны, хто застаўся жывы, падыходзіў і таксама кідаў манету. Хутка вырасла сапраўдная залатая горка, якая дазволіла пабудаваць тут касцёл. У 1790 г. тут былі адкрыты каталіцкія могілкі, пабудавана драўляная капліца, а ў 1864 г.

редине 60-х г. 19 ст. А.Фрумкиным была построена пивоварня, известная сегодня под названием «Аливария».

В 1812 г. на развилке Борисовского и Логойского трактов, там, где сегодня стоит памятник Я.Коласу, размещалась деревня Комаровка. Она получила название от соседнего болота (территория, ограниченная улицами Хоружей, Гая,



*Адзін з дамкоў канца 19 – пачатку 20 ст. ў прадмесці Грушаўка. 2003 г.*

*Один из домиков конца 19 – начала 20 в. в предместье Грушевка. 2003 г.*

*A cottage of the end of the 19th – beginning of the 20th century in the suburb Hrushevka. 2003.*

Некрасова и Куйбышева) и Комаровского леса, который простирался в восточном направлении от Минска. Ботанический сад и Парк Челюскинцев – это все, что осталось от некогда большого Комаровского леса, который принадлежал семье Ваньковичей. Город наступал: деревянные хатки вначале возникли вдоль Борисовского тракта (проспект Независимости), затем рядом с Комаровским болотом – и родилось предместье Комаровка. Нередко в начале 20 ст. мещане отличали Старую Комаровку (площадь Я.Коласа, бульвар Луначарского, улица Красная) от Новой Комаровки (между улицами Варвашени и Хоружей).

Не так далеко от Комаровки находился самый большой холм в округе –

ўзведзены мураваны касцёл св.Роха – абаронцы людзей і жывёл ад эпідэмічных захворванняў, які лічыўся заступнікам горада.

Доўгі Брод – прадмесце, узнікшае на старажытным Магілёўскім шляху. Сама назва падказвае, што ў гэтай мясцовасці існаваў брод цераз раку Слепню. У 18–19 ст. у Магілёў вандроўнічалі па Ігуменскім тракце, а старая дарога цераз р. Слепню выкарыстоўвалася для праезду ў навакольныя вёскі і сядзібы. Пасля ўзнікнення ў пачатку 20 ст. урочышча Доўгі Брод (скрыжаванне вуліц Батанічнай і Казлова), людзі пачалі сяліцца ўздоўж старой Магілёўскай дарогі. Так стварылася прадмесце і вуліца Даўгабродская (Казлова). У 1848 г. гарадскія ўлады набылі ў Ваньковічаў зямлю, на якой былі адкрыты праваслаўныя могілкі, дзе хавалі памерлых з вайсковага шпіталя, а ў 1898 г. на могілках пабудавалі царкву Аляксандра Неўскага.

Значная тэрыторыя на паўднёвы захад ад горада ў сярэдзіне 19 ст. належала праваслаўнай царкве – Мінскаму архірэйскаму двару. На поўдзень ад Гарадскога, ці Губернатарскага, саду (адкрыты ў 1800 г., цяпер парк Горкага) на зямлі Архірэйскага двара знаходзілася Архірэйская слабада (раён вуліц Пуліхава і Захарава). Там былі сканцэнтраваны важныя вайсковыя аб'екты расійскай арміі ў Мінску: пабудаваны ў 1844 г. паводле праекта губернскага архітэктара Хрышчановіча вайсковы шпіталь (будынак захаваўся на рагу вуліц Фрунзе і Першамайскай), хлебапякарня і новыя казармы. На архірэйскай зямлі знаходзіліся таксама ўрочышчы Круты бераг і Антонаўка. Круты бераг месціўся на спадзістым схіле Свіслачы каля Гарадскога саду (пачатак вуліцы Пуліхава), а прыкладнае месцазнаходжанне Антонаўкі можна вызначыць скрыжаваннем Маскоўска-Брэсцкай чыгункі і рэчкі Слепні. Там, на правым беразе Слепні, мінскі архіепіскап Антоній Зубко стварыў фальварак узорнай гаспадаркі. Дагэтуль захавалася дарога на былы фальварак з горада – вуліца Антонаўская. І яшчэ адно

Золотая Горка (угол улицы Козлова и проспекта Независимости). Существуют интересные версии происхождения этого названия. По одной из них, такое имя горка получила из-за кленовой рощицы, что росла на ней. Осенью вся листва становилась золотой, и холм был виден издалека, ласкал взор и стал местом отдыха горожан, которые и назвали его Золотой Горкой. Вторая версия объясняет происхождение названия тем, что будто бы здесь находили много золотых кладов. Согласно третьей легенде, однажды в городе был мор, забравший не одну сотню человеческих жизней. После отпевания умерших священник снял свою ризу, положил на землю и бросил на нее золотую монетку. Каждый, кто остался в живых, подходил и также бросал монету. Быстро выросла настоящая золотая горка, которая позволила построить здесь костел. В 1790 г. тут было открыто католическое кладбище, построена деревянная часовня, а в 1864 г. возведен каменный костел св. Роха – защитника людей и животных от эпидемических заболеваний, который считался покровителем города.

Долгий Брод – предместье, возникшее на старинной Могилевской дороге. Само название подсказывает, что в этой местности существовал брод через реку Слепню. В 18–19 ст. в Могилев путешествовали по Игуменскому тракту, а старая дорога через р. Слепню использовалась для проезда в близлежащие деревни и усадьбы. После возникновения в начале 19 в. урочища Долгий Брод (перекресток улиц Ботанической и Козлова), люди начали селиться вдоль старой Могилевской дороги. Так возникло предместье и улица Долгобродская (Козлова). В 1848 г. городские власти купили у Ваньковичей землю, на которой было открыто православное кладбище, где хоронили умерших из военного госпиталя, а в 1898 г. на кладбище построили церковь Александра Невского.

Значительная территория на юго-запад от города в середине 19 в. принадлежала православной церкви – Минс-

род жыхароў горада шляхам уладкавання іх на тую ці іншую работу. Аднак гэта далёка не заўсёды ўдавалася зрабіць. Таму ў горадзе нярэдка ўзнікала сацыяльная напружанасць, якая часам вылівалася ў супрацьстаянне паміж беспрацоўнымі і ўладамі. Аб гэтым, у прыватнасці, сведчаць сакрэтныя штомесячныя «Агляды палітычнага становішча СССР», якія рыхтаваліся для вышэйшага партыйна-дзяржаўнага кіраўніцтва Саюза ССР. Так, у «Аглядзе палітычнага становішча СССР за красавік 1925 г.» адзначана, што 21 красавіка гэтага года беспрацоўныя секцыі чорнарабочых на Мінскай біржы працы ў колькасці каля 200 чалавек узбунтаваліся і адмовіліся пакінуць біржу. Выкліканае падраздзяленне міліцыі доўгі час не магло вызваліць ад іх памяшканне. У наступныя дні такое становішча паўтарылася. Беспрацоўныя патрабавалі ажыццявіць у якасці мер павышэння занятасці насельніцтва змяншэнне службовых акладаў некаторым катэгорыям насельніцтва, пашырэнне грамадскіх работ, скарачэнне са службы асоб, у якіх у сям'і працавала некалькі чалавек і г. д. Такое абвостранае становішча гарадскім уладам Мінска ўдалося ўрэгуляваць не адразу.

На аснове прамысловага будаўніцтва, ажыццяўлення палітыкі індустрыялізацыі беспрацоўе паступова перадольвалася. У Беларускай ССР, горадзе Мінску, як і ва ўсім Савецкім Саюзе, яно было ў асноўным ліквідавана пад канец 1930 г. Гэта з'явілася адметным фактарам у стабілізацыі сацыяльнага становішча ў Мінску, важнай мерай у паляпшэнні жыццёвага ўзроўню гараджан.

***Рост гарадскога насельніцтва.*** Развіццё прамысловасці, адукацыі, навукі, культуры, пашырэнне і паглыбленне функцый Мінска як сталіцы Беларускай ССР, асабліва ў сувязі з ростам тэрыторыі і насельніцтва рэспублікі, садзейнічалі павелічэнню колькасці гарадскіх жыхароў. У першыя дзесяцігоддзі савецкай улады іх змяншэнне назіралася толькі ў пачатку 1920-х г. Калі ў 1917 г. горад налічваў 134,5 тыс. жыхарів... стать. В 1929 г. тут насчитывалось около 7 тыс. человек, которые не имели работы. Основную их часть составляли неквалифицированные рабочие.

Городские власти стремились уменьшить удельный вес безработных среди жителей города путем устройства их на ту или иную работу. Однако это далеко не всегда удавалось сделать. Поэтому в городе нередко возникало социальное напряжение, которое временами выливалось в противостояние между безработными и властями. Об этом, в частности, свидетельствуют секретные ежемесячные «Обзоры политического положения СССР», которые подготавливались для высшего партийно-государственного руководства Союза ССР. Так, в «Обзоре политического положения СССР за апрель 1925 г.» отмечено, что 21 апреля этого года безработные секции чернорабочих на Минской бирже труда в количестве 200 человек взбунтовались и отказались покинуть биржу. Вызванное подразделение милиции долгое время не могло освободить от них помещение. В следующие дни такая ситуация повторилась. Безработные требовали осуществить в качестве мер повышения занятости населения уменьшение служебных окладов некоторым категориям населения, расширение общественных работ, сокращение со службы людей, у которых в семье работали несколько человек, и т.д. Такое обостренное положение городским властям Минска удавалось урегулировать не сразу.

На основе промышленного строительства, осуществления политики индустриализации безработица постепенно преодолевалась. В Белорусской ССР, городе Минске, как и во всем Советском Союзе, она была в основном ликвидирована к концу 1930 г. Это стало заметным фактором в стабилизации социального положения в Минске, важной мерой в улучшении жизненного уровня горожан.

***Рост городского населения.*** Развитие промышленности, образования, науки, культуры, расширение и углубление

хароў, то ў 1922 г. – 102,4 тыс. Аднак да 1935 г. іх колькасць дасягнула амаль 200 тыс. У значнай ступені рост адбываўся за кошт павелічэння колькасці рабочых. У пачатку 1933 г. іх налічвалася 20,7 тыс. супраць 5 тыс. у 1928 г. Адначасова з ростам насельніцтва мяняўся яго нацыянальны склад. У 1926 г. сярод гарадскіх жыхароў беларусы складалі 42,4%, яўрэі — 40,8%.

Для 1920-х г. было характэрна павелічэнне той часткі працаздольнага насельніцтва горада, якая была занятая ў дзяржаўнай вытворчасці. У 1928 г. ў цэнзавай прамысловасці Мінска працавала каля 6,4 тыс. чалавек, на будаўнічых работах — 5,4 тыс., на чыгуначным транспарце — амаль 3 тыс. чалавек. Што датычыць дробных прадпрыемстваў, якія былі пераважна прыватнымі, то на іх у гэты час таксама была занята значная колькасць гарадскіх жыхароў. У 1926 г. яна дасягала 15,5 тыс. чалавек.

У сувязі з правядзеннем індустрыялізацыі колькасць рабочых і служачых Мінска, занятых у дзяржаўным сектары, яшчэ больш узрасла. Паводле даных на 1 студзеня 1934 г. іх налічвалася 66,3 тыс. Найбольшая частка — амаль 20,8 тыс. — працавала на фабрыках і заводах, каля 9,8 тыс. былі занятыя на будаўнічых работах, больш за 7,4 тыс. задзейнічаны на чыгуначным транспарце. Вялікая ўдзельная вага рабочых-чыгуначнікаў у агульнай колькасці прамысловых рабочых сталіцы тлумачыцца тым, што Мінск, з'яўляючыся самым буйным чыгуначным вузлом Беларусі, асабліва актыўна нарошчваў свой транспартны патэнцыял. Гэта было звязана і з яго прыгранічным становішчам.

Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны ў сталіцы Беларускай ССР пражывала больш за 250 тыс. чалавек. Паводле даных за верасень 1940 г., у розных гаспадарчых сферах горада было занята 123,3 тыс. рабочых і служачых. Больш за ўсё працуючых было на фабрыках і заводах — 37,5 тыс. На чыгуначным, унутрыгарадскім і міжгарадскім транспарце было задзейнічана 23,3 тыс. чала-

функций Минска как столицы Белорусской ССР, особенно в связи с ростом территории и населения республики, содействовали увеличению численности городских жителей. В первые десятилетия советской власти их уменьшение наблюдалось только в начале 1920-х г. Если в 1917 г. город насчитывал 134,5 тыс. жителей, то в 1922 г. — 102,4 тыс. Однако до 1935 г. их число достигло почти 200 тыс. В значительной степени рост происходил за счет увеличения количества рабочих. В начале 1933 г. их насчитывалось 20,7 тыс. против 5 тыс. в 1928 г. Одновременно с ростом населения менялся его национальный состав. В 1926 г. среди городских жителей белорусы составляли 42,4%, евреи — 40,8%.

Для 1920-х г. было характерно увеличение той части трудоспособного населения города, которая была занята в государственном производстве. В 1928 г. в цензовой промышленности Минска работало около 6,4 тыс. человек, на строительных работах — 5,4 тыс., на железнодорожном транспорте — почти 3 тыс. человек. Что касается мелких предприятий, которые были преимущественно частными, то на них в это время также было занято значительное число городских жителей. В 1926 г. оно достигало 15,5 тыс. человек.

В связи с проведением индустриализации количество рабочих и служащих Минска, занятых в государственном секторе, еще больше выросло. Согласно данным на 1 января 1934 г., их насчитывалось в городе 66,3 тыс. Наибольшая часть — почти 20,8 тыс., работали на фабриках и заводах, около 9,8 тыс. были заняты на строительных работах, более 7,4 тыс. задействованы на железнодорожном транспорте. Большой удельный вес рабочих-железнодорожников в общем числе промышленных рабочих столицы объясняется тем, что Минск, являясь самым крупным железнодорожным центром Беларуси, особенно активно наращивал свой транспортный потенциал. Это было связано и с его приграничным положением.

век, на будаўнічых работах — 10,7 тыс., на прадпрыемствах сувязі — 3,1 тыс. Значная колькасць мінчан працавала ў гандлі і грамадскім харчаванні: іх налічвалася ў гэты час 12,2 тыс. чалавек. У сферы аховы здароўя было занята каля 6 тыс. чалавек, ва ўстановах асветы — амаль 7 тыс. Значная колькасць жыхароў сталіцы працавала ў апараце органаў партыйнага, дзяржаўнага і гаспадарчага кіравання. Такіх налічвалася 9,7 тыс. чалавек.

Структура занятасці насельніцтва Мінска сведчыць, што ў перадваенны час ён уяўляў сабою не толькі буйны прамысловы і транспартны вузел, будаўнічы комплекс, але і асноўны цэнтр дзяржаўнага кіравання, асветы, аховы здароўя рэспублікі. Мінск выходзіў у лік найбольш дынамічна растучых гарадоў Савецкага Саюза.

## 4. ЗМЕНЫ Ў АБЛІЧЧЫ МІНСКА

***Рэканструкцыі горада. Новабудоўлі. Фарміраванне сталічнага выгляду.*** Атрымаўшы статус сталіцы, узмацніўшы яго пасля ўзбуйнення БССР у 1924 і 1926 гг., Мінск паступова набываў выгляд сталічнага горада. Аднак для гэтага неабходны былі яго рэканструкцыі. Першая з іх распрацавана ў 1926 г. Згодна з ёю прадугледжвалася пераўтварэнне прамавугольнай сістэмы планавання горада, якая склалася гістарычна, у радыяльна-кальцавую. Паводле такой схемы ствараўся гарадскі цэнтр, які ўключаў раён вакзала і Савецкай вуліцы. Меркавалася, што цэнтральныя кварталы горада зойме капітальнае будаўніцтва. Згодна з планам, у горадзе ўстанаўліваліся два ўзаемаперасякальныя напрамкі. Першы з іх складалі вуліцы Маскоўская, Савецкая, Пушкінская (апошняя мела напрамак цяперашняга праспекта Незалежнасці). Другі напрамак уключаў Магілёўскую шашу, Даўгабродскую вуліцу і Даўгінаўскі тракт.

Такая схема рэканструкцыі горада з'явілася асновай далейшых планіровак гарадской забудовы. Адпаведна з ёю праводзілася будаўніцтва гарадка Бела-

Накануне Великой Отечественной войны в столице Белорусской ССР проживало более 250 тыс. человек. По данным за сентябрь 1940 г., в различных хозяйственных сферах города было занято 123,3 тыс. рабочих и служащих. Больше всего работающих было на фабриках и заводах — 37,5 тыс. На железнодорожном, внутригородском и междугородном транспорте было задействовано 23,3 тыс. человек, на строительных работах — 10,7 тыс., в связи — 3,1 тыс. Значительное число минчан работало в торговле и общественном питании: их насчитывалось в это время 12,2 тыс. человек. В сфере здравоохранения было занято около 6 тыс. человек, в учреждениях образования — почти 7 тыс. Значительное число жителей столицы работало в аппарате органов партийного, государственного и хозяйственного управления. Таких насчитывалось 9,7 тыс. человек.

Структура занятости населения Минска свидетельствует, что в предвоенное время он представлял собой не только крупный промышленный и транспортный узел, строительный комплекс, но и основной центр государственного управления, образования, охраны здоровья республики. Минск входил в число наиболее динамично растущих городов Советского Союза.

## 4. ИЗМЕНЕНИЯ В ОБЛИКЕ МИНСКА

***Реконструкции города. Новостройки. Формирование столичного облика.*** Получив статус столицы, усилив его после укрупнения БССР в 1924 и 1926 гг., Минск постепенно приобретал облик столичного города. Однако для этого необходимы были его реконструкции. Первая из них разработана в 1926 г. В соответствии с ней предусматривалось преобразование прямоугольной системы планирования города, которая сложилась исторически, в радиально-кольцевую. Согласно такой схеме создавался городской центр, который включал район вокзала и Советской улицы. Планировалось, что централь-

рускага дзяржаўнага універсітэта, клінічнага комплексу, іншых аб'ектаў у раёне Вакзальнай плошчы, Савецкай і Пушкінскай вуліц.

Аднак развіццё прамысловасці, гарадской гаспадаркі, рост насельніцтва патрабавалі далейшага ўдасканалення работ па рэканструкцыі горада. 7 жніўня 1933 г. Прэзідыум ЦВК СССР прыняў пастанову аб рабоце Мінскага гарадскога савета, у якой адзначыў, што развіццё камунальнай гаспадаркі і жыллёвага будаўніцтва адстае ад тэмпаў росту насельніцтва і культурна-бытавых запатрабаванняў гараджан. Гарадскому савету было даручана арганізаваць работу па падрыхтоўцы новага праекта планіроўкі горада. Яго распрацоўкай заняўся Ленінградскі філіял «Дзіпрагора». Першыя варыянты гэтага плана прадугледжвалі ўдасканаленне планіроўкі забудоў у раёне Савецкай і Пушкінскай вуліц.

На аснове планаў рэканструкцыі Мінска ў горадзе былі пабудаваны гасцініца «Беларусь» (пазней яна атрымала назву «Свіслач»), Палац піянераў,



*Пракладка трамвайных ліній па вуліцы Валадарскага ў Мінску. 1933 г.*

*Прокладка трамвайных линий по улице Володарского в Минске. 1933 г.*

*The laying of the tramways along the Volodarsky street in Minsk. 1933.*

ные кварталы города займет капитальное строительство. Согласно плану в городе устанавливались два пересекающиеся направления. Первое из них составляли улицы Московская, Советская, Пушкинская (последняя имела направление нынешнего проспекта Независимости). Второе направление включало Могилевское шоссе, Долгобродскую улицу и Долгиновский тракт.

Данная схема реконструкции города стала основой дальнейших планировок городской застройки. Согласно ей проводилось строительство городка Белорусского государственного университета, клинического комплекса, других объектов в районе Вокзальной площади, Советской и Пушкинской улиц.

Однако развитие промышленности, городского хозяйства, рост населения требовали дальнейшего усовершенствования работ по реконструкции города. 7 августа 1933 г. Президиум ЦИК СССР принял постановление о работе Минского городского совета, в котором отметил, что развитие коммунального хозяйства и жилищного строительства отстает от темпов роста населения и культурно-бытовых потребностей горожан. Городскому совету было поручено организовать работу по подготовке нового проекта планировки города. Его разработкой занялся Ленинградский филиал «Гипрогора». Первые варианты этого плана предусматривали усовершенствование планировки строений в районе Советской и Пушкинской улиц.

На основе планов реконструкции Минска в городе были построены гостиница «Беларусь» (позднее она получила название «Свислочь»), Дворец пионеров, Дом печати. Значительным достижением явилась разработка проекта и строительство в 1933—1934 гг. Дома правительства (архитектор И.Лангбард). По его проектам были возведены другие монументальные здания белорусской столицы: окружной Дом офицеров (построен в 1934—1939 гг.), Белорусский театр оперы и балета (строительство велось на протяжении 1935—

Дом друку. Значным дасягненнем з'явілася распрацоўка праекта і будаўніцтва ў 1933—1934 гг. Дома ўрада (архітэктар І.Лангбард). Па яго праектах былі ўзведзены іншыя манументальныя будынкі беларускай сталіцы: акруговы Дом афіцэраў (пабудаваны ў 1934—1939 гг.), Беларускі тэатр оперы і балета (будаўніцтва вялося на працягу 1935—1938 гг.), галоўны корпус Акадэміі навук (узведзены ў 1935—1939 гг.). Гэтыя будынкі ў многім фарміравалі і вызначалі сталічнае аблічча горада.

Паляпшэнню знешняга выгляду Мінска садзейнічала асфальтаванне вуліц, якое пачалося ў 1934 г. Спачатку былі пакрыты асфальтам Прывакзальная плошча, вуліцы Савецкая, Леніна, Свярдлова, 11 Ліпеня (цяпер — заходняя частка вуліцы Кірава) і шэраг іншых. Цераз раку Свіслач каля парку імя М.Горкага быў пабудаваны новы жалезабетонны мост.

Работы па рэканструкцыі цэнтра горада дапаўняліся новым, пераважна індывідуальным будаўніцтвам на яго ўскраінах, што патрабавала павелічэння гарадской плошчы. З гэтай мэтай вялося асушэнне забалочаных месцаў, у першую чаргу Камароўскага і Сляпянскага балот. Ужо з 1923 г., паводле рашэння другой сесіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Беларускай ССР, была ўстаноўлена новая мяжа Мінска, у выніку чаго яго плошча павялічылася больш як у два разы. Аднак гэтага было недастаткова, і ў студзені 1931 г. ЦВК і СНК БССР прынялі пастанову «Аб пашырэнні гарадской мяжы горада Мінска». На вызначанай плошчы горад забудоўваўся на працягу 1930-х г.

Важным напрамкам работ стала выпрамленне Пушкінскай вуліцы, будаўніцтва радыёзавода і абсерваторыі, узвядзенне вучэбнага комплексу політэхнічнага інстытута. Працягвалася рэканструкцыя Прывакзальнай плошчы і плошчы Леніна, пачыналася забудова Круглай плошчы (сёння плошча Перамогі). У перадваенны час у гарадскія межы былі ўключаны Камароўка, Гру-

1938 гг.), главный корпус Академии наук (возведен в 1935—1939 гг.). Эти здания во многом формировали и определяли столичный облик города.

Улучшению внешнего вида Минска содействовало асфальтирование улиц, которое началось в 1934 г. Сначала были покрыты асфальтом Привокзальная площадь, улицы Советская, Ленина, Свердлова, 11-го июля (теперь — западная часть улицы Кирова) и ряд других. Через реку Свислочь возле парка имени М.Горького был построен новый железобетонный мост.

Работы по реконструкции центра города дополнялись новым, преимущественно индивидуальным строительством на его окраинах, что требовало увеличения городской площади. С этой целью велось осушение заболоченных мест, в первую очередь Комаровского и Слепянского болот. Уже с 1923 г. по решению второй сессии Центрального Исполнительного Комитета Белорусской ССР была установлена новая черта Минска, в результате чего его площадь увеличилась более чем в два раза. Однако этого было недостаточно и в январе 1931 г. ЦИК и СНК БССР приняли постановление «О расширении городской черты города Минска». На определяемой площади город застраивался на протяжении 1930-х г.

Важным направлением работ стало выпрямление Пушкинской улицы, строительство радиозавода и обсерватории, возведение учебного комплекса политехнического института. Продолжалась реконструкция Привокзальной площади и площади Ленина, начиналась застройка Круглой площади (ныне — площадь Победы). В предвоенное время в городскую черту были включены Комаровка, Грушевский поселок и некоторые другие окраины.

К концу 1940 г. территория города достигла 65,8 кв. км. Из всей этой площади 31,8 кв. км приходилось непосредственно на городские постройки, а 34 кв. км занимали земли, где горожане получали места под огороды и выращивали

шаўскі пасёлак і некаторыя іншыя ўскраіны.

Да канца 1940 г. тэрыторыя горада дасягнула 65,8 кв. км. З усёй гэтай плошчы 31,8 кв. км прыпадала на непасрэдна гарадскія забудовы, а 34 кв. км займалі землі, дзе гараджане атрымлівалі месцы пад агароды і вырошчвалі сельскагаспадарчую прадукцыю. У гэты час у Мінску налічвалася 470 вуліц, якія мелі даўжыню амаль 200 км. Рэканструкцыя горада арганічна дапаўнялася новабудоўлямі, пашырэннем гарадской тэрыторыі, садзейнічала фарміраванню сталічнага выгляду Мінска. Ён павінен быў удасканальвацца паводле новага генеральнага плана, распрацоўка якога была закончана ў 1940 г.

***Развіццё камунальнай гаспадаркі.*** У выніку ваенных, рэвалюцыйных падзей, дзейнасці акупацыйных рэжымаў камунальная гаспадарка Мінска знаходзілася ў надзвычай цяжкім стане. Жыхары горада пакутавалі ад антысанітарных умоў. Студні доўгі час не рамантаваліся. Водаправодная сетка была моцна пашкоджана. У горадзе не хапала каналізацыйных збудаванняў, таму гарадскі бруд сцякаў у рэкі Нямігу і Свіслач. Брукаваных каменем вуліц было зусім няшмат. Такі стан гарадской гаспадаркі зусім не адпавядаў сталічнаму гораду.

З пачатку 1920-х г. гарадскія ўлады прынялі шэраг мер для паляпшэння ўмоў жыцця мінчан. Значная ўвага аддавалася паляпшэнню забеспячэння вадой. У 1925 г. даўжыня вулічнай сеткі водаправода дасягнула 45 км. У гэты час ім карысталася 3/5 гарадскога насельніцтва. На працягу 1926—1928 гг. магчымасці водаправода павялічыліся на 20%, аднак задавальненне патрэб насельніцтва ў вадзе было недастатковым. У сувязі з гэтым на працягу 1931—1933 гг. зроблена рэканструкцыя водаправоднай сеткі. Яе працягласць узрасла да 60 км, што дазволіла падаваць ваду і на некаторыя гарадскія ўскраіны.

Вялося будаўніцтва каналізацыйнай сеткі. У 1930 г. яна была здадзена ў эксплуатацыю. Ее протяженность составила 30 км. Использование канализации имело принципиальное значение для улучшения санитарного состояния города.

сельскохозяйственную продукцию. В это время в Минске насчитывалось 470 улиц, которые имели длину почти 200 км. Реконструкция города органично дополнялась новостройками, расширением городской территории, содействовала формированию столичного вида Минска. Он должен был усовершенствоваться по новому генеральному плану, разработка которого была завершена в 1940 г.

***Развитие коммунального хозяйства.*** В результате военных, революционных событий, деятельности оккупационных режимов коммунальное хозяйство Минска находилось в чрезвычайно тяжелом положении. Жители города страдали от антисанитарных условий. Колодцы долгое время не ремонтировались. Водопроводная сеть была сильно повреждена. В городе не хватало канализационных сооружений, поэтому городская грязь стекала в реки Немигу и Свислочь. Вымощенных камнем улиц было совсем немного. Такое положение городского хозяйства совсем не соответствовало столичному городу.

С начала 1920-х г. городские власти предприняли ряд мер по улучшению условий жизни минчан. Значительное внимание уделялось улучшению обеспечения водой. В 1925 г. длина уличной сети водопровода достигла 45 км. В это время им пользовались 3/5 городского населения. На протяжении 1926—1928 гг. возможности водопровода увеличились на 20%, однако удовлетворение потребностей населения в воде было недостаточным. В связи с этим на протяжении 1931—1933 гг. производилась реконструкция водопроводной сети. Ее протяженность возросла до 60 км, что позволило подавать воду и на некоторые городские окраины.

Велось строительство канализационной сети. В 1930 г. она была сдана в эксплуатацию. Ее протяженность составила 30 км. Использование канализации имело принципиальное значение для улучшения санитарного состояния города.

сплуатацыю. Яе працягласць складала 30 км. Выкарыстанне каналізацыі мела прынцыповае значэнне для паляпшэння санітарнага стану горада.

На працягу 1926—1927 гг. моцна забруджаная рака Няміга была ўзята ў жалезабетонную трубу-калектар. У горадзе таксама будаваліся лазні, пральні, пашыралася азеляненне. У 1933 г. быў адкрыты гарадскі парк культуры і адпачынку (цяпер — парк Чэлюскінцаў). Яго стварылі на месцы, дзе раней знаходзіўся Камароўскі лес (лес Ваньковіча).

У вялікай ступені стан камунальнай гаспадаркі Мінска вызначаў унутрыгарадскі транспарт. У пачатку 1920-х г. ён быў прадстаўлены толькі конкай. Тым не менш перавозка пасажыраў павялічылася з 653 тыс. у 1922 г. да амаль 1,4 млн. у 1925 г. Аднак гэтага было зусім недастаткова. Таму прымаліся меры да выкарыстання машын на ўнутрыгарадскіх перавозках пасажыраў. У 1924 г. пачаўся рух аўтобусаў, якія злучылі з цэнтрам горада рабочыя ўскраіны — Камароўку, Ляхаўку, Старажоўку. У 1925 г. аўтобусамі было перавезена амаль 1,2 млн. мінчан. Але на працягу 1920-х г. конская цяга адыгрывала важную ролю ў перавозцы як пасажыраў, так і грузаў.

У мэтах паляпшэння гарадской гаспадаркі ўсё больш настойліва паўставала пытанне аб развіцці ў горадзе электратранспарту. У сувязі з гэтым у пачатку 1928 г. СНК Беларускай ССР прыняў пастанову «Аб будаўніцтве трамвая ў Мінску». Ужо ў кастрычніку наступнага года першая чарга трамвайнай лініі была здадзена ў эксплуатацыю. Дапамога ў гэтай важнай справе была аказана Масквой і іншымі гарадамі краіны. Трамвай злучыў Таварную станцыю з Камароўкай. Ён карыстаўся вялікім попытам у мінчан і гасцей сталіцы. За 1929/1930 гаспадарчы год ім было перавезена амаль 11 млн. пасажыраў.

Выкарыстанне трамвая ў Мінску ў наступны час удасканальвалася і пашыралася. На працягу 1931—1937 гг. даўжыня трамвайнага пуці павялічылася амаль удвая з 18 да 35 км. Пры гэтым

На протяжении 1926—1927 гг. сильно загрязненная река Немига была заключена в железобетонную трубу-коллектор. В городе также строились бани, прачечные, расширялось озеленение. В 1933 г. был открыт городской парк культуры и отдыха (ныне — парк Челюскинцев). Его создали на месте, где прежде находился Комаровский лес (лес Ваньковича).

В большой степени состояние коммунального хозяйства Минска определял внутригородской транспорт. В начале 1920-х г. он был представлен только конкой. Тем не менее перевозка пассажиров возросла с 653 тыс. в 1922 г. до почти 1,4 млн. в 1925 г. Однако этого было совершенно недостаточно. Поэтому принимались меры к использованию машин для внутригородских перевозок пассажиров. В 1924 г. началось движение автобусов, которые соединили с центром города рабочие окраины — Комаровку, Ляховку, Сторожевку. В 1925 г. автобусами было перевезено почти 1,2 млн. минчан. Однако на протяжении 1920-х г. конная тяга играла важную роль в перевозке как пассажиров, так и грузов.

С целью улучшения городского хозяйства все более настойчиво вставал вопрос о развитии в городе электротранспорта. В связи с этим в начале 1928 г. СНК Белорусской ССР принял постановление «О строительстве трамвая в Минске». Уже в октябре следующего года первая очередь трамвайной линии была сдана в эксплуатацию. Помощь в этом важном деле была оказана Москвой и другими городами страны. Трамвай соединил Товарную станцию с Комаровкой. Он пользовался большим спросом у минчан и гостей столицы. За 1929/30 хозяйственный год им было перевезено почти 11 млн. пассажиров.

Использование трамвая в Минске в дальнейшем улучшалось и расширялось. На протяжении 1931—1937 гг. длина трамвайного пути увеличилась почти вдвое — с 18 до 35 км. При этом количество перевезенных на протяжении года пассажиров возросло с 17 до 40 млн. человек. Расширялся трамвайный парк: в

колькасць перавезеных на працягу года пасажыраў вырасла з 17 да 40 млн. чалавек. Пашыраўся трамвайны парк: у 1939 г. ён налічваў 43 вагоны і меў пэўную рамонтную базу. Будаўніцтва і пашырэнне выкарыстання трамвая ў асноўным забяспечвала на пэўных напрамках патрэбы жыхароў горада ва ўнутрыгарадскім транспарце.



*Мінскі завод «Пралетарый».*
*Минский завод «Пролетарий».*
*The Minsk works «A Proletarian».*

У цэлым камунальная гаспадарка Мінска ў 1920–1930-х г. зрабіла значны крок наперад. Яна ў асноўным адпавядала тагачасным патрабаванням.

***Быт і матэрыяльнае становішча мінчан.*** Важную, а магчыма, асноўную ролю ў жыцці чалавека, у тым ліку жыхара горада, адыгрывае жыллё. У пачатку 1920-х г. у Мінску жыллёвыя ўмовы былі надзвычай складаныя. Гэта звязана з вынікамі ваенна-палітычных падзей 1914—1920 гг.

Адбывалася значнае пераразмеркаванне жылля, якое рабілі органы савецкай улады. Гарадскі жыллёвы аддзел не толькі праводзіў нацыяналізацыю дамоў у заможных грамадзян, але атрымаў права канфіскоўваць у дробных уласнікаў да 30% жыллёвай плошчы. Яна раз-

1939 г. он насчитывал 43 вагона и имел определенную ремонтную базу. Строительство и расширение использования трамвая в основном обеспечивало на определенных направлениях потребности жителей города во внутригородском транспорте.

В целом коммунальное хозяйство Минска в 1920—1930-х г. сделало значительный шаг вперед. Оно в основном соответствовало требованиям времени.

***Быт и материальное положение минчан.*** Важную, а возможно, основную роль в жизни человека, в том числе жителя города, играет жильё. В начале 1920-х г. в Минске жилищные условия были чрезвычайно сложными. Это было связано с последствиями военно-политических событий 1914—1920 гг.

Происходило значительное перераспределение жилья, которое производили органы советской власти. Городской жилищный отдел не только проводил национализацию домов у зажиточных граждан, но получил право конфисковывать у мелких собственников до 30% жилищной площади. Она распределялась среди тех, на кого в первую очередь опиралась советская власть. Только за 1923 г. в городе было сделано 2,6 тыс. таких перераспределений жилья.

В связи с укрупнением БССР в середине 1920-х г., значительным увеличением территории и населения республики, расширением в связи с этим функций столичного города в Минск прибывали на работу сотрудники различных учреждений. Их размещение являлось для городских властей сложной проблемой. Положение несколько улучшилось, когда в 1925 г. возобновила деятельность знаменитая прежде гостиница «Европа». В значительной степени она выполняла функции комфортабельного отеля для высокопоставленных государственных лиц.

Однако общее положение с обеспечением жилой площадью жителей Минска оставалось сложным. Достаточно сказать, что в 1926 г. на одного его жителя приходилось только 4,4 кв. м жи-

маркоўвалася сярод тых, на каго ў першую чаргу абапіралася савецкая ўлада. Толькі за 1923 г. у горадзе было зроблена 2,6 тыс. такіх пераразмеркаванняў жылля.

У сувязі з узбуйненнем БССР у сярэдзіне 1920-х г., значным павелічэннем тэрыторыі і насельніцтва рэспублікі, пашырэннем у сувязі з гэтым функцый сталічнага горада ў Мінск прыбывалі на працу работнікі розных устаноў. Іх размяшчэнне з'яўлялася для гарадскіх улад складанай праблемай. Становішча некалькі палепшылася, калі ў 1925 г. аднавіла дзейнасць знакамітая раней гасцініца «Еўропа». У значнай ступені яна выконвала функцыі камфартабельнага атэля для высокапастаўленых дзяржаўных асоб.

Аднак агульнае становішча з забеспячэннем жыллёвай плошчай жыхароў Мінска заставалася складаным. Дастаткова сказаць, што ў 1926 г. на аднаго яго жыхара прыпадала толькі 4,4 кв. м жылой плошчы. У наступным годзе сярэдняя жылая плошча на аднаго жыхара горада складала толькі 70% ад мінімальнай санітарнай нормы. У выніку ажыццяўлення некаторага дзяржаўнага і пераважна прыватнага домабудавання становішча паступова паляпшалася. Ужо ў 1930 г. агульны памер жылой плошчы, якая прыпадала на аднаго мінчаніна, дасягнуў 5,7 кв. м.

У 1930-я г. ў горадзе павялічыліся не толькі тэмпы жыллёвага будаўніцтва, але і прыток новых жыхароў. Таму вастрыня жыллёвай праблемы заставалася. Пры гэтым павялічвалася колькасць жылля, якое з'яўлялася дзяржаўным. Да яго належала больш за 70% агульнага жыллёвага фонду горада. Па стане на 1 студзеня 1940 г. на аднаго мінчаніна, які пражываў у камунальных кватэрах, у сярэднім прыпадала 6 кв. м жылой плошчы.

Прынцыпова важным з'яўлялася пытанне падачы ў кватэры электрычнай энергіі. Нягледзячы на яе хранічны дэфіцыт, ужо ў 1922 г. ёю былі забяспечаны 4 тыс. кватэр супраць 1,4 тыс. у 1914 г. У наступны час праца па электрыфі-

лой площади. В следующем году средняя жилая площадь, на одного жителя города составляла только 70% от минимальной санитарной нормы. В результате осуществления некоторого государственного и преимущественно частного домостроительства положение постепенно улучшалось. Уже в 1930 г. общий размер жилой площади, которая



*В.М.Дубоўская — стаханаўка расфасовачнага цэха мінскай фабрыкі «Камунарка» за афармленнем першамайскіх дзіцячых падарункаў. 1938 г.*

*О.Н.Дубовская — стахановка расфасовочного цеха минской фабрики «Коммунарка» за оформлением первомайских детских подарков. 1938 г.*

*O.N.Dubovskaya — the worker of the packing department of the Minsk factory «Komunarka» at the designing children's presents for the 1th of May. 1938.*

приходилась на одного минчанина, достигла 5,7 кв. м.

В 1930-е г. в городе увеличились не только темпы жилищного строительства, но и приток новых жителей. Поэтому острота жилищной проблемы оставалась. При этом возрастало количество жилья, которое являлось государственным. К нему относилось более 70% общего жилищного фонда города. По положению на 1 января 1940 г. на одного минчанина, проживавшего в коммунальной квартире, в среднем приходилось 6 кв. м жилой площади.

кацыі кватэр, як і службовых памяшканняў, працягвалася.

Побач з жыллёвымі ўмовамі надзвычай важна было забяспечыць паляпшэнне матэрыяльнага становішча жыхароў горада, у першую чаргу іх харчаванне. Гарадскія органы савецкай улады практыкавалі бясплатную выдачу прадуктаў і прадметаў першай неабходнасці некаторым бяднейшым пластам насельніцтва. Найперш гэта датычылася рабочых і служачых, занятых на дзяржаўных прадпрыемствах і ў савецкіх установах. Паводле даных за студзень 1921 г., у Мінску бясплатнымі пайкамі карысталіся 16 тыс. чалавек. Аднак асноўная частка насельніцтва горада мела вялікія праблемы з набыццём прадуктаў харчавання. Да таго ж каштавалі вельмі дарага.



*У новым цэху па вырабе вялікіх ланцугоў для камбайнаў Мінскага завода імя Чкалава. 1939—1940 гг.*

*В новом цехе по производству больших цепей для комбайнов Минского завода имени Чкалова. 1939—1940 гг.*

*In a new workshop of the combine large chains production (Minsk Chkalov works). 1939—1940.*

У 1923 г. ў горадзе пачало дзейнічаць аддзяленне дзяржаўнага акцыянернага таварыства «Хлебапрадукт». Выпечка хлеба павялічылася да 1000 пудоў за дзень. Гэта было істотнай з'явай у паляпшэнні становішча. З пэўным выкарыс-

Принципиально важным являлся вопрос подачи в квартиры электрической энергии. Несмотря на ее хронический дефицит, уже в 1922 г. ею были обеспечены 4 тыс. квартир против 1,4 тыс. в 1914 г. В дальнейшем работа по электрификации квартир, как и служебных помещений, продолжалась.

Вместе с жилищными условиями чрезвычайно важно было обеспечить улучшение материального положения жителей города, в первую очередь их питание. Городские органы советской власти практиковали бесплатную выдачу продуктов и предметов первой необходимости некоторым беднейшим слоям населения. Прежде всего это касалось рабочих и служащих, занятых на государственных предприятиях и в советских учреждениях. По данным за январь 1921 г., в Минске бесплатными пайками пользовались 16 тыс. человек. Однако основная часть населения города имела большие проблемы с приобретением продуктов питания. К тому же стоили они очень дорого.

В 1923 г. в городе начало действовать отделение государственного акционерного общества «Хлебопродукт». Выпечка хлеба увеличилась до 1000 пудов в день. Это было существенным явлением в улучшении положения. С определенным использованием частного сектора в середине 1920-х г. удавалось лучше обеспечивать горожан продуктами питания.

Однако положение ухудшилось в конце 1920-х г. в связи с хлебозаготовительными трудностями в стране. В 1932—1933 гг., когда многие хлебные регионы были охвачены голодом, обеспечение питанием минчан было напряженным. Оно стало лучше после отмены в 1934—1935 гг. карточной системы на продукты питания и товары первой необходимости. В этих условиях городские власти наделяли минчан землей под индивидуальные огороды. Достаточно сказать, что в 1934 г. 3,2 тыс. рабочих предприятий Минска получили земельные участки для ведения индиви-

таннем прыватнага сектара ў сярэдзіне 1920-х г. удавалася лепш забяспечваць гараджан прадуктамі харчавання.

Аднак становішча пагоршылася пад канец 1920-х г. у сувязі з хлебанарыхтоўчымі цяжкасцямі ў краіне. У 1932—1933 гг., калі многія збожжавыя рэгіёны СССР былі ахоплены голадам, забеспячэнне харчаваннем мінчан было напружаным. Яно стала лепшым пасля адмены ў 1934—1935 гг. картачнай сістэмы на прадукты харчавання і тавары першай неабходнасці. У гэтых умовах гарадскія ўлады надзялялі мінчан зямлёй пад індывідуальныя агароды. Дастаткова сказаць, што ў 1934 г. 3,2 тыс. рабочых прадпрыемстваў Мінска атрымалі зямельныя ўчасткі для вядзення індывідуальнага агародніцтва. У 1940 г. з гэтай мэтай гарадскімі ўладамі было выдзелена амаль 1,9 тыс. га зямлі. Агароды дапамагалі гарадскім сем'ям мець пэўны мінімум неабходных прадуктаў.

На працягу 1920—1930-х г. гарадскія органы ўлады імкнуліся правесці ў жыццё агульнадзяржаўную ўстаноўку на тое, каб «вызваліць жанчын ад хатняга рабства». З гэтай мэтай у горадзе адкрываліся «паказальныя сталоўкі», дзе можна было харчавацца ўсёй сям'ёй. У канцы 1934 г. прыняла першых наведвальнікаў фабрыка-кухня — флагман грамадскага харчавання Мінска. У ёй на працягу дня за адпаведную плату маглі харчавацца некалькі тысяч чалавек. У 1939 г. па вуліцы Савецкай, у доме № 50, адкрыўся першы ў Беларускай ССР кафетэрый.

Заработная плата жыхароў Мінска ў міжваенны перыяд, як ва ўсёй рэспубліцы і дзяржаве, была нізкая. Згодна з сацыялістычнай мадэллю арганізацыі жыцця ў практыку паступова ўваходзілі грамадскія фонды спажывання. Яны выкарыстоўваліся для аплаты некаторых выдаткаў, у тым ліку пры набыцці пуцёвак на турбазы, у дамы адпачынку, санаторыі.

У паляпшэнні побыту гарадскога насельніцтва, асабліва рабочых і служачых, важнае значэнне мела ўвядзенне ў

дуального огородничества. В 1940 г. с этой целью городскими властями было выделено почти 1,9 тыс. га земли. Огороды помогали городским семьям иметь определенный минимум необходимых продуктов.

На протяжении 1920-х — 1930-х г. городские органы власти стремились провести в жизнь общегосударственную



*Лепшая стаханаўка 1-га цэха мінскай швейнай фабрыкі «Кастрычнік» Я.І.Дружко. 1939—1940 гг.*

*Лучшая стахановка 1-го цеха минской швейной фабрики «Октябрь» Е.И.Дружко. 1939—1940 гг.*

*The best Stakhanovite of the 1st workshop of the Minsk sewing factory «October» E.I.Druzhko. 1939—1940.*

установку на то, чтобы «освободить женщин от домашнего рабства». С этой целью в городе открывались «показательные столовые», где можно было питаться всей семьей. В конце 1934 г. приняла первых посетителей фабрика-кухня — флагман общественного питания Минска. В ней на протяжении дня за определенную плату могли питаться несколько тысяч человек. В 1939 г. по улице Советской в доме № 50 открылся первый в Белорусской ССР кафетерий.

Заработная плата жителей Минска в межвоенный период, как во всей республике и государстве, была низкой. Согласно социалистической модели организации жизни в практику постепенно

кастрычніку 1927 г. (напярэдадні 10-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі) у Савецкім Саюзе сямігадзіннага рабочага дня. Пераход на яго прадпрыемствамі Мінска быў завершаны ў пачатку 1930-х г. Гэта спрыяла паляпшэнню арганізацыі быту і адпачынку гараджан.

На аснове новай эканамічнай палітыкі значнае развіццё ў горадзе атрымаў гандаль. Ужо ў другой палове 1921 г. тут дзейнічалі 620 прыватных гандлёвых прадпрыемстваў. У адпаведнасці з афіцыйнай палітыкай дзяржавы ўжо ў сярэдзіне 1920-х г. гарадскія ўлады імкнуліся абмежаваць гандляроў-прыватнікаў. Гэтая лінія настойліва рэалізоўвалася. У 1926 г. ў Мінску засталося 98 прыватных гандлёвых кропак, а ў 1928 г. — толькі 25. У гэты час у горадзе працавалі 843 дзяржаўныя магазіны і ларкі. Хутка прыватнік быў поўнасцю выцеснены з гандлёвай сеткі.

З сярэдзіны 1930-х г. вядучае месца ў гандлі горада стала належаць Мінскаму ГУМу, які адкрыўся ў 1934 г. Тады ён размяшчаўся праз адзін квартал ад цяперашняга — на стыку вуліц Савецкай і Камсамольскай. Універсальны магазін меў два філіялы: дзіцячых і тэкстыльных вырабаў.

Важнае месца ў жыцці гараджан займала медыцынскае абслугоўванне. Яно паступова паляпшалася – адкрываліся новыя лячэбныя ўстановы, павялічваліся іх магчымасці ў лячэнні пацыентаў. Як і паўсюдна, у медыцынскай сферы асноўная роля хутка стала належаць дзяржаве. На працягу 1934—1940 гг. колькасць бальнічных устаноў у Мінску павялічылася з 12 да 20, а бальнічных ложкаў у іх з 1,7 тыс. да 3,4 тыс. У канцы 1940 г. ў горадзе працавалі 13 жаночых і дзіцячых кансультацый. Аддавалася ўвага самым маленькім мінчанам. У гэты час горад меў 47 ясляў на 2,8 тыс. месцаў.

Пашыраліся магчымасці для развіцця ў горадзе фізкультуры і спорту. З гэтай мэтай узводзіліся спартыўныя збудаванні. У 1933 г. ў раёне вуліцы Інтэрнацыянальнай пачаў працаваць Цэнтральны дом фізкультуры. Значнай

входили общественные фонды потребления. Они использовались для оплаты некоторых расходов, в том числе при приобретении путевок на турбазы, в дома отдыха, санатории.

В улучшении быта городского населения, особенно рабочих и служащих, важное значение имело введение в октябре 1927 г. (в канун 10-й годовщины Октябрьской революции) в Советском Союзе семичасового рабочего дня. Переход на него предприятиями Минска был завершен в начале 1930-х г. Это способствовало улучшению организации быта и отдыха горожан.

На основе новой экономической политики значительное развитие в городе получила торговля. Уже во второй половине 1921 г. здесь действовало 620 частных торговых предприятий. В соответствии с официальной политикой государства уже в середине 1920-х г. городские власти стремились ограничить торговцев-частников. Эта линия настойчиво реализовывалась. В 1926 г. в Минске осталось 98 частных торговых точек, а в 1928 г. — только 25. В это время в городе работали 843 государственных магазина и ларька. Вскоре частник был полностью вытеснен из торговой сети.

С середины 1930-х г. ведущее место в торговле города стало принадлежать Минскому ГУМу, который открылся в 1934 г. Тогда он располагался через квартал от современного здания — на стыке улиц Советской и Комсомольской. Универсальный магазин имел два филиала — детских и текстильных изделий.

Важное место в жизни горожан занимало медицинское обслуживание. Оно постепенно улучшалось – открывались новые лечебные учреждения, увеличивались их возможности в лечении пациентов. Как и повсеместно, в медицинской сфере основная роль быстро стала принадлежать государству. На протяжении 1934—1940 гг. число больничных учреждений в Минске увеличилось с 12 до 20, а больничных коек в них с более чем 1,7 тыс. до 3,4 тыс. В конце

падзеяй з'явілася адкрыццё ў 1934 г. стадыёна «Дынама», які тады мог умясціць да 10 тыс. чалавек.

У жыццё і побыт мінчан перыядычна ўносіла карэктывы рака Свіслач, якая вясною нярэдка значна выходзіла з берагоў. Так, у сярэдзіне сакавіка 1936 г. ўзровень вады на некалькі метраў перавысіў звычайны. У выніку пад вадой апынулася прыбярэжная частка парку імя М.Горкага, падыходы да Пуліхаўскай Слабады, шматлікія агароды і нават стадыён. Яшчэ большы ўзровень вады адзначаўся ў сярэдзіне красавіка 1941 г., калі былі затоплены дзесяткі прылеглых вуліц. Разлівы ракі можна было рэгуляваць пасля таго, як 18 чэрвеня 1941 г. пачалося запаўненне яе водамі Камсамольскага возера.

У паляпшэнні ўмоў жыцця і быту мінчан важная роля належала гарадскім уладам. У цэлым яны імкнуліся зрабіць сталіцу Беларускай ССР як мага лепшай для жыцця яе жыхароў. Сярод многіх кіраўнікоў, што працавалі ў 1920-я—1930-я г., нельга не назваць старшыню Мінскага гарадскога савета У.Ванеева. На гэтай пасадзе ён знаходзіўся з кастрычніка 1937 г. да пачатку Вялікай Айчыннай вайны і акупацыі горада нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Затым быў на фронце, дзе і загінуў. Адна з вуліц Мінска названа яго імем.

Такім чынам, у міжваенны перыяд дзякуючы рэканструкцыям, новабудоўлям, развіццю камунальнай гаспадаркі, асфальтаванню і азеляненню вуліц горад Мінск пасгупова набываў сталічны выгляд. Паляпшаліся ўмовы працы і жыцця гараджан. Насуперак цяжкасцям, матэрыяльным нястачам, складанасцям грамадска-палітычнага жыцця горад выконваў сталічныя функцыі, з'яўляючыся аб'ядноўваючым цэнтрам беларускай нацыі і ўсяго беларускага народа.

## 5. МІНСК – ЦЭНТР КУЛЬТУРНАГА І ГРАМАДСКАГА ЖЫЦЦЯ БССР

***Развіццё асветы, навукі, культуры.*** Мінск міжваенных дзесяцігоддзяў —

1940 г. в городе работали 13 женских и детских консультаций. Уделялось внимание самым маленьким минчанам. В это время город имел 47 яслей на 2,8 тыс. мест.

Расширялись возможности для развития в городе физкультуры и спорта. С этой целью возводились спортивные сооружения. В 1933 г. в районе улицы Интернациональной начал работать Центральный дом физкультуры. Значительным событием стало открытие в 1934 г. стадиона «Динамо», который тогда мог вместить до 10 тыс. человек.

В жизнь и быт минчан периодически вносила коррективы река Свислочь, которая весной нередко значительно выходила из берегов. Так, в середине марта 1936 г. уровень воды на несколько метров превысил обычный. В результате под водой оказалась прибрежная часть парка имени М.Горького, подходы к Пулиховской Слободе, многочисленные огороды и даже стадион. Еще более высокий уровень воды отмечался в середине апреля 1941 г., когда были затоплены десятки прилегающих улиц. Разливы реки можно было регулировать после того, как 18 июня 1941 г. началось заполнение ее водами Комсомольского озера.

В улучшении условий жизни и быта минчан важная роль принадлежала городским властям. В целом они стремились сделать столицу Белорусской ССР как можно лучшей для жизни ее жителей. Среди многих руководителей, которые работали в 1920—1930-е г., нельзя не упомянуть председателя Минского городского совета В.Ванеева. На этом посту он находился с октября 1937 г. до начала Великой Отечественной войны и оккупации города немецко-фашистскими захватчиками. Затем был на фронте, где и погиб. Одна из улиц Минска названа его именем.

Таким образом, в межвоенный период благодаря реконструкциям, новостройкам, развитию коммунального хозяйства, асфальтированию и озеленению улиц, город Минск постепенно приобретал столичный вид. Улучшались

адзін з савецкіх гарадоў, які найбольш дынамічна развіваўся і да канца 1920-х г. ператварыўся ў значны цэнтр навуковага і культурнага жыцця. Аднак працэс гэты быў складаны і супярэчлівы.

Новая культурная прастора стваралася пры дапамозе значнага спектра мерапрыемстваў. Сярод іх — фарміраванне новага культурнага асяроддзя



*Сярэдняя школа №4. 1930-я г.*
*Средняя школа №4. 1930-е г.*
*The secondary school N 4. 1930s.*

шляхам шматлікіх перайменаванняў. Першыя перайменаванні ў Мінску праходзілі ў 1919, 1922 гг. У гэты час вуліцы атрымалі імёны К.Маркса, Ф.Энгельса, К.Лібкнехта, Р.Люксембург, Я. Свярдлова, В.Валадарскага, М.Урыцкага, з'явілася плошча Парыжскай камуны, Губернатарскі парк стаў садам «Прафінтэрн». У 1930-я г. яшчэ шэраг вуліц атрымаў імёны рэвалюцыянераў і камуністычных дзеячаў: С.Кірава, В.Куйбышава, А.Мяснікова, К.Цэткін, В.Чапаева, М.Шчорса і інш. Узніклі вуліцы Савецкая, Народная, Чырвонаармейская, Камуністычная і г.д. Рэвалюцыйныя назвы даваліся прадпрыемствам, навучальным установам.

Старыя гербы і эмблемы саступалі месца савецкай сімволіцы, руйнаваліся амаль усе помнікі Расійскай імперыі, условия труда и жизни горожан. Наперекор трудностям, материальным проблемам, сложностям общественно-политической жизни город выполнял столичные функции, являясь объединяющим центром белорусской нации и всего белорусского народа.

## 5. МИНСК – ЦЕНТР КУЛЬТУРНОЙ И ОБЩЕСТВЕННОЙ ЖИЗНИ БССР

***Развитие просвещения, науки, культуры.*** Минск межвоенных десятилетий — один из наиболее динамично развивающихся советских городов, который к концу 1920-х г. превратился в значительный центр научной и культурной жизни. Однако процесс этот был сложным и противоречивым.

Новое культурное пространство создавалось при помощи значительного спектра мероприятий. Среди них — формирование новой культурной среды путем многочисленных переименований. Первые переименования в Минске происходили в 1919, 1922 гг. В это время улицы получили имена К.Маркса, Ф.Энгельса, К.Либкнехта, Р.Люксембург, Я.Свердлова, В.Володарского, М.Урицкого, появилась площадь Парижской коммуны, Губернаторский парк стал садом «Профинтерн». В 1930-е г. еще ряд улиц получил имена революционеров и коммунистических деятелей: С.Кирова, В.Куйбышева, А.Мясникова, К.Цеткин, В.Чапаева, Н.Щорса и др. Появились улицы Советская, Народная, Красноармейская, Коммунистическая и т.д. Революционные названия давались предприятиям, учебным заведениям.

Старые гербы и эмблемы уступали место советской символике, демонтировались почти все памятники Российской империи, новые памятники открывались в честь революционеров и лиц, отнесенных к прогрессивным деятелям. В Минске началом реализации этого плана стали памятник солдату-революционеру (1917 г., скульптор А.Краснопольский) и временный бюст-памятник К.Марксу

новыя помнікі адкрываліся ў памяць рэвалюцыянераў і асоб, аднесеных да прагрэсіўных дзеячаў. У Мінску пачаткам рэалізацыі гэтага сталі помнік салдату-рэвалюцыянеру (1917 г., скульптар А.Краснапольскі) і часовы бюст-помнік К.Марксу (1920 г., скульптар К.Елісееў). Новабудуемыя ўрадавыя ўстановы шырока аздабляліся барэльефамі і тэматычнымі пано, скульптурнымі кампазіцыямі на тэмы рэвалюцыйнай барацьбы і сацыялістычнага будаўніцтва. Так, пры ўзвядзенні Дома ўрада была створана галерэя скульптурных партрэтаў: К.Маркса і Ф.Энгельса (скульптар М.Керзін), Г.Бабёфа, Ф.Дзяржынскага, А.Мяснікова (скульптар З.Азгур), М.Чарнышэўскага (скульптар А.Арлоў), К.Лібкнехта (скульптар Г.Ізмайлаў), цэнтрам скульптурна-архітэктурнай кампазіцыі стаў помнік У.Леніну (скульптар М.Манізер). Скульптурным аздабленнем суправаджалася будаўніцтва Дома афіцэраў, Палаца піянераў і іншых будынкаў.

Беларуская інтэлігенцыя паступова далучалася да пераўтварэнняў. У Мінск на пастаяннае месца жыхарства прыехалі Я.Купала, Я.Колас, М.Гарэцкі, Ц.Гартны, А.Гурло, Я.Журба, М.Чарот, іншыя дзеячы культуры.

Менавіта Мінск разглядаўся ў якасці фактычна адзінага месца для адкрыцця універсітэта. У 1921 г. для працы ў Беларускім дзяржаўным універсітэце ў Мінск прыехаў яго першы рэктар У.І. Пічэта, а таксама М.А.Прыляжаеў, М.М.Нікольскі, іншыя вядомыя вучоныя. З лістапада 1921 г. пачалі працу 3 факультэты універсітэта: грамадскіх навук, медыцынскі і рабфак, на якіх навучалася 1250 студэнтаў, працавала 14 прафесараў, 40 выкладчыкаў, 10 асістэнтаў, 9 лектараў.

Яшчэ адным цэнтрам, які прыцягнуў да сябе найбольшую колькасць вядомых навукоўцаў, стаў створаны на базе Навукова-тэрміналагічнай камісіі Наркамасветы ў 1922 г. Інстытут беларускай культуры, рэарганізаваны ў 1929 г. ў Беларускую акадэмію навук. Абвяшчэн-

(1920 г., скульптор К.Елисеев). Строящиеся правительственные учреждения широко украшались барельефами и тематическими панно, скульптурными композициями на темы революционной борьбы и социалистического строительства. Так, при возведении Дома правительства была создана галерея скульптурных портретов: К.Маркса и Ф.Энгельса (скульптор М.Керзин), Г.Бабёфа, Ф.Дзержинского, А.Мясникова (скульптор З.Азгур), Н.Чернышевского (скульптор А.Орлов), К.Либкнехта (скульптор Г.Измайлов), центром скульптурно-архитектурной композиции стал памятник В.Ленину (скульптор М.Манизер). Скульптурным украшением сопровождалось строительство Дома офицеров, Дворца пионеров и других зданий.



*Выступленне фізкультурнікаў на стадыёне «Дынама» пасля парада ў гонар 20-й гадавіны ВЛКСМ. 1938 г.*

*Выступление физкультурников на стадионе «Динамо» после парада в честь 20-й годовщины ВЛКСМ. 1938 г.*

*The gymnasts performance in the stadium «Dynamo» in honour of the 20th anniversary of VLKSM (The All-Union Lenin Young Communist League). 1938.*

Белорусская интеллигенция постепенно присоеднннлась к преобразованиям. В Минск на постоянное место жительства приехали Я. Купала, Я.Колас, М.Горецкнй, Т.Гартный, А. Гурло,

